

## За багаты ўраджай

Вясна сёлета позняя, капрызная. Заходні вецер наганяе цёмныя хмары, сячэ халодны дождж. Даўно не было такіх халодных вёснаў. Гэта выклікала неабходнасць спяшацца з сяўбой, выкарыстоўваць кожны спрыяльны дзень.

Самааддана працавалі механізатары рэспублікі. Днём і ўночы, пры святле фар, працавалі трактары. Паміж механізатарамі, МТС, раёнамі і абласцямі разгарнулася соцыялістычнае спаборніцтва за лепшае правядзенне веснавой сяўбы.

І вось сяўба закончана. На тысячах гектараў зелянеюць усходы яравых, прабіваюць зямлю парасткі кукурузы, цукровых буракоў. Цяпер у калгаснікаў новыя клопаты. Трэба дагледзець пасевы, вырасціць багаты ўраджай.

Ідзе падкормка яравых. На поўдні пачалася апрацоўка пасеваў кукурузы, прапалваюцца цукровыя буракі.

Многа работы і ў механізатараў. Апрацоўка міжраддзяў, уздым папараў, падрыхтоўка да ўборкі ўраджаю.

Гэты здымак зроблены ў Гомельскай МТС. Тут працуе многа моладзі. У час веснавой сяўбы камсамольцы былі ў першых радах. У ліку лепшых быў і Леанід Кезікаў.

На здымку: **Леанід Кезікаў за рулём.**

Фото А. Дзітлава.

---

На першай старонцы вокладкі: **На Мінскім заводзе трактарных запасных частак. Камсамолец Міхаіл Ляшкевіч за работай на складаным каардынатна-расточным станку.**

На чацвёртай старонцы вокладкі: **Самалёт санітарнай авіяцыі даставіў урача ў сельскі раён.**

Фото А. Дзітлава.

# НА ПАРОЗЕ ВЯЛІКАГА ЖЫЦЦЯ



Рыгор Шапараў (у цэнтры) расказвае аб тым, як ён лётаў на самалёце.

У кожнага маладога чалавека, які ступае на парог самастойнага жыцця, ёсць многа крылатых мараў. Часта гэтыя мары бываюць лятуценныя, створаныя багатай юнацкай фантазіяй. Тады маладому чалавеку прыходзіцца нярэдка доўга стаяць на бездарожжы, капацца ў тайніках свайго сэрца, якое падказала-б прызванне, здольнае вывесці яго на жыццёвую сцежку. У такіх выпадках юнаку, дзяўчыне патрэбна парада старэйшага чалавека або сябра, які нядаўна перажыў тое-ж самае.

Многія маладыя людзі, якія хутка атрымаюць атэстат сталасці, задумваюцца цяпер над пытаннем, дзе прымяніць свае веды, гарачае сэрца і маладыя рукі. Юнацтва не ўмее хаваць сваіх задушэўных планаў. Як хочацца зараз даведацца дзесяцікласнікам аб жыцці і працы сваіх старэйшых сяброў-аднашкольнікаў, якія раней за іх атрымалі пуцёўку ў жыццё!

Нядаўна адбылася вельмі цікавая сустрэча дзесяцікласнікаў Заліпскай сярэдняй школы з выпускнікамі мінулага года. Не паспелі Таня Тунікава, Павел Белянкоў і Грыша Шапараў узыйсці на парог роднай школы, як іх акружылі дзесяцікласнікі. Пасыпаліся пытанні, завязалася гутарка.

У цэнтры ўвагі Павел Белянкоў. Гэта чарнявы, нізкага росту, з жывымі вачыма юнак. Ён збянтэжаны тым, што не ўмее красамоўна расказваць, часта збіваецца, замаўкае. У гэты час ён папраўляе рукой валасы, шукае патрэбныя словы. Калі хлапцы-дзесяцікласнікі паставілі прама пытанне, якую-ж ён выбраў сабе прафесію, то Павел, не задумваючыся, адказвае:

— Буду лётчыкам-рэактыўнікам.

А цяпер Павел працуе ў родным калгасе імя Будзённага. Нічым асаблівым за год ён не вызначыўся. Працуе так, як і многія аднавяскоўцы.

— Усё навучыўся ўжо рабіць, — гаворыць ён, — і касіць, і араць, і сена вазіць з лугу.

Летась пасля школы Павел выпрацаваў больш 60 працадзён. Упершыню за сваё жыццё ён атрымаў восенню заработак і нядрэнны: 120 кілаграмаў хлеба, каля 300 кілаграмаў бульбы і 120 рублёў грашыма.

У адной паляводчай брыгадзе з Паўлам працуе і Грыша Шапараў. Ён таксама рыхтуецца стаць лётчыкам-рэактыўнікам. Цяжкавата прыходзіцца хлопцам — не хочацца адстаць і на рабоце ў калгасе, а трэба два-тры разы ў тыдзень, вось ужо на працягу амаль года, хадзіць за сем кілометраў на занятні ў Гомельскі аэраклуб. Павел і Грыша ўжо зрабілі па два пробныя палёты на самалёце, па разу скочылі з парашутам.

— Страшна? — дапытваюцца ў іх хлопцы-дзесяцікласнікі.

— Толькі перад прыжком, — ненатуральна сур'ёзна адказвае Грыша.

— Штосьці не верыцца, — іранічна заўважаюць дзяўчаты.

— Што вы разумееце тут? — перабіваюць іх пакрыўджаныя юнакі.

Пачынаецца дыскусія аб мужчынскіх і жаночых прафесіях. І як заўсёды, праўда застаецца на баку дзяўчынак.

На працягу гутаркі нічога яшчэ не сказала Таня Тунікава. А гэтая маўклівая, маленькая, з тоненькімі кісцямі рук дзяўчынка магла-б расказаць больш за Паўла і Грышу, з якімі яна скончыла школу. Паўгода яна працуе ў калгасе даяркаю. Проста не верыцца, што такія тоненькія, амаль дзіцячыя рукі могуць штодзённа па два разы выдойваць чатырнаццаць кароў. Адкуль у такога дзеўчаняці столькі сілы? А Таня цяпер надойвае ад кожнай каровы па 6—8 літраў малака ў суткі, не адстае ад перадавых вопытных даярак. Да канца года яна разлічвае надаіць на карову не менш, чым па 1200—1300 кілаграмаў малака.

Дзяўчынкам цікава больш падрабязна распытаць у Тані аб яе рабоце, аб тым, куды яна думае паступіць вучыцца. Але Таня нечакана для ўсіх заяўляе:

— Буду працаваць даяркаю, палюбіла я гэтую работу.

— Не ўсім інжынерамі ды дактарамі быць, — сярдзіта перабівае дзяўчынак Міша Шчэрбакоў. — Хто як, а я цвёрда вырашыў — атрымаць атэстат і гайда ў Гомельскую школу механізацыі — на трактарыста. Работа, праўда, пыльная,



Таня Тунікава (злева) цвёрда заявіла: — Буду працаваць даяркай, гэтую работу я палюбіла.

Пралетарыі ўсіх краін, яднайцеся!

МАЛАДОСЦЬ

Штомесячны літаратурна-мастацкі і грамадска-палітычны часопіс Цэнтральнага Камітэта ЛКСМ Беларусі.

Газетна-часопіснае выдавецтва Галоўвыдата Міністэрства культуры БССР, Мінск.

Год выдання IV.

№ 6 (39).

Чэрвень.

1956 г.

але паважаная. У нашым калгасе трактарысты не менш за інжынераў зарабляюць.

— Я таксама далей роднага калгаса не збіраюся, — ціха і пранікнёна гаворыць Тамара Рыкава. — Але думаю пайсці ў калгас не інакш, як аграномам. Падабаецца мне гэтая прафесія — праца ў ёй твая відаць. Не ўдасца паступіць у сельскагаспадарчы інстытут, скончу адпаведны тэхнікум, а свайго даб'юся.

Аграномам хоча прыйсці ў родны калгас і Анатоль Макараў. Веды, якія дала школа, думаюць прымяніць у сельскай гаспадарцы Мікалай Шапавалаў, Аляксандр Шапараў, Наташа Жытнікава і многія другія дзесяцікласнікі Заліпскай сярэдняй школы.

Любоў да працы, да роднага калгаса нястомна з году ў год прывівалі дзесяцікласнікам іх настаўнікі. З дзіцячага ўзросту кожнага з сваіх выпускнікоў ведае класны кіраўнік Віктар Карпавіч Белянкоў. Ён нарадзіўся ў калгасе імя Молатава, тут вучыўся, а цяпер выхоўвае дзяцей сваіх аднавяскоўцаў. Віктар Карпавіч гаворыць сваім выпускнікам:

— Лепш за ўсё працаваць у роднай вёсцы. Тут усё вядома, проста.

Доўга яшчэ вядзецца маладая, гарачая размова. Нагаварыўшыся, дзесяцікласнікі разыходзяцца па школьным двары. Тут заўсёды чыста прыбрана, навокал многа насаджэнняў. Маладыя дрэўцы, якія сваімі рукамі сёлетняй вясной пасадзілі дзесяцікласнікі, учэпіста пачалі сваё новае жыццё. Пройдзе якіх-небудзь пяцьшэсць год і тут будзе прыгожы школьны сквер.

Шырокія дарогі да шчасця ў нашых савецкіх юнакоў і дзяўчат. Нельга не верыць у тое, што ўсе дзесяцікласнікі Заліпскай школы, якія так горача вядуць зараз дыскусіі аб будучым, выбяруць сабе прафесію па густу і здольнасцях. І зноў праз якіх-небудзь пяць-шэсць год многія з іх збяруцца ў роднай школе ўжо аграномамі, калгаснымі брыгадзірамі, трактарыстамі, лётчыкамі. Прыдуць і падзякуюць сваім настаўнікам, якія далі ім веды — самую лепшую пуцёўку ў жыццё.

Гомельскі раён,
Заліпская сярэдняя школа.

Мікалай ЛАПУСТА.

— Усё навучыўся: і касіць, і араць, — гаворыць Павел Белянкоў.

Фота А. Дзітлава.



Справы нашы камсамольскія

# Па закліку партыі!

Здаецца яшчэ нядаўна над краінай гучаў баявы заклік Камуністычнай партыі: асвоіць неабсяжныя цалінныя прасторы Казахстана і Сібіры, Алтая і Паволжжа. І больш за сотні тысяч юнакоў і дзяўчат адгукнуліся на заклік. Сярод іх былі і тысячы пасланцоў камсамола Беларусі. Беларускі народ паправу ганарыцца сваімі землякамі, якія плячо ў плячо з рускімі, украінцамі, казахамі і іншымі працаўнікамі нашай многанацыянальнай айчыны, не шкадуючы сваіх сіл, працуюць на новых землях Казахстана.

Цэнтральны Камітэт КПСС і Савецкі ўрад, у адпаведнасці з задачамі шостай пяцігодкі, звярнуўся з новым заклікам да нашай моладзі: паўней скарыстаць багацейшыя прыродныя рэсурсы Усходу і Поўначы, накіраваўшы на будаўніцтва электрастанцый, новых заводаў, руднікоў і шахт, чыгунак сотні тысяч юнакоў і дзяўчат. І наша моладзь зноў адзінадушна заяўляе:

«Калі партыя сказала, мы адказваем — ёсць!»

Юнакі і дзяўчаты Беларусі горача, ад шчырага сэрца адгукнуліся на заклік партыі.

На мітынгу маладых будаўнікоў трэста № 3 гор. Мінска камсамолец Іван Сушко, начальнік аддзела тэхнічнага кантролю завода, заявіў:

— Я па спецыяльнасці тэхнік-будаўнік, і я добра разумею, як там патрэбны людзі маёй спецыяльнасці на будоўлях Усходу і Сібіры. Я з радасцю іду будаваць заводы, электрастанцыі, шахты, як гэта рабілі камсамольцы першых пяцігодак. Няхай часцінка і маёй працы ўвальецца ў агульную высокародную справу.

Гэтыя словы Івана Сушко горача падтрымалі камсамольцы-будаўнікі: Марыя Маргун, Станіслаў Барысаў, Аляксандр Дзямідовіч, Іван Дзідзейка, Барыс Гудзінскі, Ева Яўтушэнка, Леанід Трапянок.

— Мая спецыяльнасць — бетоншчыца, — гаварыла Марыя Маргун. — Я магу працаваць на іншых будаўнічых работах. І я хачу працаваць там, куды нас кліча родная Камуністычная партыя. Няхай мая «Камсамольская пуцёўка», якую я вазьму ў рукі, будзе мне пуцёўкай у новае нязведанае шчаслівае жыццё.

У сваёй заяве на імя сакратара Ленінскага райкома камсамола гор. Мінска тэхнік-дарожнік «Белдзяржпраекта» камсамолец Аляксандр Забенька напісаў:

«З найвялікшай радасцю я сустрэў заклік партыі і ўрада паехаць на будоўлі шостай пяцігодкі. У мяне няма іншага жадання, апрача жадання бачыць сваю Радзіму яшчэ багацейшай і прыгажэйшай. Прашу накіраваць мяне на выкананне цяжкай, але пачэснай задачы — будаўніцтва новых заводаў Далёкага Усходу».

Заклік партыі знайшоў гарачы водгук у сэрцах моладзі трактарнага і аўтамабільнага заводаў, будаўнікоў Мінска, камсамольцаў Гомеля, Віцебска, Брэста, Гродна і іншых гарадоў нашай рэспублікі, у студэнтаў ВНУ, тэхнікумаў. Слесар УНГ-517 трэста № 68 Эдуард Трацеўскі ў сваёй заяве напісаў: «У мяне яшчэ невялікі стаж работы. Усяго каля двух год, як я скончыў школу ФЗН. Але хіба мала, калі памножыць свае веды на велізарнае жаданне сумленна працаваць? Хачу быць першым там, куды кліча партыя. Гэта маё цвёрдае рашэнне».

У камітэты камсамола прамысловых прадпрыемстваў і будоўляў, ВНУ і тэхнікумаў, у райкомы камсамола штодзённа паступаюць заявы ад маладых патрыётаў. Кожны з іх гарыць жаданнем — зрабіць сваю Радзіму яшчэ больш цудоўнай, яшчэ больш магутнай.

Пачаўся вялікі і высокародны рух моладзі на Усход, у Сібір, на Поўнач — у багацейшыя раёны нашай краіны, на рыштаванні шостай пяцігодкі. І ён з кожным днём будзе шырыцца. І ў гэтым вялікім руху зоймуць пачэснае месца пасланцы нашай роднай рэспублікі.



Адзін з лепшых мантажнікаў будаўніцтва І. Зубараў.

НА БУДОЎЛЯХ ШОСТАЙ ПЯЦІГОДКІ

# ЗАВОД ВЫСОКАЙ ТЭХНІКІ

**«Увесці ў дзеянне на поўную магутнасць завод аўтаматычных ліній і спецыяльных агрэгатных станкоў... у Мінску...»**

(З Дырэктыў XX з'езда КПСС па шостаму пяцігадоваму плану.)

Новая фабрыка. Новы завод. Колькі разоў з вялікай радасцю, з законным гонарам за нашу любімую Радзіму вымаўлялі мы гэтыя словы за апошнія гады. Толькі ў пятай пяцігодцы ў строй дзеючых уступілі падшыпнікавы завод, завод жалезабетонных вырабаў, радыёзавод, завод атапляльнага абсталявання і каналізацыйных труб у Мінску, завод электравымяральных прыбораў і шоўкаткацкая фабрыка ў Віцебску, дзесяткі абутковых, цагельных, ільнапрацоўчых і іншых прадпрыемстваў. Зусім нядаўна, напярэдадні адкрыцця XX з'езда КПСС, сваю першую прадукцыю выпусцілі гадзіннікавы завод і завод запасных трактарных частак, камвольны камбінат.

А якія грандыёзныя, сапраўды велічныя планы будаўніцтва намечаны ў шостай пяцігодцы! Магутныя электрастанцыі, нафтаперапрацоўчыя заводы, дзесяткі вялікіх і малых фабрык і заводаў. Адной з буйнейшых навабудоўляў шостай пяцігодкі з'яўляецца і завод аўтаматычных ліній, агрэгатных спецыяльных станкоў і прэсаў, які будзе ўведзены ў дзеянне на поўную магутнасць.

Пройдземся па велізарнай будаўнічай пляцоўцы, паднімемся на рыштаванні цэхаў, пазнаёмімся з праектам новага прадпрыемства.

Больш 20 гектараў зоймуць вытворчыя карпусы завода-гіганта. Усюды, куды ні кінеш погляд, бачны магутныя машыны — аўтасамазвалы, вежавыя краны, бульдозеры...

— Яшчэ зусім нядаўна тут быў пустыр,— расказвае майстар будаўнічага ўчастка Арсень Канстанцінавіч Каралёў. — А цяпер палюбуйцеся...

І сапраўды, ёсць чым палюбавацца. Поўным ходам ідзе закладка фундамента галоўнага корпуса, спецыяльнага канструктарскага бюро. Узведзены сцены, робіцца мантаж металічных канструкцый, жалезабетонных бэлек ліцейнага, кавальскага, мадэльнага цэхаў, заканчваецца будаўніцтва адкрытай пляцоўкі і цэха па вырабу зборнага жалезабетону.

Большасць будаўнікоў — муляраў, цесляроў, мантажнікаў, электразваршчыкаў, вадзіцеляў аўтамабіляў, кранаўшчыкоў — камсамольцы і моладзь. На многіх аб'ектах можна ўбачыць юнакоў камсамольска-маладзёжнай брыгады Сямёна Івашкі. Гэты калектыў заваяваў усеагульную павагу сваёй стараннасцю, працавітасцю. Камсамольцы Аляксей Валасевіч, Пётр Каўчанка, Нікалай Рабушка, Сцяпан Магілянчык працуюць на будоўлі не так даўно. Яны ўжо могуць не толькі ўстанаўліваць рыштаванні, рабіць апалубку, укладваць пліты, але і выконваць складаныя мантажныя работы, а калі спатрэбіцца — і кельму ў рукі возьмуць.

З вялікай спрытнасцю працуюць верхалазы-мантажнікі камсамольцы Міхаіл Білецкі і Аляксандр Клімовіч, муляры з брыгады Аркадзя Зелюка, геадэзіст Уладзімір Курленя і іншыя.



Камсамольцы-муляры Аляксандр Навіцкі і Аляксандр Сарока на будаўніцтве завода аўтаматычных ліній.

Магутныя краны разгружаюць жалезабетонныя пліты для будаўніцтва ліцейнага цэха.



Але вернемся на завод. Пакуль ідуць будаўнічыя работы, больш 70 канструктараў працуюць над чарцяжамі новых станкоў, прэсаў, агрэгатаў. Ужо ў будучым, 1957 годзе канструктарскае бюро будзе налічваць каля 500 чалавек.

Аўтаматычныя лініі для комплекснай апрацоўкі дэталей, спецыяльныя прыборы для аўтаматычнага кантролю за вагой, тэмпературай, цвёрдасцю, чыстатой апрацоўваемых дэталей, свідравальныя, такарныя, фрэзерныя многашпіндэльныя станкі, спецыяльныя і агрэгатныя камбінаваныя станкі, спецыялізаваныя гідраўлічныя прэсы, многашпіндэльныя такарныя поўаўтаматы — вось няпоўны пералік прадукцыі, якую будзе вырабляць новае прадпрыемства. Але і гэта не ўсё. Вядома, што кожная аўтаматычная лінія — гэта цэлы комплекс складаных агрэгатаў: гідраўлічныя прэсы для штампоўкі або выцяжкі нарыхтовак, металаапрацоўчыя агрэгатныя аўтаматы для свідравання, расточкі, шліфавання і інш. Каб асвоіць выпуск такіх складаных агрэгатаў, на заводзе будзе ўстаноўлена самае навейшае абсталяванне, поўнасцю механізаваны працаёмкія працэсы вытворчасці. Шырокае выкарыстанне знойдуць навейшыя тэхналагічныя працэсы, апошнія дасягненні навукі і тэхнікі.

XX з'езд КПСС паставіў перад сацыялістычнай прамысловасцю пачэсную задачу — на базе пераважнага развіцця цяжкай прамысловасці, няспыннага тэхнічнага прагрэсу і павышэння прадукцыйнасці працы забяспечыць далейшы магутны рост усіх галін народнай гаспадаркі. Збудаванне ў Мінску завода аўтаматычных ліній, спецыяльных агрэгатных станкоў і прэсаў будзе садзейнічаць выкананню гэтай задачы, далейшай барацьбе савецкага народа за тэхнічны прагрэс.

...Сямён Івашка ўзняўся на рыштаванні. Перад ім раскінулася велічная панарама будоўлі. Сямён агледзеўся навокал, і вочы яго засвяціліся радасцю.

— Добрая наша прафесія, але хутка, відаць, прыдзецца мяняць яе,— сказаў ён, звяртаючыся да Аляксея Валасевіча, які ўстанаўліваў апалубку.

— Чаму?— запярэчыў Аляксей.— Хіба абрыдла цяслярская справа ці лепшае што знайшоў?

— Шукаць лепшае не трэба,— каротка адказаў Сямён.— Бачыш, якія карпусы выраслі! Хутка абсталяванне пачнуць устанаўліваць. А хто? Зноў мы з табой. Думаю падвучыцца ды пайсці на свой завод і працаваць. Там нашыя рукі вельмі патрэбныя.

Словы «свой завод» хлопец падкрэсліў, і не без падставы. Гэтыя словы можа сказаць не толькі Сямён Івашка, але сотні іншых юнакоў і дзяўчат, якія ўзводзяць карпусы завода-гіганта — самага магутнага станкабудаўнічага прадпрыемства ў Беларусі.

**Я. ДУБРОВІН.**



Геадэзіст Уладзімір Курленя за работай.

Фота С. Чырэшкіна і М. Мінковіча.




## Вера Мяцько і яе сяброўкі

Гэта было напрадвесні мінулага года. Калгаснікі гутарылі пра палявыя работы. Калі ўспомнілі пра лён і каноплі, нехта кінуў:

— На нашых землях не парастуць!..

— Парастуць! — пачуўся дзявочы голас.

Усе агледзеліся, каб убачыць, хто гэта такі смяльчак. А дзяўчына сама праціскалася ўжо да стала.

— Мы вырашылі вырошчваць лён і каноплі, — перасільваючы хваляванне, загаварыла яна.

— Хто гэта «мы»? — перабіў дзяўчыну той самы чалавек, які толькі што не згаджаўся з прапановай дзяўчат.

— Камсамольцы!

Большасць сходу падтрымала дзяўчат — Веру Мяцько і яе сябровак. Ім адвялі ўчастак.

Члены звяна старанна ачысцілі насенне, сабралі шмат попелу.

Калі лён і каноплі пасеялі, Вера тут-жа разбіла плошчу на загоны — для кожнага члена звяна.

Пачалася ўпартая праца на полі. Паявіліся ўсходы. Цэлымі днямі дзявочыя хусцінкі відаць былі сярод зеляніны. Дзяўчаты і палолі і падкормлівалі лён. Калі нечакана прайшоў лівень з градам і лён палёг, яны перабралі сцяблінкі рукамі, песцілі кожнае каліва. Затое, якой радасцю свяціліся вочы дзяўчат, калі лён разліўся сінімі азёрамі... Своечасова закончылі церабленне, абмалот ільну.

— Шэсць цэнтнераў на гектар! — паведаміла сяброўкам звеннявая. — На першы раз няблага...

І валакно атрымалася нядрэннае. Усё здадзена дзяржаве 18-м нумарам. Добра ўрадзілі і каноплі. Кожны гектар даў больш як па дваццаць тысяч рублёў прыбытку.

Сёлета маладыя ільнаводы ўзяліся вырасціць яшчэ большы ўраджай. Яны добра ўгноілі зямлю, упару і адборным насеннем засеялі яе, пасевы падкармілі попелам і мінеральнымі ўгнаеннямі.

Па прыкладу Веры Мяцько сёлета яшчэ два маладзёжныя звяны ўступілі ў змаганне за высокі ўраджай ільну і канапель. Іх узначалілі камсамолкі Леаніда Паўлоўская і Алена Кухмар.

Лета пакажа, хто выйдзе пераможцам.

**К. САНКЕВІЧ і М. ЗАЛЕСКІ.**

Калгас імя Кірава,
Старадарожскага раёна.

## Паветраныя вартаўнікі

Дзесяць год назад над лясамі Беларусі ўпершыню паявіліся патрульныя самалёты. Паветраныя вартаўнікі ўзялі на сябе ахову лясных багаццяў рэспублікі ад пажараў і павялі барацьбу з небяспечнымі шкоднікамі лесу.

Патрульныя самалёты можна бачыць над лясными масівамі Гомельскай, Брэсцкай, Мінскай і Магілёўскай абласцей. Лётчыкі і наглядальнікі вядуць машыну па прывычнаму маршруту. Самалёт рэгулярна аблятае заданую яму тэрыторыю. Пілоты ў часе палётаў абследуюць мясцовасць, хутка выяўляюць ачагі пажараў.

Вось з машыны, якая ідзе на вышыні 600 метраў, лётчык заўважае клубы дыму і агонь. Пажар! Тут-жа на барту складаецца данясенне. На схеме, якую малюе наглядальнік, указваецца кірунак ветру, сіла агню, магчымы варыянт расстаноўкі людзей для барацьбы з пажарам. Лётчык можа вельмі дакладна ўказаць месца агню, характар лесу і нават паказаць перашкоды на шляху полымя. Данясенне ўкладваецца ў кішэньку вымпела і праз 10—15 хвілін скідваецца ў бліжэйшы лесгас, лясніцтва або кардон. Сігнал прыняты, і людзі накіроўваюцца да небяспечнага ачагу.

Нават з параўнаўча невялікай вышыні, на якой ідзе патрульны самалёт, лётчыку добра бачна прастора на 30 кіламетраў. Гэта дазваляе хутка і дакладна вызначыць ступень небяспекі і прыняць неабходныя меры. 80 працэнтаў усіх узнікшых лясных пажараў і іх распаўсюджванне за апошнія гады былі вызначаны і папярэджаны паветранымі патрулямі. Так было выратавана нямала лесу.

На дапамогу лётчыкам-наглядальнікам, якія маюць высокую кваліфікацыю і добра ведаюць «свае» лясныя раёны, цяпер прышлі парашутысты-пажарныя. Гэтая пасада нядаўна ўведзена Галоўным упраўленнем лясной гаспадаркі Міністэрства сельскай гаспадаркі БССР. За кароткі тэрмін паветраныя пажарныя паспелі ўжо многае зрабіць. Яны правяраюць санітарны стан лясоў, праводзяць гутаркі з насельніцтвам, а ў патрэбны момант прыходзяць на дапамогу рботнікам лясной аховы. Нярэдкія выпадкі, калі яны спраўляюцца з агнём самастойна.

Самалёты ўсё больш выкарыстоўваюцца ў барацьбе са шкоднікамі лясных насаджэнняў. Авіяцыйнае апыленне рознымі ядахімікатамі дае добрыя вынікі. Рознастайныя вусені, небяспечныя шкоднікі лесу, цалкам гінуць пасля авіяапылення. Санітарны стан лесу значна паляпшаецца. Гэты спосаб барацьбы са шкоднікамі атрымае сёлета яшчэ большае пашырэнне.

## Навіны навукі і тэхнікі

На ўстаноўцы загараецца чырвоная лямпачка. Гэта — сігнал, які папярэджвае аб небяспечным перагрэву трансфарматара. Праз імгненне пачынаюць вярцецца лопасці вентылятара. Іх прывёў у дзеянне «гаспадар устаноўкі» — маленькі поўправаднікові элемент даўжынёю ў паўтара міліметра і дыяметрам у поўміліметра. Поўправаднік ліквідуе ненармальны стан. Трансфарматар ахалоджваецца вентылятарам і працягвае працаваць без спынення.

Прыбор аўтаматычнага кіравання абдзіманнем трансфарматара зроблен Інстытутам энергетыкі Акадэміі навук БССР. Яго схема заснавана на прымяненні поўправадніковых тэрмасупраціўленняў і дазваляе рабіць уключэнне і адключэнне вентылятараў аўтаматычна, паніжаць тэмпературу без удзелу чалавека і ў патрэбны момант. Зараз на Смалявіцкай ГРЭС пачалася падрыхтоўка і ўстаноўка такіх поўправадніковых прыбораў. Гэта дасць магчымасць значна скараціць непрадукцыйныя расходы электраэнергіі, эканоміць сродкі.

Металаапрацоўчая прамысловасць Беларусі, якая хутка развіваецца, мае патрэбу ў фармовачных матэрыялах Для адліўкі металаў пясок дастаўляецца з-пад Масквы і з Тамбоўскай вобласці. Кошт такога пяску вельмі высокі.

Кафедра металазнаўства Беларускага політэхнічнага інстытута прышла на дапамогу металаапрацоўчай прамысловасці рэспублікі. Абследаванне 36 месцанараджэнняў пяску ў розных абласцях рэспублікі паказала іх прыгоднасць для фармоўкі металаў.

Навуковыя работнікі Беларускага політэхнічнага інстытута за апошні час стварылі шэраг арыгінальных прыбораў.

У многіх памяшканнях Мінска зроблена новая сістэма для аўтаматычнага рэгулявання тэмпературы цэнтральнага вадзяного ацяплення. Выпрабаванні паказалі, што дзякуючы аўтаматычнаму рэгуляванню ствараецца роўнамерная тэмпература, зніжаецца расход цяпла, знікае патрэбнасць у ручным рэгуляванні.

Распрацавана канструкцыя аўтамата для вырабу цэментнапяшчанай і аўтаклаўнай чарапіцы. Новы аўтамат дае за змену прадукцыі столькі, колькі дваццаць рабочых пры ручной фармоўцы. Такімі аўтаматамі хутка будуць забяспечаны многія прадпрыемствы Беларусі.

**М. ВЯРШЫНІН.**



**На будаўніцтве завода аўтаматычных ліній. Перадавая комсамольска-маладзёжная брыгада цесляроў Сямёна Івашкі вяртаецца з работы.**

Фото С. Чырэшкіна і М. Мінковіча.



Максім ГОРКІ

# Гутарка з маладымі

...З якіх элементаў складаецца мастацкая літаратура, стварэнне словамі вобразаў, тыпаў, характараў, адлюстраванне пры дапамозе слоў падзей рэчаіснасці, малюнкаў прыроды, працэсаў мышлення?

Першаэлементам літаратуры з'яўляецца мова, асноўны сродак яе і — разам з фактамі, з'явамі жыцця — матэрыял літаратуры. Адна з найбольш мудрых народных загадак вызначае значэнне мовы такімі словамі: «Не мёд, а да ўсяго ліпне». Гэтым сцвярджаецца, што ў свеце няма нічога, што не было-б названа. Слова — адзенне ўсіх фактаў, усіх думак. Але за фактамі схаваны іх сацыяльныя сэнсы, за кожнай думкай схавана прычына: чаму тая або іншая думка іменна такая, а не інакшая. Ад мастацкага твора, які ставіць сваёй мэтай адлюстраваць схаваныя ў фактах сэнсы сацыяльнага жыцця ва ўсёй іх значнасці, паўнаце і яскравасці, патрабуецца выразная, дакладная мова, старанна выбраныя словы. Іменна такой мовай пісалі «класікі», выпрацоўваючы яе паступова, на працягу стагоддзяў. Гэта сапраўды літаратурная мова, і хаця яе чэрпалі з гутарковай мовы працоўных мас, яна рэзка адрозніваецца ад сваёй першакрыніцы, таму што, адлюстроўваючы апісальна, яна адкідвае з моўнай стыхіі ўсё выпадковае, часовае і нетрывалае, капрызнае, фанетычна скажонае, не супадаючае па розных прычынах з асноўным «духам», г. зн. ладам агульнапляменнай мовы. Само сабой зразумела, што гутарковая мова застаецца ў размовах людзей, якіх паказвае літаратар, але застаецца ў колькасці нязначнай, патрэбнай толькі для больш пластычнай, выпуклай характарыстыкі паказваемай асобы, для большага ажыўлення яе.

...Другім элементам літаратуры з'яўляецца тэма. Тэма — гэта ідэя, якая нарадзілася ў вопыце аўтара, падказваецца яму жыццём, але гняздзіцца ва ўмяшчальні яго ўражанняў яшчэ неаформлена і, патрабуючы ўвасаблення ў вобразах, узбуджае ў ім цягу да працы яе афармлення.

Існуюць так званыя «вечныя» тэмы: смерць, каханне, таксама іншыя, створаныя грамадствам, пабудаваным на індывідуалізме; тэмы гэтыя: рэўнасць, помста, скупасць і г. д.

...Ва ўмовах, якія ставрае бяскласавае, сацыялістычнае грамадства «вечныя» тэмы літаратуры часткова зусім адміраюць, знікаюць, часткова-ж змяняецца іх сэнс. Наша эпоха прапаноўвае тэмы нязмерна больш значныя і трагічныя, чым смерць чалавечай адзінкі, якой-бы буйнай ні з'яўлялася яе сацыяльная каштоўнасць. Індывідуалістаў гэта не суцешыць, але індывідуалізм асуджаны гісторыяй на смерць.

Трэцім элементам літаратуры з'яўляецца сюжэт, г. зн. сувязі, супярэчнасці, сімпатыі, антыпатыі і наогул узаемаадносіны людзей — гісторыя росту і арганізацыі таго ці іншага характару, тыпу. Мне здаецца, што гэтымі трыма элементамі амаль цалкам вычэрпваецца змест паняцця літаратура, калі гэтае паняцце абмежаваць «белетрыстыкай» — драмай, раманам, аповесцю, апавяданнем. Далей можна гаварыць аб прыёмах, «стылі», але гэта ўжо суб'ектыўныя асаблівасці дараванняў аўтараў. Вядома, і за гэтымі асаблівасцямі схаваны тыя або іншыя аб'ектыўныя паказчыкі іх «генезіса» — паходжання і развіцця.

...Прывычка працаваць на маленькім, на дробязях вядзе да таго што, калі наш літаратар бярэцца за вялікі сюжэт, напрыклад, за будаўніцтва прамысловага камбіната, ён перагружае сэнсавую, ідэалагічную тэму апісаннем мноства найдрабнейшых дэталей і хавае яе пад вялізнай кучай папяровых кветак свайго красамоўства, звычайна не вельмі яркіх. Дэталізацыя перашкаджае і шкодзіць нават там, дзе яна больш дарэчы, дзе працэсы перавыхавання, перараджэння чалавека з індывідуаліста ў калектывіста развіваюцца параўнаўча больш павольна, напрыклад, у калгасным будаўніцтве. Той-жа схільнасцю да дэталей я тлумачу і сумныя, але таксама звычайныя ў нас факты: літаратар здае ў друк першую частку сваёй кнігі, а наступнай няма, бо ён патрацілу ўжо ўвесь сабраны матэрыял і далей яму няма аб чым пісаць.

Пачынаць працу вялікімі раманамі — гэта вельмі дрэнная манера, іменна ёй мы абавязаны тым, што ў нас выдаецца мноства славеснага хламу. Вучыцца пісаць трэба на маленькіх апавяданнях, як гэта рабілі амаль усе буйнейшыя пісьменнікі на Захадзе і ў нас. Апавяданне прывучае да эканоміі слоў, да лагічнага размяшчэння матэрыялу, да выразнасці сюжэту і наглядгасці тэмы. Але, калі я параіў аднаму здольнаму літаратару адпачыць ад рамана, папісаць апавяданні, ён адказаў: «Не, апавяданне занадта цяжкая форма». Выходзіць, што гармату прасцей зрабіць, чым пісталет.

...Маладая наша літаратура расце хутка і шчодра. Аднак ці адказвае яна на запытанні, якія прад'яўляюцца ёй нашай рэчаіснасцю? Трэба проста сказаць: яшчэ не адказвае. Чым гэта тлумачыцца? На мой погляд, слабым ідэалагічным і тэхнічным узбраеннем маладых літаратараў. Няведаннем імі гісторыі сваёй краіны і яе людзей, якімі яны былі да рэвалюцыі. Няведаннем, якое пазбаўляе аўтараў магчымасці разумець рэзкае ўнутранае адрозненне сучаснага з мінулым і дастойна ацэньваць сучаснае. Няправільнымі адносінамі да жыцця, у якім іх увага спыняецца пераважна на адмоўных з'явах яго і як-бы не заўважае з'яў, што патрабуюць умацавання, развіцця. Выбарам дробных анекдатычных тэм, захапленнем дэталямі ў буйных творах і наогул працай «па лініі найменшага супраціўлення» матэрыялу.

Гэта не папрокі па адрасу пачынаючых літаратараў, гэта сяброўскае ўказанне шляху, ідучы якім яны могуць хутка і моцна вырасці.

На здымку: М. Горкі выступае перад рабселькорамі.

---

шынёй, з брыгадзірамі, аднак ні Крычульскі, ні нават Семяняка, які трошачкі пабойваўся Ірыны, не напомнілі зла. Калі аграномы-практыканты выязджалі з калгаса імя Леніна, Крычульскі на развітанне сказаў:

— Арнольд Рыгоравіч, канчайце свой інстытут і прыязджайце да нас у калгас. Рады будзем вам.

Арнольд і Іра ўспрынялі гэтае запрашэнне, як ацэнку сваёй работы. І хоць тое, што рабілі яны ў калгасе, не заўсёды задавальняла іх, аднак гэта ўжо была тая першая прыступка высокай і крутаватай лесвіцы, па якой ім давядзецца ўзыходзіць на вышыню сваёй прафесіі савецкага агранома.

Сталасць да чалавека прыходзіць непрыкметна, і сёння ён пачынае глядзець на рэчы неяк інакш, чым учора. Як толькі Арнольд з Ірай увайшлі ў свой інтэрнацкі пакойчык, як вецер, уляцела туды Лена Мудрая.

— Ірачка, як я рада, што вы прыехалі!..

— Дык і мы-ж рады, што ты прыехала. Ну, як там наша Смаргоншчына пажывае? — спытала Іра.

— Жыве, красуе,— адказала Лена.

Дзяўчаты пачалі дзяліцца ўражаннямі ад практыкі. Іра расказала пра ўсё, што яны рабілі ў калгасе, а Лене не цярпелася расказаць пра брыгадзіра Смаргонскай МТС Віктара Балыша.

— Гэтак я на савеце МТС узяла яго ў стос, што ён круціўся, як на гарачай патэльні. Я яму прыпомніла і мелкае ворыва, і агрэхі, і ўсе абсеўкі. А ён сядзеў і гарэў ад сораму, як сухая лучына. Не было яму чым адбівацца ад маёй крытыкі, дык ён устаў дый ляпнуў:

— Каб я, таварышы, быў нежанаты ды хоць разы са два схадзіў з гэтай нашай аграномшай на танцы, дык яна-б, канешне, гэтак не чарніла мяне. Але ў мяне-ж жонка.

Лена не чакала і не прадбачыла такога павароту, таму яна нават не знайшлася, што адказаць Балышу, слёзы пакаціліся ў яе з вачэй, і яна вылецела з пасяджэння совета.

— Я яму, недавярку, не дарую гэтага. Паеду туды працаваць, дык я яму напомню. Ён у мяне будзе, як шаўковы, — скончыла Лена.

Арнольд убачыў, што не толькі да яго з Ірай прышла сталасць, а што яна не абмінула і Лены Мудрай, хоць Лена ўсё яшчэ неяк не цураецца сваёй дзявочай дураслівасці.

Час бег неўзаметку. Апошні экзамен па асновах земляробства быў апошнім днём студэнцкага хвалявання, але і Арнольд, і Іра здалі яго на выдатна. І вось цяпер яны ўсім інтэрнатам ідуць на выпускны вечар. Ляшчэнка Сяргей з Наташай Алісейка, Жамойдзік Расціслаў з Валянцінай Ганчарук. Усе яны адзеты па-святочнаму, узбуджаныя і ўзрушаныя ўрачыстасцю моманту. Адно толькі Лена Мудрая нейкая адменная... Яна ідзе адна, і як толькі дайшлі да гарадскога парку, дураслівая крыкнула:

— Што мне з вамі, жанацікамі, ісці. Вы-ж прапашчыя людзі, пазавязвалі сабе свет.

— І ты хутка завяжаш, — хацеў сказаць Арнольд, але не паспеў. Лена ўжо недзе знікла за паркавай агарожай...

Вечар быў сапраўды ўрачысты. Усе сто пяцьдзесят шэсць выпускнікоў-аграномаў і заатэхнікаў былі апрануты па-святочнаму. Яны кружыліся ў апошнім студэнцкім вальсе, сядзелі за святочнымі сталамі, прыгублялі чаркі, баючыся ахмялець, каб запомніць на ўсё жыццё гэты апошні свой вечар. Арнольд з Ірай сядзелі пасярэдзіне залы. Ён раз-по-разу выймаў з кішэні пуцёўку, у якой было напісана, што Арнольд Маёр накіроўваецца аграномам у Суражскую МТС, а Ірына Маёр — у калгас зоны Суражскай МТС. Іра крыху была засмучоная на гэтым развітальным вечары. Яе запрашалі на вальс, але яна не адыйшла ад Арнольда. Яна думала аб тым, што вось гэтак усё жыццё не адыйдзе ад яго — яна будзе з ім дзяліць заўсёды і гора, і радасць. І ім будзе гэтак добра, добра. Няхай хоць і цяжка, але яна, як і Арнольд, палюбіла ўжо сваю прафесію агранома, і цяпер ім не страшны ніякія выпрабаванні. Заўтра яны выйдуць на шырокі, неаглядны прастор калгасных палёў, каб зрабіць іх яшчэ больш шчодрымі на аплату працы калгаснікаў, працы іх, аграномаў.

Заўтра яны скажуць:

— Бывай, родны інстытут, бывай Гродна. Добры дзень, шырокі прастор палёў!




# Завязь

**І. ДУБРОЎСКІ**

**Апавяданне**

Мал. А. Кашкурэвіча.

Трохтонка падскоквала на тоўстых вузлаватых карэннях, якія пераплыталі лясную дарогу. У адхон паднятага ветравога шкла хвалямі біла мяккае цёплае паветра, напоўненае веснавымі пахамі лесу. Ціхан, паклаўшы рукі на руль, дыхаў на поўныя грудзі і пазіраў на ствалы дрэў, якія мітусіліся ў вачах, скакалі, то густа збягаючыся, то разбягаючыся, і адступалі назад. Голлі дрэў узнімаліся ўгору, цягнуліся да сонца; на бярозах ужо з'явіўся зялёны пушок першага лісця.

Ціхан захапляўся прыгожым карагодам дрэў, і кожны раз, калі расхінаўся лес і, як-бы шырокім экранам, паказвалася сіняе неба, сэрца радасна ўздрыгвала: «Ну, вось і Залессе. А ці там яна? Ці не змянілася што-небудзь?..»

Побач з ім падрэмваў, клюючы носам у каўнер паліто, яго начальнік — Ягор Калістратавіч Мачулін. Начальніка не цікавіла хараство прыроды. Ад дальняй дарогі Мачуліна агарнуў сон, хаця і ў яго, на думку Ціхана, былі падставы цікавіцца Залессем. А можа ён і стараўся прыхапіць сну ў дарозе, каб вечарам у Залессі можна было лішнюю гадзіну пакруціцца каля буфетчыцы. Мачулін — воўк стрэляны!

Яшчэ адна прасека, шырокая, з праблескам воблачнага неба, з шэрымі ўзгоркамі ўдалечыні. «Яна, апошняя!» — пазнаў Ціхан і прыгнуўся да руля, каб у зручны момант зірнуць яшчэ раз на знаёмы прыгорак, засаджаны садам. Між стваловў мільганула нешта белае, накшталт дзявочай пастаці ў белай кофце. Ціхан павярнуўся ў той бок, збочыў машыну, яна падскочыла, наляцеўшы колам на гнілы пень.

— Што?.. Чаго?.. — стукнуўшыся галавой аб сценку кабіны, спытаў спалоханы Мачулін.

— Матор заглух, — адказаў Ціхан, тузаючы ручку дзверцаў.

Адразу-ж, як толькі машына спынілася, гул матора замяніўся музычнымі гукамі веснавога лесу. Спевы птушак і шолах вершалін пад лёгкімі павевамі ветрыку захапілі Ціхана яшчэ глыбей.

— Эх, як прыгожа!..

Але ўсё гэта захапленне раптам сапсавала гучнае пазяханне начальніка. Ён пацягнуўся ў кабіне, упёршыся нагамі ў перадок, скалануўся, як ад холаду, і сказаў:

— Зяўка праглынуў. Заводзь!

— Ого-гоў!.. Дзяўчаты, машына! — зазвінеў у лесе пераліўчатым рэхам дзявочы голас.

Ціхан таропка павярнуўся і ўбачыў каля самай дарогі тую-ж дзяўчыну ў белай кофце.

Пазнаўшы Ціхана, яна абрадавана ўсміхнулася, прыклала абедзьве далоні да рота рупарам і гукнула:

— Мальвіна! Ціхан!

На дарогу выбегла Мальвіна з цэлай чародкай дзяўчат.

— Ціша, добры дзень, — радасна сказала яна. — Падвязеш колле, Ціша?

— Што Ціша, што Ціша? — замармытаў Мачулін, вылушчваючыся з кабіны.

— О, Ягор Калістратавіч! — здзіўлена прагаварыла Мальвіна, даючы гэтым яму зайздросную ацэнку.

— Ці не ў сваты? Удвох... — заўважыла дзяўчына, якая гукала, і падміргнула сяброўкам.

— Ха-ха-ха, — зазвінеў смех вясёлай дзявочай ватагі. — Вяселле! Два вяселлі! Два запар. Хто жаніцца, а хто прыжэньвацца. Ха-ха-ха!

— Падвязіце колле, Ягор Калістратавіч, — какетліва смеючыся, ні то прасіла, ні то прапанавала Мальвіна.

— Якое колле, якое колле?.. Машыну забрудзіце, — жартаваў Ягор Калістратавіч, знарок жадаючы захаваць пэўную дыстанцыю ў адносінах між гуллівай чарадой дзяўчат і сабою. Яго трошкі збянтэжыла слова «прыжэньвацца».

— Колле! Малады сад гарадзіць. Дзесяць гектараў яшчэ прысадзілі! А ну, давай, дзяўчаты, навальвай! — скамандавала Мальвіна.

Дзяўчаты рынуліся цягаць колле к дарозе. І адкуль у іх браўся спрыт!

Пакуль Ціхан ладкаваў матор (а тут яшчэ рукі чамусьці дрыжалі і страцілася ўпэўненасць, што матор завядзецца), дзяўчаты нагружалі машыну. Мачулін тым часам сядзеў на вільготным пні, курыў з прытворнай і важнай задумлівасцю і наглядаў за рухамі дзяўчат.

Мальвіна падыйшла да Ціхана, прысела каля матора побач з ім і спытала:

— Не заводзіцца? А ты не хвалюйся. Да нас ці далей?

— Каб не да вас, то і колле не браў-бы, — важна, не трацячы заклапочанасці і не адрываючы позірку ад матора, адказаў Ціхан.

— А ў нас як прыгожа цяпер! Хутка сад зацвіце.

— У вас заўсёды прыгожа, заўсёды ўсё цвіце, — нібы пазайздросціў Ціхан.

Канешне, Мальвіна зразумела гэты камплімент, як чаканы адказ на яе запаветныя думы, і супакоілася. А Ціхан зразумеў пытанне, куды яны едуць. Гэтымі словамі было сказана ўсё.

Ціхан паспакайнеў, пасур'ёзнела Мальвіна. Матор хутка завёўся, і машына пад песню дзяўчат рушыла на Залессе.

У мінулую восень Ціхан прыязджаў сюды з Мачулінам разы са тры па бульбу і гародніну. У кожны прыезд яны з Мачулінам затрымліваліся на некалькі дзён. Тады і ўпадабаў ён Мальвіну.

Мачулін-жа ўсё аціраўся каля «закусачнай», што стаяла кіламетры за два ад Залесся, пры шашы. Ён быў ласы не да сухіх бутэрбродаў, віною была буфетчыца Ксеня, удава з сумнымі вачыма, з ледзь падмаляванымі брывамі і губамі. Яна заўсёды маўчала і гутарку вяла мімікай: вачыма, брывамі, кіўком галавы, усмешкамі кіслымі, светлымі, хітрымі, загадкавымі.

Большую частку дня Ксені не было чаго рабіць, і яна аблакачвалася на падаконнік і, пакуль не заходзіў хто, глядзела ў акно, удалечыню, на блытаны пісяг дарогі, якая то знікала ў лагчыне, то зноў у далечыні ўскідвалася на ўзгорак. Туды і сюды беглі самыя рознастайныя машыны: гружаныя і пустыя праносіліся трохтонкі, сатрасаючы зямлю, праходзілі дваццаціпяцітонныя самазвалы, прабягалі жвавыя «Пабеды» і «Масквічы».

Муж Ксені Уладзімір памёр, вярнуўшыся з фронта цяжка параненым. Ксеня кахала яго. І ён любіў сваю Ксеньку.

Застаўшыся ўдавой, Ксеня патроху стала думаць аб сваім лёсе. Сустракаліся людзі, але кожнага яна параўноўвала са сваім Уладзікам і не знаходзіла падобнага. Хутка яна прымірылася, паверыўшы, што двойчы ў жыцці не выбіраюць і двойчы не кахаюць. Так і вырашыла жыць адна, гадаваць дачку Таню, глядзець то са смуткам, то з абыякавасцю на сумятлівую дарогу, хоць іншы раз і думалася, што можа там, за гарызонтам, дзе знікае дарога, блукае недзе і яе шчасце.

Першы раз Мачулін увайшоў у буфет якраз у такі момант, калі там было пуста, а Ксеня, абапёршыся локцямі на падаконнік, глядзела на пажоўклыя асеннія далі, залітыя святлом халоднага ўжо сонца.

— Добры дзень!

Ксеня адвярнулася ад акна і кіўнула галавой.

— Сумуеце? Пуста.

Ксеня ўзняла бровы і паціснула плячыма, што не азначала ні згоды, ні пярэчання.

— Ці ў вас што закусіць знойдзецца?

Ксеня кіўком галавы паказала на буфет. Мачулін падышоў да прылаўка, агледзеў тое, што было на ім.

— Заляжалыя тавары. А гарачага чаго няма?

Ксеня адмоўна пакруціла галавой.

— Што, у вас горла баліць?

Ксеня недаўменна ўзняла бровы і ледзь прыкметна ўсміхнулася, прыжмурыўшы вочы.

«Нямая», — падумаў Мачулін і стаў тыцкаць пальцам у бутэрброды. Узняў затым указальны палец, разануў яго другім накрыж і шчоўкнуў пстрычкай сябе па горле.

Ксеня кіўнула галавой, што зразумела, наліла поўшклянкі гарэлкі і падала закуску. Хвілін праз пяць яна, нібы проста праходзячы да акна міма стала, за якім закусваў здзіўлены Мачулін, паклала яму рахунак. Мачулін разлічыўся, чамусьці казырнуў і выйшаў.

«Загадка»... — думаў ён.

Увечары спытаў у Мальвіны:



Ціхан з першага разу палюбіў Залессе, з першай сустрэчы яму спадабалася Мальвіна. Трапіў ён сюды выпадкова: загадаў Мачулін ехаць — і паехаў. Як-бы выглядала жыццё людзей, каб у кожнага не было гэтай шчаслівай выпадковасці?..

Мачуліна прываблівала ў Залессе самая простая патрэба — харчы. Ездзячы па бульбу, капусту і яблыкі, наткнуўся і ён на чалавечую душу — самотную ўдаву Ксеню. Ці была гэтая яго душэўная патрэба, ці глядзеў ён на Ксеню гэтак-жа, як на капусту, агуркі ці яблыкі, Ціхан не ведаў. Але чамусьці не ўзлюбіў ён за гэтыя паводзіны свайго начальніка, бо ведаў, што дома думаюць аб ім і дзеці, і жонка.

Спыніўся Ціхан, як і раней, у бацькоў Мальвіны, якія, маючы прыгожую дачку, схільна адносіліся да маладога сціплага госця. Уладкаваўшы машыну пад паветку, хлапец захацеў памыцца, і Мальвіна ўзялася паліваць яму на рукі. Аперацыя гэтая не магла прайсці спакойна. У дрыготкім і чыстым, як ляснoе рэха, смеху Мальвіны адчувалася свавольства. Свавольства гэтае абуджалася радасцю сустрэчы і шукала свайго выйсця. Яно прабівалася ў хітраватай усмешцы, вірылася ў маленькіх ямачках пругкіх, апаленых веснавым загарам шчок, агеньчыкамі ўспыхвала ў сініх, як пралескі, прыжмураных вачах. Пры такім настрої вельмі лёгка збіцца і замест таго, каб паліць на рукі, зложаныя прыгаршчамі, плёхнуць ко-наўку вады Ціхану за каўнер. Заліваючыся рогатам, Мальвіна ўскалыхнула вядро, каб abліць Ціхана па ўсёй шчырасці, але ён спрытна адскочыў убок. Мальвіна за ім, ён у веснічкі і на вуліцу.

— Буфетчыца, што пры дарозе,— нямая?

— Ого, яшчэ якая галасістая. Удава. Сумуе, з таго і маўчыць.

«Ага, удава, падфарбаваныя бровы, падмазаныя губы... Сумуе. Акуратненька адзета».

Мачулін і забегаў у буфет па некалькі разоў на дзень. Паеў усе заляжалыя бутэрброды, падчысціў, што было ў буфеце, а ад буфетчыцы — ні слова. Ксеня не была прыгажуняй, толькі і магла прывабіць падцягнутым стройным станам і акуратнасцю. Але Мачуліна вабіла не знешнасць яе, а становішча — удава. Адно гэтае слова не давала яму спакою.

Вось і на гэты раз, як толькі машына дайшла да закусачнай, ён загадаў Ціхану спыніцца, вылез з кабінкі і сказаў:

— Валі, а я прыду пасля. Варон не лаві, — і падміргам паказаў на кузаў, дзе сядзелі дзяўчаты і паціху спявалі.

Ціхан стаяў на вуліцы за густым парканам, Мальвіна прытулілася за шулам веснічак з вядром напагатове. Веснічкі павольна адчыніліся, і Мальвіна плёхнула вядро вады старшыні калгаса Дзям'яну Віктаравічу Каржаковічу прама на грудзі.

— Што гэта, што гэта за хуліганства, ліха вас абыйдзі!— адфыркваўся Дзям'ян Віктаравіч.

— Мальвіна... Ну, гэта-ж...— дакарала яе збянтэжаная маці, выскачыўшы з хаты, як на пажар.

За Дзям'янам Віктаравічам у сакольцы, з намыленымі рукамі ўвайшоў Ціхан і, аж прысядаючы, зарагатаў, паказваючы густыя моцныя зубы.

— Дзядзечка... Таварыш старшыня... Я... Вышла памылка,— разгублена гаварыла Мальвіна, уставіўшы вочы на старшыню, у якога, як са страхі ў адлігу, капалі празрыстыя кроплі з падбародка, з вушэй, з брыля шапкі. Затым Мальвіна сагнулася, войкнуўшы, ухапілася за жывот і зарагатала на ўвесь двор.

Прымірэнне наступіла тут-жа. Грунтам для яго было жаданне старшыні папрасіць, каб Ціхан падкінуў яшчэ возікаў пару колля для саду і прывёз слупкоў на агарожу. А лепш за ўсё, пераходзіў-бы ў калгас шафёрам. Машына выкуплена, а шафёра няма. Гэта адно, а другое — любіў Дзям'ян Віктаравіч Мальвіну, як дачку, любіў за неўгамонную весялосць, за працавітасць, за зайздросную і чыстую дзявочую смеласць.

Папалуднаваўшы, Ціхан з дзяўчатамі накіраваўся ў лес. Цяпер месца Мачуліна ў кабінцы машыны займала Мальвіна.

Прывёзшы колле, Ціхан разам з дзяўчатамі разносіў яго. У парнасці веснавога дня галасы дзяўчат гучалі прыглушана, не так звычна, як у набрынялым вільгаццю і веснавымі сокамі лесе. Мякка бухалі абухі якімі заганялі колле ў зямлю.

Малады сад больш вызначаўся свежымі кругамі бурай зямлі, чым дрэўцамі, і толькі расстаўленыя калкі надавалі яму выразны выгляд і рабілі радкі добра прыкметнымі і стройнымі. Побач з маладым быў стары сад, пасаджаны яшчэ да вайны. Развесістыя кроны яблынь былі густа ўсыпаны ружовымі бутончыкамі,— яшчэ дзень-два і ён пакрыецца белым пухам цвету.

На ўскраі старога саду стаялі пчолы — дзесяткаў каля шасці вулляў. Самы блізкі да вулляў рад маладых яблынек дзяўчаты прапанавалі падвязаць увечары, калі ўгамоняцца пчолы.

— А мой тата кажа: «пчолы гультаёў не любяць, а працавітага не чапаюць»,— сказала Мальвіна і ўзялася сама заганяць калы.

Ціхан трохі пабойваўся пчол, але мусіў дапамагаць Мальвіне, якая, відаць, і хацела праверыць яго смеласць. Да вулляў было метраў з дзесятак не больш. Пры першым-жа ўдары абухом па калу пчолы ўстрывожыліся. Адна дзынкнула каля вуха Ціхана, ён шлёпнуў сябе далоняй па шчацэ і раздушыў пчалу. Не паспеў адбіцца ад адной, як зараз-жа цэлая плойма пчол густой сеткай замільгацела ў вачах. Ціхан кінуўся наўцёкі, дзяўчаты з візгам за ім. А Мальвіна з рогатам бухнулася на зямлю і накінула на галаву касынку. Больш за ўсіх дасталося Ціхану: пчолы наджалілі яго так, што Мальвіна, прыйшоўшы дамоў, не пазнала хлопца.

Ціхан каля студні абліваў галаву халоднай вадой з вядра. Твар яго распух, стаў чысценькі, бялявы, пульхны, як падышоўшае цеста. Вочы зрабіліся маленькімі, рот скрываўся.

— Бацюхны, вось упрыгожылі!— усплеснула Мальвіна рукамі.— А мяне толькі адна, і то дзеля прыліку: па знаёмству.

Прыйшла маці Мальвіны і ўзялася лёзам нажа выцягваць джалы, але народная аперацыя гэта не ўдалася, Ціхану параілі забрацца ў халодны склеп-ляднік і прыкладаць лёд да пакусаных месц.

Калі Ціхану стала горш і ён абязволеў, Мальвіна перастала рагатаць і свавольнічаць. З маленькіх шчылінак вачэй хлопца прасвечваўся глыбокі смутак.

Ужо было цёмна і праз шчыліны дзвярэй прысклепніка відаць былі зоры, калі Мальвіна ўскочыла да Ціхана і, усплясны́ўшы далонямі, выпаліла:

— Цішка, твайго начальніка Ксеня з хаты вытурыла!

— Ну, і добра,— спакойна рэагаваў Ціхан на гэту незвычайную, на думку Мальвіны, навіну.

— Мы-ж Ксені сказалі, што ён жанаты. Вось ён прыходзіць, поўлітроўку на стол,— і Мальвіна паказала жэстам, як Мачулін з упэўненым гонарам ставіў бутэльку,— і кажа; «давай, Ксеня, сум разганяць. Адзінокая ты, адзінокі і я». А яна: «А як-жа твая жонка?» Тут ён і асеў ад нечаканасці. Пык-мык, і сказаць няма чаго. Потым — вось нахабны — кажа: «А што жонка, яна ведаць не будзе». А Ксеня яму трэсь-лясь па мордзе, бутэльку аб парог і скамандавала: «Вон!» А мы ў другой хаце былі, ды ў рогат. Ой! Ну, і начальнік-жа ў цябе!

Звестка гэтая абразіла Ціхана. Пад самым сэрцам залягло нейкае агіднае пачуццё. Сваім учынкам Мачулін кінуў цень і на яго, нібы забрудзіў яго чыстыя і шчырыя пачуцці да Мальвіны.

— Я з ім больш нікуды не паеду, — сказаў Ціхан.

— Ціша, пераходзь у наш калгас. Табе-ж старшыня гаварыў.

— Бадай што так і зраблю.— Ціхан прызнаўся, што даўно хацеў уцячы з-пад начальства Мачуліна, што машыну трымае Мачулін пры той абласной установе, дзе працуе загадчыкам гаспадаркі, зусім незаконна, толькі для таго, каб займацца рознымі махінацыямі, скарыстоўваючы грузавік.

Мальвіна прыслужвала Ціхану ўвесь вечар, клала кампрэсы, прыносіла есці, раскурвала яму папяросу, папраўляла падушкі, а ў сэрцы яе расла і большылася радасць ад клопату, які яшчэ больш зблізіў іх. Радасць гэтая забрала яе ў палон, рабілася да таго вялікай, моцнай, усеабдымнай, што хацелася аб ёй гаварыць маме, тату, старшыні, усім. Гэтую радасць нельга хаваць. Яна абуджана была блізкасцю да Ціхана, добрага, здаровага, прыгожага і пакорнага.

Калі Мальвіна нахілілася над Ціханам, каб паправіць падушку, ён абняў яе за шыю. Мальвіна застыла. Ні дыхання, ні руху... Сэрцам пачула незвычайны вялікі момант, у які пачуццям яе будзе надана ўпэўненасць.

— Мальвіна, я цябе...

— Ведаю, ведаю, не кажы.

Яна вызвалілася з рук Ціхана, устрасянула валасамі і сказала:

— Ціхан! Што-ж ты там будзеш адзін? Сапраўды. Нам будзе добра тут.

Марк СМАГАРОВІЧ

## Каўказ

Мы развіталіся сягоння
З табою, сонечны Каўказ.
Яшчэ зірнуць з акна вагона
Мне рупіць на цябе хоць раз.

Плывуць з адхонамі крутымі
Лагчыны, нібы міражы.
Я горы палюбіў, з якімі
Калісьці Лермантаў дружыў.

Каўказ! Не можна надзівіцца
З твае суровае красы.
Часала хмары навальніца
Аб грэбень гор, як валасы.

І я ні на хвіліну вочы
Не закрываў тады ўначы,
Глядзеў, як гром магутны точыць
Аб грані скал свае мячы.

А побач грукацеў каменнем,
Нібыта рагатаў, паток...
Апошні раз да пабачэння
Кажу табе, Каўказ, здалёк!

---

— Згодзен, Мальвіна. Толькі ў мяне мама.

— Ну, і што? І маму сюды.

Ціхан прыцягнуў Мальвіну за рукі і напухлымі рукамі крануўся ружовай шчакі. Яна прытулілася галавой да грудзей яго, нібы прыслухоўваючыся да яго сэрца, потым зарагатала ціхенькім дробным рогатам, падобным да прыглушанага рыдання.

— Ты чаго, Мальва?

— Ох ты, гора маё... Першы пацалунак... Чакала... Марыла... А ён вунь якімі губамі... Ха-ха-ха...

Яна сціснула далонямі яго твар і спытала:

— Баліць?

— Не.

Мальвіна чмокнула Ціхана ў прыпухлую шчаку і выйшла. Так нарадзілася іх чыстае і шчырае каханне.

Назаўтра Ціхану стала лепш. Пухліна апала. Хлапец аглядаў машыну, калі з'явіўся Ягор Калістратавіч.

— Ну, запрагай, пад'едзем у суседні калгас.

Умасціўшыся побач з Ціханам у кабінцы, ён хітравата сачыў за Мальвінай, якая паслужліва адчыніла вароты і міліцэйскім знакам паказала, што можна ехаць. Да чаго-ж яна была прыгожая! Стройны стан, загарэлыя голыя рукі і ўзбітыя сонцам жоўтыя валасы акрэслена вызначаліся ў вялікай раме расчыненых варот.

Калі машына выходзіла з двара, Мачулін заўважыў, як на твар Мальвіны наплыў цень, як уздрыгнулі яе губы, жадаючы нешта пракулеле сказаць, вочы акругліліся, нібы яна глядзела на Ціхана апошні раз.

— Ну, як, з удачай?..— з брыдкім намёкам спытаў Мачулін.

— Не гаварыце так,— папрасіў Ціхан.

— А я...— Мачулін нахабна падміргнуў і шчоўкнуў пальцамі.— Ты думаеш, твая лепшая. Дурань! Ты на яе молішся, а яна... Такая вяртуха. Усе яны такія.

— Ілжэш! І пра ўдаву ілжэш!

Ціхан прытармазіў машыну, схапіў свайго начальніка за грудкі, наваліўся на яго ўсім сваім целам. Глыбокае абражанне лепшых яго пачуццяў выклікала злосць і нянавісць да пустахвальства Мачуліна. Раптам неяк усё сабралася разам — і нахабства начальніка, і яго «гаспадарчыя» махінацыі. Чалавек гэты зрабіўся да таго нікчэмным і агідным, што не хацелася з ім сядзець побач, быць разам. Ціхан адчуў неадольную патрэбу выкрыць яго і адштурхнуць ад сябе. Ён адчыніў дзверцы кабіны і выпхнуў Мачуліна на дарогу. «Начальнік» шлёпнуўся спіной на шэры грунт, капялюш яго пакаціўся і трапіў пад кола машыны ў той момант, калі яна скоўзнулася ў кювет і стала.

Ціхан выйшаў з кабінкі, дастаў ключ ад матора.

— Далей не паеду. І машыны не дам. Праўду раскажу, праўду! Нягодны!

Мачулін лаяўся, крычаў адным духам: «Пад суд! Пад суд!» і патрабаваў заводзіць матор. Ціхан не слухаў. Размахваючы шапкай, ён пакрочыў да вёскі. Цяпер усё стала ясным, вырашылася ўсё, цяпер ён ведаў, што рабіць.

Мачулін, адпляваўшыся, паспрабаваў выцягнуць капялюш з-пад кола, але машына моцна прыціснула яго да зямлі. Непрыемнасць Мачуліна павялічвалася і тым, што здарылася ўсё гэта пад самымі вокнамі «закусачнай». Як на тое, у акне стаяла Ксеня. Спакойна, нават з сумам наглядала яна за тым, што здарылася. Убачыўшы Ксеню, Мачулін залез у кабіну, пасядзеў, потым плюнуў на ўсё, вышаў на дарогу і стаў «галасаваць», каб угаварыць якога шафёра ўзяць яго машыну на буксір.

Ціхан назаўтра, атрымаўшы даручэнне калгаса, выехаў у горад па новую машыну. Адначасова ён павінен быў прывезці хімікаты для апырсквання саду. Дамашнія справы, разлік на службе затрымалі хлопца на некалькі дзён. Мальвіна чакала. Кожны дзень здаваўся векам. Думалася дзяўчыне ўсякае. Мала што можа здарыцца з чалавекам, які выкінуў начальніка з машыны...

З раніцы да вечара яна была ў садзе. Сад цвіў густа і дружна. У снежнай белі квецені звінелі пчолы, пялёсткамі ўсыпаўся дол, а сэрца Мальвіны сціскаў сум. Чаму не едзе. Паглядзеў-бы, як цвіце сад... Разам з тым агортвала трывога, каб замаразкі не прыхвацілі квецені. І яна з дзяўчатамі цягала да саду салому, сухі бульбоўнік мінулага года і раніцамі дымам абкурвала яблыні. Аднойчы яна знайшла на яблыні вусеня і страшэнна перапужалася і абрадавалася.

— Чэрві! Вусені! Аб'ядаюць сад!..

Яна ўхапіла зялёнага чарвяка і, несучы ў прыгаршчах, перакідваючы з далоні на далоню, як пякучы вугальчык, пабегла да старшыні.

— Мацвеевіч, давайце тэлеграму Ціхану, каб хутчэй вёз хімікаты. Чэрві, бачыце, слатою на сад накінуліся, паядуць лісце, загіне завязь.

Мацвеевіч добра ведаў, што чарвей на садзе няма. Ён раніцою сам агледзеў усе дрэвы. Ведаючы, чаму Мальвіна «ўстрывожылася», выпадкова знайшоўшы аднаго вусеня, ён хітравата ўсміхнуўся і адказаў:

— Прыедзе, не загіне ваша завязь. А хочаш, ідзі сама адбі.

Мальвіна кінулася на пошту, да свае сяброўкі Валі.

— Валюша, хутка тэлеграму. «Неадкладна выязджай, гіне завязь. Мацвеевіч, Мальвіна».

— Куды тэлеграму? Каму? Ты што, дзяўчына, утрапела? Прыедзе.

Яны селі за стол, адрэдагавалі тэлеграму. Вяртаючыся дамоў, Мальвіна здалёк убачыла каля сваіх варот новую зялёную трохтонку. Яна павярнула на пошту, каб затрымаць тэлеграму. Прабегшы крыху, спынілася, махнула рукой і вярнулася назад.

— Прыехаў?— радасна спытала яна Ціхана.— А я адбіла тэлеграму.

— Каб не ехаў?— перабіў ён.

— Не, каб хутчэй ехаў. Бачыш, во, чэрві. Завязь паядаюць.

— Шмат?— разглядаючы вусеня, не без трывогі спытаў Ціхан.

— Не. Адзін,—і Мальвіна, крутнуўшыся на адной назе, задорна і моцна зарагатала.

Супакоіўшыся, кінула чарвяка на дарогу і спытала:

— А табе нічога не будзе, што ты яго з машыны выкінуў?

— А што табе будзе за чарвяка, якога ты з саду выкінула? І ён такі-ж чарвяк, які псуе завязь. Толькі ён горшы.

— Ты маладзец, Ціхан. Я рада, што мы...

— Адчыняй лепш вароты, Мальва,— усміхнуўся Ціхан.

Яна адчыніла вароты, стала перад машынай і зрабіла рукамі міліцэйскі знак, — адну руку ўгору, другую — у напрамку двара.



# ЗВЫЧАЙНЫ РЭЙС

Пятро ШАСЦЕРЫКОЎ

Бяжыць нястомны паравоз. Колы яго ўвесь час як-бы падграбаюць пад сябе бясконцыя сталёвыя істужкі рэек. Высунуўшы з акна галаву, старшы машыніст Уладзімір Пятровіч Валодзькін пільна ўглядаецца ўдалечыню. Шлях свабодны. Мільгаюць пералескі і лясы, зазелянелыя ўжо сенажаці ўздоўж рэчак, яшчэ амаль чорныя палі. Усё даўно знаёмае, звыклае. Ад гэтых палёў, рэчак залежыць так званы профіль пуці: выемкі і насыпы, ухілы і пад'ёмы. Як і многія вопытныя машыністы, Валодзькін арыентуецца па вядомых яго воку знаках і своечасова паваротвае рэгулятар, прыбаўляючы пары, або закрываючы яе.

На вуснах маладога машыніста задаволеная ўсмешка. Паравоз падпарадкоўваецца кожнаму яго руху. А навокал так прыемна, хораша! Ад абуджанай зямлі патыхае своеасаблівым водырам. Усё шырэй разліваецца зялёнае мора вясны. Спачатку нясмела зазелянела рунь дылужкі, а зараз бярозкі, вярба і лазнякі ўбраліся зялёнымі матылькамі.

На цыліндрычным катле паравоза расплыўся залацісты блік. Такі-ж блік ляжыць на рэйках. Паравоз імкнецца наскочыць на яго, але блік увесь час адсоўваецца, і паравоз ніяк не можа яго дагнаць.

Усё ідзе добра. Валодзькін задаволена звяртаецца да свайго памочніка Казакова:

— Вася, як з аганьком?

— Пакуль што нічога, — стрымана адказвае той.

Выязджаючы са Жлобіна на Магілёў, Казакоў захваляваўся. Там выдалі толькі бедны вугаль. Дарэмна ён даказваў, што на паравозе няма ні грама добрага вугалю, што не дацягнуць ім цягнік, нічога не дапамагло. Прышлося скарыцца. Казакоў эканомны памочнік. У яго заўсёды ёсць патаемны запас добрага паліва, так званы — непарушны запас. Гэтую асаблівасць яго вельмі цэніць Валодзькін. Ад гаспадарлівасці памочніка залежыць і эканомія паліва і эканомія сродкаў па гаспадарчаму разліку. А хто і калі адмовіцца ад добрага паліва або ад масла? Хоць і мае Казакоў прывычку скардзіцца на вугаль, але заўсёды трымае дастаткова пары.

На гэты раз памочнік машыніста хваляваўся не дарэмна. Паравоз пасля пад'ёмачнага рамонту прайшоў ужо 90 тысяч кіламетраў пры заданні 65 тысяч. Акрамя таго, па маршруту прадугледжана прычэпка вагонаў з грузам 700 тон. Агульная вага цягніка дасягне 2.500 тон. Але сваё незадавальненне Казакоў выказваў толькі пакуль былі на станцыі Жлобін, а як выехалі, горача ўзяўся за справу.

— Ягор! — звярнуўся ён да качагара Гаўрылава. — Рабі шыхту так: да гэтага беднага дадавай крыху тлустага вугалю, перамешвай і добра змочвай.

Валодзькін адобрыў яго дзеянне. Казакоў трымаў топку на прагар, дабіваючыся светлага агню. Вось і пятнаццаты раз'езд. Супынак. Прычапілі 16 вагонаў з торфам. Цяпер цягнік стаў цяжкавагавым — 500 тон звыш нормы...

Машыніст з гаечным ключом, памочнік з маслёнкай сышлі з паравоза. Машына, вядома, спраўная, але дадатковы агляд не шкодзіць. Казакоў перш за ўсё звярнуў увагу на ўкладыш кулачковага механізма. Валодзькін падцiснуў крыху аслабленыя гайкі, агледзеў буксы. Ні адна не грэецца. Змазка добрая. Але каб не было перавыдатку! Выцягнуў кнот. Ад яго залежыць усё. Ніколі не забудзе Валодзькін адзін выпадак. Гэта было, калі ён яшчэ ездзіў памочнікам з Рыгорам Казленкам. Дабіваючыся эканоміі змазачных матэрыялаў, ён паставіў залішне тоўсты кнот. На стаянцы заўважыў, што пачала грэцца букса. Казленка адразу знайшоў прычыну.

— Занадта тоўсты кнот, масла недастаткова паступае... — І тады ён навучыў Валодзькіна, як зрабіць кнот, каб і масла не перавыдатkоўвалася і падшыпнікі добра змазваліся.

Тонкі кнот — перавыдаткаванне масла, тоўсты — недастатковая падача. Казакоў добра зразумеў гэта і ўсё зрабіў, каб эканоміць і масла і ў парадку трымаць паравоз.

Гаўрылаў падрыхтаваў больш багатую шыхту. Перад тым, як загружаць топку, Казакоў спытаў у машыніста:

— Ці будзем чысціць топку?

— Па-мойму, не трэба, — адказаў Валодзькін.

— Я таксама думаю, — згадзіўся Казакоў.

Нарэшце, усё гатова. Дзяжурны па раз'езду перадае жазло. Валодзькін дае сігнал і паваротвае рэгулятар. Цяжка пыхкаючы, паравоз кранаецца з месца. З акна зноў выглядае машыніст. Цягнік мінае станцыі, раз'езды. Пары дастаткова, Казакоў прыкладае ўсё стараннe: упершыню прыходзіцца весці 2.500 тон. Каб толькі не асароміцца! А ўперадзе яшчэ многа цяжкасцей.

— Падрыхтуйся да ўезду на станцыю Магілёў II, — распарадзіўся Валодзькін.

Ён сам вучыўся ў вопытных машыністаў і таму ведае, што галоўнае правіла для машыніста — ведаць профіль шляху. Перад Магілёвам II з боку Жлобіна вельмі цяжкі ўчастак. Там нярэдка бываюць абрывы, асабліва цяжкавагавых цягнікоў. Маленькая недарэчнасць, і можна асароміць камсамольскую паравозную брыгаду, якой яму даручылі кіраваць. Брыгада мае ўжо багатыя традыцыі. У дні падрыхтоўкі да XX з'езда КПСС камсамольскі паравоз «Э» 786-21 уваходзіў у спецыяльную калону імя XX з'езда КПСС, і яго брыгада дабілася выдатных поспехаў. Уступаючы ў соцспаборніцтва за датэрміновае выкананне шостай пяцігодкі, брыгада яшчэ палепшыла свае паказчыкі. Так, у красавіку сярэднесутачны прабег паравоза пры заданні 323 км склаў 354 км. Праведзена 20 цяжкавагавых цягнікоў. Пры ваджэнні цяжкавагавых цягнікоў значна паляпшаюцца эканамічныя паказчыкі. На перавозку тоны грузу скарачаецца выдатак паліва, павялічваецца каэфіцыент карыснага дзеяння

---

# Дзве заметкі з Мазыра



Такіх школ у Мазыры не адна.

У 1887 годзе губернская газета «Минский листок» у № 41 ад 25 мая пісала пра Мазыр:

«Представьте себе неровную долину с расположенными в ней домами и домиками, с трех сторон окружённую горами и холмами, а с одной (северной стороны) — рекой Припятью, изрезанную грязными узкими улицами, пропитанную испарениями никогда не высыхающих болот, находящиеся среди этих болот 6-ти классную прогимназию, женский 3-х классный пансион, приходское училище и другие уездные присутственные места и учреждения, — и вы имеете перед собой Мозырь, уездный город с 10-тысячным народонаселением разного исповедания. Для большей рельефности картины прошу обратить внимание на громадное число кабаков с красующимися над ними красными вывесками и ещё на большее число лавок и лавочек (магазинов не водится у нас) с их несчастными содержателями, прибавьте ещё городскую управу, и вы увидите весь город наш со всеми его деталями и атрибутами, как у себя на ладони...»

У маі 1956 года наш карэспандэнт наведаў Мазыр — адзін з буйнейшых гарадоў беларускага Палесся. Вось што ён там убачыў.

Горад апрануўся ў яркую вясновую зеляніну. Жыццё ў ім бурліць, як у кожным горадзе. Па Прыпяці паплылі параходы, баржы, плыты... Праз станцыі Мазыр і Калінкавічы з шумам і грукатам праносяцца пасажырскія цягнікі, эшалоны, гружаныя машынамі, лесам, рознымі будаўнічымі матэрыяламі.

Некалі Мазыр быў глухаманню. Сёння кожны дзень на гарадской пасадачнай пляцоўцы прызямляюц-



У строй дзеючых хутка ўступіць цэх ахаладжальных напіткаў. Зараз ідзе мантаж цэха.

машыны. Валодзькін памятае, што пяць гадоў назад правесці цяжкавагавы цягнік лічылася гераічным учынкам. Да гэтага старанна рыхтаваліся. Тады і норма вагі цягніка была ўсяго 1.600 тон. Першы раз павёз ён 1.900 тон. Якіх толькі страхаў не прышлося пераджыць? Ці возьме паравоз на пад'ёме, ці не здарыцца абрыў? Каб трымаць пару, ён сам дапамагаў памочніку кідаць вугаль у топку. Зараз-жа норма вагі цягніка — 2.000 тон. І ён ужо без асаблівай цяжкасці водзіць цягнікі па 2.200—2.300 тон, а сёння перавысіў і гэтую норму на 500 тон! Калі ўсё добра будзе, можна яшчэ павялічыць вагу і прасіць цяжкавагавыя маршруты па 2.500 тон і больш.

А эканомія паліва? У красавіку яны сэканомілі 4.600 кг вугалю. Гэта, вядома, недастаткова. Казакоў і Гаўрылаў увесь час удасканальваюць сваё майстэрства падтрымання агню ў топцы, умела прыстасоўваюцца да самых рознастайных марак вугалю. Вось і сёння атрымалі, здаецца, нікуды не варты вугаль, а паравоз імчыць і імчыць уперад. А ці марыў некалі ён, сын рабочага з соўгаса «Вейна», што яму будзе падпарадкоўвацца такая складаная машына, як паравоз? Калі ён пасля вайны семнаццацігадовым хлапчуком паступіў качагарам у паравознае дэпо, яму здавалася, што ніколі не зможа кіраваць паравозам. Але далей ён закончыў курсы памочнікаў машыністаў і зрабіўся зменным машыністам у лепшага машыніста дэпо Качмарова. Потым прызначылі старшым машыністам комсамольскай паравознай брыгады. Тым-жа шляхам ідуць Казакоў і Гаўрылаў. Казакоў, сын калгасніка з Чавускага раёна, пяць год назад таксама паступіў качагарам, затым закончыў курсы памочнікаў, цяпер рыхтуецца стаць машыністам. Толькі-толькі пачаў гэты шлях Гаўрылаў, ён таксама марыць стаць машыністам. Яны вучацца адзін у другога, пераймаюць лепшае, перадавое. А разам брыгада складае дружны, зладжаны калектыў.

Комсамольская брыгада знаходзіцца на гаспадарчым разліку. Старшы машыніст — гэта кіраўнік невялікага прадпрыемства, і яму неабходна ведаць пытанні эканомікі. Валодзькін не раз збіраў сваю брыгаду: чыталі артыкулы з газеты «Гудок», пераймалі перадавы вопыт, ускрывалі недахопы, дабіваліся зладжанасці. Бо, калі адна змена эканоміць, а другая — перавыдаткоўвае, ніякага толку не будзе. І Валодзькін дабіўся неабходнай зладжанасці. У брыгадзе вялікая эканомія масла і запасных частак. За першы квартал бягучага года па гаспадарчаму разліку сэканомлена каля 2 тысяч рублёў. Не ўлічана яшчэ эканомія па рамонту паравоза. Калі ўдасца давесці прабег яго паміж пад'ёмачнымі рамонтамі да 100 тысяч кіламетраў пры норме 65 тысяч, то амаль удвая скарацішца выдаткаванне сродкаў на рамонт. Брыгада маладых паравознікаў пасля кожнай паездкі старанна аналізуе, вывучае эканамічныя паказчыкі.

...А цягнік імчыцца і імчыцца ўперад. Валодзькін, убачыўшы, што Казакоў нечым занепакоены, зазірнуў у топку. Полымя чырванаватае, недастаткова паступае паветра, зашлакаваліся каласнікі. Стрэлка манометра пачала падаць, паменшылася колькасць пары. А ўперадзе — пад'ём. Да горада ўжо недалёка. Ззаду застаўся раз'езд Буйнічы. Да станцыі Магілёў II каля 8 кіламетраў: ужо відаць высокія мураваныя дамы горада, над імі ўзвышаецца выцяжная труба шоўкаткацкай фабрыкі, цэментныя сцены элеватара.

Калі Казакоў звяртаецца за парадай да машыніста, Валодзькін пытае:

— А што-б ты сам прапанаваў?

Хутка Казакоў будзе машыністам, таму трэба, каб ён самастойна вырашаў складаныя пытанні. Памочнік выказвае свае думкі. Валодзькін згаджаецца і дапамагае парадай. І зноў стрэлка манометра ідзе ўгару. Паравоз набірае хуткасць. Валодзькін вырашае з ходу ўзляцець на пад'ём. Манеўр удаецца. Станцыя Магілёў II застаецца ззаду. Цягнік дастаўлен на станцыю Магілёў I. Усё ў парадку. Паравоз накіроўваецца да дэпо. Казакоў і Гаўрылаў гасяць топку, Валодзькін аглядае машыну, рыхтуючыся да здачы зменнаму машыністу Палякову. Замерылі паліва. За адзін рэйс — больш чым поўтоны эканоміі!

Праз дзве гадзіны паравоз гатовы ў новы рэйс... А маладыя паравознікі, адпачыўшы крыху, збіраюцца гуртам, каб авалодваць умельствам аналізаваць свае паказчыкі і на аснове гэтага дамагацца новых поспехаў.

Паравознае дэпо
станцыі Магілёў.

Іван КАЛЕСНІК

## *Камандзіроўка*

Дальняй той камандзіроўкаю
Усхвалёван, не таю.
Я вярнуўся з замалёўкаю
У рэдакцыю сваю.

Вандраваць хоць шмат здараецца
То машынай, то пяшком,
Ды чамусьці ўспамінаецца
Мне ўсё Полацкі райком.

За акном гамоніць раніца,
Чырванеюць пасмы хмар.
Прывітаўся. Усміхаецца
Строгі першы сакратар.

І, узрушаны гасціннасцю,
Шчырасцю і прастатой,
Цэлы вечар я ў гасцініцы
Мераў крокамі пакой.

Думаў, стрэча выпадковая,
Але сэрца кажа: Не!..
На двары пара вясновая,
Толькі штосьці сумна мне.

Да драбніц усё мне помніцца
І начамі сняцца сны:
Маладыя скверы Полацка,
Плынь імклівая Дзвіны.

Зноў паехаць, у рэдактара,
Усхвалёваны, прашу:
— Назбіраю свежых фактаў я,
Нарыс добры напішу.

— Мне знаёма, — не згаджаецца, —
Непаседлівасць твая.
...А ніяк не здагадаецца,
Што па шчасце еду я.



У гэтым магазіне — мэбля мясцовых прадпрыемстваў. Раней у Мазыры такіх прадпрыемстваў не было.

ца пасажырскія і паштовыя самалёты. Горад злучаны авіялініямі з Масквой, Ленінградам, Мінскам, Кіевам, Рыгай, Одэсай і Сочы, а аўтобусамі з усімі навакольнымі раёнамі.

Па вуліцах курсіруюць аўтобусы, таксі.

Не шынкі і брудныя крамкі ўпрыгожваюць сённяшні Мазыр, а школы, клубы і шматкватэрныя жылыя дамы. У горадзе дзевяць сярэдніх і сямігадовых школ, педагагічны інстытут, медыцынскае, педагагічнае і рамеснае вучылішчы; ёсць свой Дом культуры, пяць кіноўстановак, тры бібліятэкі, Дом піянераў, краязнаўчы музей.

За гады совецкай улады, асабліва ў пасляваенны час, пашырылася сетка лячэбна-санітарных устаноў. Цяпер у Мазыры паліклініка і пяць бальніц, Дом санітарнай асветы, гінекалагічны дыспансер, санітарна-эпідэміялагічная станцыя і станцыя неадкладнай дапамогі.

Расце прамысловасць горада. Завод экскаватарных машын, мэблевая фабрыка, піўзавод, швейныя і металаапрацоўчыя арцелі — гэта няпоўны пералік гарадскіх прадпрыемстваў.

Штогод выдаткоўваюцца вялікія асігнаванні на добраўпарадкаванне і будаўніцтва Мазыра. У новай пяцігодцы яшчэ больш зменіцца аблічча гэтага палескага горада.

Фотаздымкі, зробленыя вясной гэтага года, дапаўняюць нашы звесткі аб совецкім Мазыры.

Фото С. Чырэшкіна.



Цяпер у Мазыры ёсць педагагічны інстытут. На здымку: комсамолкі Ніна Алісейка, Ганна Гайдаш і Аляксандра Высоцкая ў лабараторыі інстытута.



Добра веснавым днём праехаць на лодцы.

# ДОМ НАД ПРЫПЯЦЦЮ

Фотанарыс Ал. ВЕЧАРКОВА і С. ЧЫРЭШКІНА

Непадалёк ад Мазыра, у Кімбараве, над самай ракою ўзвышаецца беласнежны мураваны дом, акружаны такой-жа белай агарожай. Вясною, калі Прыпяць выходзіць з берагоў, вада дабіраецца аж да самага дома, і ён з усімі сваімі прыбудовамі і садком, калі глядзець з супроцьлеглага берага, быццам гойдаецца на неспакойных рачных хвалях.

Калісьці тут быў вядомы Кімбараўскі манастыр, а пазней царква. У час мінулай вайны, як толькі Мазыршчына вызвалілася ад нашэсця фашыстаў, тут адкрыўся дзіцячы дом. Горад тады яшчэ ляжаў у руінах, і будынак колішняга манастыра аказаўся вельмі дарэчы. Воіны-франтавікі прывезлі сюды групу дзяцей-сірат, падабраных на франтавых дарогах вызваленага Палесся. Яны былі іх першымі апекунамі і шэфамі, па-бацькоўску клапаціліся пра іх лёс. Як рэліквіі, дзетдомаўцы і цяпер берагуць салдацкія падарункі — баян з перламутравымі планкамі і піяніна.

Ужо даўно адшумела завіруха вайны. Выраслі і раз'ехаліся па краіне першыя выхаванцы, якіх прывезлі франтавікі, але аб гэтым і цяпер з хваляваннем успамінаюць у Кімбараве. Воіны, якім кожную хвіліну пагражала смерць, ратавалі дзяцей, дзелячыся з імі сваім небагатым харчам...

Калі-б хто-небудзь з тых салдат наведаў зараз Кімбарава, ён не пазнаў-бы некалі пашчапанага кулямі і снарадамі, з аблупленымі купаламі будынка. Некалькі год таму назад макаўкі - званіцы былі заменены новым бляшаным дахам, і манастыр ператварыўся ў прыгожы мураваны дом; ён капітальна адрамантаваны, з цэнтральным ацяпленнем, вадаправодам, на першым паверсе — прасторная чыстая сталовая, на другім — жылыя пакоі, клуб, пакоі для розных гурткоў.

На чыста прыбраным утульным двары — кветнік, крыху далей за дваром — агарод з ягаднікам і цяпліцай. Тут-жа гаспадарчыя памяшканні, майстэрні. У дзетдоме пяць гектараў саду, падсобная гаспадарка; ёсць свая жывёла: каровы, свінні, гусі, качкі, трусы.

Неяк у дзетдомаўскі двор, над уваходам якога палымнее чырвонае палотнішча сцяга, зайшла старая вясковая бабулька.

— Я некалі тут малілася, — растлумачыла яна. — Казалі, што тутака ўсё спаскуджана...

Тады дзеці павялі бабульку па чыстых, залітых святлом пакоях, паказалі свой клуб, сталовую і майстэрні, свае работы — вышыўкі, макеты, гербарыі, мадэлі, паказалі агарод, дзе ёсць нават і вінаград, і кавуны, і кукуруза. І старая, вельмі расчуленая ўсім убачаным, не магла не пахваліць новых гаспадароў.

— Добра жывеце, мае дзеткі. Не сіратамі, а як за ласкавымі бацькамі! Не шкада, што аддалі вам царкву...

У Кімбараўскім дзіцячым доме выхоўваецца зараз сто шэсцьдзесят хлопчыкаў і дзяўчынак, якія не маюць бацькоў. Але яны і сапраўды не адчуваюць сябе сіратамі. Ім створаны ўсе ўмовы для ўсебаковага развіцця. Радзіма дала ім усё, каб раслі здаровымі, бадзёрымі, адукаванымі і не адчувалі адзіноты.

Усе 160 дзяцей — школьнікі. Дзетдомаўцы, як правіла, вучацца паспяхова. Яны паказваюць прыклад у паводзінах, актыўна ўдзельнічаюць у школьным жыцці.

Дзіцячы дом — добрая школа выхавання. Тут з маленства дзяцей прывучаюць да працы, да самастойнасці, выхоўваюць пачуццё калектывізму. Выхавацелі не шкадуюць сіл і працы, каб выпрацаваць у іх лепшыя якасці савецкага маладога чалавека.

...Мы прышлі ў дзетдом якраз у той дзень, калі дырэктар, Ірына Аляксандраўна Пушкарчук, збіралася ісці ў клуб, дзе яе чакалі ўжо ўсе выхаванцы. Мелася адбыцца ўрачыстасць: уручэнне лепшым юннатам медаляў Усесаюзнай сельскагаспадарчай выстаўкі. Гэткага гонару ўдастоіліся трынаццаць хлопчыкаў і дзяўчынак, ды летась было дванаццаць. Цяпер у доме 25 медалістаў.

За што-ж кімбараўцы атрымалі высокую ўзнагароду ў Маскве?

Інструктар па працы, аматар-садавод Барыс Андрэевіч Карповіч адказвае коратка:

— Вырасцілі вінаград, мічурынскія гатункі ягад..

А кіраўнік гуртка юных гароднікаў, былая выхаванка гэтага дзетдома, а цяпер настаўніца Ніна Міхайлаўна Бандарэнка дадае:

— Атрымалі рэкордны ўраджай памідораў, капусты, морквы, акліматызавалі кавуны, дыні...

Колькі радасці было ў вачах дзяўчынак, якім Ірына Аляксандраўна ўласнаручна прыколвала побач з камсамольскімі значкамі залацістыя медалі! Як ім апладыравалі іх сябры! Каця Шаўчэнка, Галя Галіцкая, Валянцін Шурык, Сцяпан Драка, Ваня Мінін — усё гэта новыя ўдзельнікі сельскагаспадарчай выстаўкі ў Маскве. Сёлета яны абяцаюць даць яшчэ большыя рэкорды, каб праславіць сваю вялікую дзетдомаўскую сям'ю.

Калі мы загаварылі пра тое, як выхаванцы рыхтуюцца да свайго самастойнага жыцця, Ірына Аляксандраўна прапанавала нам наведаць швейную майстэрню і сталярню.

У швейнай майстэрні 12 машын — цэлы цэх. Тут рэгулярна займаецца 70 дзяўчынак, шмат хлопчыкаў. Інструктар па працы Анна Мікалаеўна Бельчанка з задавальненнем расказвае, што яе вучаніцы ўжо навучыліся добра кроіць, шыць, паказала цудоўныя вышыўкі, зробленыя дзяўчынкамі. Выхаванцы самі шыюць сабе бялізну, рамантуюць вопратку.

— Я ўпэўнена, — гаворыць Анна Мікалаеўна. — многія цяперашнія выхаванцы паследуюць прыкладу сваіх папярэднікаў: пойдуць па кравецкай справе.

Што-ж, гэта нядрэнна. У нашай краіне мноства прафесій, выбірай сабе тую, якая па душы!

Не менш захапляючай з'яўляецца для дзяцей праца ў майстэрні, у полі, на гародзе. З любоўю яны выконваюць гаспадарчыя даручэнні, нават такія, скажам, як дзяжурства ў сталовай, на кухні. Паглядзіце, колькі шчырасці і старання ўклала Жэня Кушнарова, рыхтуючы стол да абеду сваім сябрам!

Нішто так не дысцыпліне дзяцей, як умела арганізаваныя, прадуманыя працоўныя заняткі. Здаецца, нават самыя непаслухмяныя, «цяжкія» свавольнікі, калі іх зацікавіць карыснай справай, становяцца непазнавальнымі.

Важным сродкам згуртавання выхаванцаў у дружны, працавіты

Сёння па сталовай дзяжурыць Жэня Кушнарова.



Дырэктар дзіцячага дома І. А. Пушкарчук уручае медаль удзельніцы Усесаюзнай сельскагаспадарчай выстаўкі Галіне Галіцкай.





Моця Зубрыцкая і Надзя Якуш аглядаюць вінаграднікі.



Вучні авалодваюць сталярнай справай.



Юныя скрыпачы ў час адпачынку.

дзіцячы калектыў з'яўляюцца розпастайныя гурткі. У дзетдоме іх мноства: драматычны, музыкальны, шахматны, спартыўны, фотааматараў, ёсць нават гурток юных кінамеханікаў.

Мы былі сведкамі, як дзетдомаўцы рыхтаваліся да свайго чарговага мастацкага вечара. А яны ў дзетдоме наладжваюцца вельмі часта. Колькі сярод гэтых жывых, бадзёрых хлопчыкаў і дзяўчынак яркіх, абяцаючых талентаў! Спачатку выступілі баяністы Ваня Рубанік, Ваня Сіўко, Ніна Саладкова і Аня Наважэнцава. Затым грымнулі «духавікі». У духавым аркестры 25 чалавек! Захапляюча igралі скрыпачы Аня Сакалоўская і Андрэй Палтаран. Ім акампаніравала на піяніна Рая Грынявіцкая. Між іншым, на піяніна добра іграюць многія выхаванцы.

І сапраўды. Не сіратамі, а дружнай, вялікай сям'ёю жывуць юныя жыхары дома над Прыпяццю. У Міжнародны дзень абароны дзяцей выхаванцы Кімбараўскага дзетдома выказваюць шчырую падзяку сваёй маці-Радзіме. Яна замяніла ім бацькоў, дала шчаслівае дзяцінства, светлую і ясную будучыню.

# ВЕЧНА ЖЫВЫЯ

**Нікалай ПЯТНІЦКІ**

У 1941—1944 гг., у перыяд часовай варожай акупацыі, у Мінску працавала падпольная комсамольская арганізацыя. У яе склад уваходзіла 46 баявых груп. Комсамольцы праводзілі вялікую агітацыйную работу сярод насельніцтва, наладжвалі дыверсіі на ваенных аб'ектах ворага, забяспечвалі партызан зброяй, медыкаментамі, былі іх разведкай.

Пра адну з падпольных груп, якой кіравала комсамолка Галіна Сасіна, і расказваецца ў гэтым нарысе.

...Вольгу разбудзіў асцярожны стук у акно. Яна села на ложку, адхіліла ражок фіранкі і паглядзела. Пад акном стаяла дзяўчына. Прыгледзеўшыся, Вольга пазнала сястру Галю. Яна падбегла да дзвярэй, адшчапіла зашчапку і ўпусціла Галю ў пакой. Праз хвіліну яны абедзьве, усхваляваныя і радасныя, сядзелі на вольчынай пасцелі.

— Нядобра робіш, Галя, — дакарала сястру Вольга. — Знікла некуды, нікому і слова не сказала. А мы тут хваляваліся, думалі загінула...

— Так трэба было. Цяпер я магу расказаць пра ўсё. Была я ў лесе, у партызан. Бачылася з іх камандзірам, з сакратаром абкома партыі гаварыла. Атрымала заданне... Будзем, Волечка, выконваць яго разам.

На другі дзень Галя сустрэлася з членам падпольнай групы, машыністам Мінскага паравознага дэпо Андрэем Мірошкіным. Гэта быў невысокага росту хлопец. На першы погляд ён мог здацца занадта ўжо павольным у рухах і нават абыякавым да ўсяго. Але варта было пачуць яго голас, у якім гучала схаваная ўнутраная сіла, угледзецца ў яго вочы, якія вабілі сваёю цёмнаю глыбінёй, як гэтае першае ўражанне бясследна знікала і перад вамі паўставаў зусім іншы чалавек, з багатай і чыстай душою, з моцнай, нязломнай воляю.

Сустрэча адбывалася на явачнай кватэры на Веласіпеднай вуліцы. Галя расказвала пра тое, што бачыла і чула ў партызан, а Андрэй усхвалявана хадзіў з кутка ў куток, паціраючы рукой высокі чысты лоб. Калі дзяўчына расказала пра сустрэчу з сакратаром абкома партыі, твар Андрэя заліўся чырванню.

— Кажаш, і пра мяне пытаўся? А ты што яму сказала?.. Ага, хваліла, значыць? Ці не рана яшчэ, Галя? Трэба зрабіць у сто разоў больш і тады нас не будзе завошта хваліць. Мы проста выконваем свой абавязак, бо інакш не можам...

Хвіліну памаўчаўшы, ён сказаў:

— Сёння ў дэпо паставілі на рамонт два паравозы. Трэба іх узарваць.

— Правільна, — згадзілася Галя, і яны тут-жа абмеркавалі план гэтай аперацыі.

Цёмнай летняй ноччу яны сустрэліся ў канцы бязлюднага Брылёўскага завулка. Андрэй павёў Галю ўздоўж чыгуначнага палатна, мінуючы ахоўныя пасты аднаму яму вядомымі сцежкамі.

Вось і дэпо. Пачакаўшы, пакуль вартавы адыйшоўся ў другі канец велізарнага будынка, Андрэй даў Галі канец шпагату, а сам хутка знік у акне. Міны ён заклаў у паравозы яшчэ днём. Зачапіць шпагат за ўзрывацелі і выскачыць у акно было справай адной хвіліны. А праз момант зямля пад іх нагамі скаланулася ад моцнага выбуху.

Як толькі яны, узбуджаныя і радасныя, пераступілі парог явачнай кватэры, насустрач ім кінулася ўстрывожаная Вольга.

— Галя, Андрэй, нядаўна тут была сувязная. Гаварыла, што ў тры гадзіны ночы на ўсход адыходзіць эшалон з эсэсаўцамі...

Галя вырашыла дзейнічаць неадкладна. Зараз гадзіна ночы. Яшчэ можна паспець. Яна позіркам пытае Андрэя, ці правільнае яе гэтае рашэнне. Той моўчкі, ківўком галавы, пацвярджае: правільнае.

— Але табе, Андрэй, трэба зараз-жа ісці ў лес. Цябе-ж могуць схапіць раніцай...

Андрэй нахіляецца да дзяўчыны і ціха смяецца:

— Нічога, Галінка, у лес я паспею. Хіба можна ўпусціць так выпадак? Карнікі самі ў нашы рукі просяцца. Хоць-бы з ветлівасці, нельга ім адмовіць у гэтым... Хадзем хутчэй!

...Эшалон з эсэсаўцамі, набіраючы хуткасць, ішоў на ўсход. Нечакана пад паравозам грымнуў выбух. Нейкая страшэнная сіла адарвала вагоны ад рэек і кінула іх пад адхон. Уздоўж усяго эшалона чуўся скрыгат жалеза і стогны людзей.

Калі пасля выбуху Андрэй і Галя пабеглі ў бок ад чыгуначнага насыпу, эсэсаўцы заўважылі іх і пачалі па іх страляць. Дыверсантам удалося дабегчы да лесу. Але раптам Андрэй, нібы спаткнуўшыся, упаў ніц на зямлю. Фашысцкая куля прабіла яму нагу. Галя схілілася над сябрам. Андрэй павярнуўся на бок і застагнаў ад болю. Праз момант Галя пачула яго спакойны, цвёрды голас:

— Ты павінна зараз-жа ісці адсюль...

— Ты здурнеў, Андрэй! — абурылася Галя. — Як-жа я пакіну цябе аднаго?

— Не будзем спрачацца, Галя, — мякка, але рашуча сказаў Андрэй. — Я не магу ісці, а следам ідзе пагоня... А ты ўспомні пра даручэнне сакратара абкома. Ты-ж яго яшчэ не выканала... Навошта-ж гінуць дваім? Гэта-ж па-

добна на здраду... Ідзі, помсці за мяне. А я затрымаю іх. Перадай таварышам маю просьбу — няхай лічаць мяне комуністам.

— Перадам, Андруша,—стрымліваючыся, каб не заплакаць, сказала Галіна. Яна моцна пацалавала Андрэя і знікла ў кустах.

Ад чыгункі даносіўся сабачы брэх і крыкі эсэсаўцаў. Яны хутка набліжаліся. «Ідуць па следу», — падумаў Андрэй.

Да крыві прыкусіўшы губы, каб не так адчуваўся боль у назе, Андрэй дапоўз да ямкі за старым дубовым пнём. Дастаў з кішэні два пісталеты, абоймы з патронамі, дзве гранаты і пачаў чакаць.

Усёй душой, усёй сваёй істотай Андрэй адчуў цяпер, якое дарагое яму жыццё: ён не паспеў яшчэ многага адчуць, пабачыць, палюбіць.

Уперадзе, у кустах, хруснула галінка. Андрэй хутка перавярнуўся на жывот, узяў у рукі пісталеты.

Трэск галінак пачуўся бліжэй. Злосна забрахала аўчарка. Няўжо заўважылі? Не. Вунь з-за куста выглянуў фашыст. Але страляць яшчэ рана: няхай падыйдуць астатнія. Справа паказаўся другі, потым трэці, чацвёрты... Час! Стрэл, другі... яшчэ і яшчэ. Нездарма ён лічыўся снайперам — тры пападанні. Пачуліся стогны, і адразу ўся палянка напоўнілася трэскам аўтаматаў. Спераду і ззаду, трапляючы ў ствалы дрэў, ірвуцца разрыўныя кулі. Андрэй прытаіўся ў ямцы і чакае.

Прайшла хвіліна. Агонь заціх. Вырашыўшы, што партызан забіты, гітлераўцы адразу высыпалі на паляну. Злёгку падняўшыся на локці, Андрэй кінуў у іх гранату. Выбух, стогны, і зноў застрачылі аўтаматы. Вогненная пятля тужэй сцягваецца вакол старога дубовага пня.

Калі ў андрэевым пісталеце застаўся ўжо адзін патрон, ён падняўся ва ўвесь рост і кінуўся на гітлераўцаў. Яго сустрэў нястройны залп. Андрэй упаў, шырока раскінуўшы рукі са сціснутымі ў іх пісталетамі, нібы жадаў прыкрыць сабою ўсю родную зямлю.

Гэта была першая ўтрата ў групе. Галя цяжка перажывала гібель сябра. Выконваючы заданне абкома партыі, яна паступіла працаваць на аэрадром. Яго ахоўвалі чэхі.

Адным з першых, з кім пазнаёмілася Галя, быў чэх Рэзак. Галя пераканалася, што гэта быў сумленны, адважны чалавек. Праз яго Галя зрабіла спробу пазнаёміцца з афіцэрам Белекам. Гэта быў невысокі каранасты малады мужчына з поўным ружовым тварам, з якога не зыходзіў выраз заклапочанасці, трывогі і нейкага затоенага смутку. Яго строгі непрыступны выгляд выклікаў у Галі захапленне і разам з тым нейкую непрыязнасць, бо яна ніяк не магла вырашыць, кім ён будзе для яе — ворагам ці паплечнікам па барацьбе.

На другі-ж дзень пасля размовы з Рэзакам Белек прышоў на канюшню, дзе працавала Галя. Ён стрымана прывітаўся і паклікаў дзяўчыну ў будку вартаўніка. Яны селі за невялікі столік адзін супраць другога. Афіцэр скінуў шапку і прыгладзіў рукою пышныя русыя валасы. Пальцы яго ледзь прыкметна дрыжэлі. Некалькі хвілін ён моўчкі глядзеў на дзяўчыну цяжкім нерухомым позіркам і раптам спытаў:

— Што вам трэба ад мяне, мілая дзяўчына? Вы што-ж, на вісельню просіцеся?

У грудзях дзяўчыны пахаладзела. Але Галя, узяўшы сябе ў рукі, весела засмяялася.

— Вы не зробіце гэтага.

Афіцэр здзіўлена паглядзеў на яе.

— Чаму?

— Таму, што вы любіце свой народ, сваю Радзіму і жадаеце ім шчасця. А выдаўшы мяне, вы будзеце ненавідзець самога сябе, не гаворачы ўжо аб тым, што вас будуць ненавідзець вашы таварышы.

— Вось як,— прамовіў Белек і нечакана ўсміхнуўся. Твар яго адразу засвяціўся ветлівасцю і дабратой. — Што-ж, не будзем гуляць у хованкі. Вы слаўная дзяўчына, Галя. Рашучая і смелая. З вамі можна гаварыць пра сур'ёзныя рэчы. На мяне вы можаце цвёрда спадзявацца. Вось вам мая рука, рука чэшскага афіцэра. А скажыце, вы можаце звязаць нас з партызанамі?

— Магу.

— Добра, вельмі добра, Галіна.

Чэх адразу павесялеў і моцна пацісну̀ў Галі руку.

Гутарка зацягнулася надоўга. Белек расказаў, што палітычная літаратура і гутаркі Рэзака зрабілі сваю справу. 20 чалавек ужо гатовы ісці да партызанаў. Дамовіліся правесці іх туды як мага хутчэй, а потым узарваць самалёты і самім ісці ў лес.

Першую частку гэтага плана ўдалося выканаць без асаблівай цяжкасці. Праз два дні машына з чэшскімі салдатамі і зброяй прыбыла ў партызанскі край. Заставалася зрабіць самае цяжкае і самае небяспечнае.

Аднойчы вечарам Галя атрымала ад Белека шыфраваную запіску, у якой ён паведамляў, што самалёты замініраваны. Як толькі сцямнела, Галя накіравалася на ўмоўленае месца.

Чакаць прышлося нядоўга. У канцы цёмнага завулка бліснулі агні фараў. Хлюпанне гразі пад коламі легкавой машыны чуваць усё бліжэй і бліжэй. Яшчэ хвіліна — і Галя ўжо сядзіць побач з Белекам.

— Усё ў парадку,— шэпча ён дзяўчыне.

У баку аэрадрома адзін за другім чуваць дзесяць выбухаў. Галя моцна цісне руку чэху. Машына хутка імчыцца ўперад. Вось і ўскраіна горада. Яшчэ некалькі дзесяткаў метраў — і яны на волі. Раптам уперадзе, у святле фараў, замільгалі фігуры людзей. Пачуліся стрэлы. Машына, праслізнуўшы яшчэ некалькі метраў, спынілася. Відаць, кулі прабілі матор. Белек і Галя выскачылі з машыны. Да іх адразу кінуліся некалькі чалавек.

— Хендэ хох!

У Белека прамільгнула думка: «На заставы паспелі паведаміць пра мяне. Аўтамабіль — страшэнная наша памылка». І ён ва ўпор стрэліў у бліжэйшага гітлераўца. У гэты момант моцны ўдар па галаве зваліў Галю з ног.

Калі Галя апрытомнела і расплюшчыла вочы, яна ўбачыла над сабою нізкую столь. Аднекуль збоку прабівалася слабае святло. Дзяўчына перавярнулася на бок і ўбачыла вузкае акенца з тоўстымі кратамі. Усё яшчэ не разумеючы, дзе яна і што з ёю, Галя паглядзела на цёмныя сцены, на акаваныя жалезам дзверы і адразу ўспомніла Белека, машыну, стрэлы, удар па галаве.

— Вось і ўсё,— проста сказала яна сама сабе і адчула, як балюча сціснулася яе сэрца.

Яна падпаўзла да сцяны і прыхінулася да яе спіною.

«Як неразумна мы трапілі ім у рукі! Але гэтага не папраўіш... Шкада, што вельмі многа спраў яшчэ недароблена... А яшчэ вельмі шкада маму... Колькі разоў яна прасіла быць асцярожнейшай, а потым сама-ж дапамагала ва ўсім... Як яна сустрэне гэтую страшэнную вестку? На людзях будзе трымацца, але колькі слёз выплача ў бяссонныя ночы! Даруй, мамачка! Я не магла зрабіць інакш. Калі-б я хавалася ў гэтыя цяжкія для Радзімы дні па закутках, табе-б было яшчэ цяжэй. Праўда-ж, мама?»

У глухой цішы Галі здаецца, што яна чуе голас маці: «Праўда, дачушка»...

Скрыпнулі дзверы, і ў камеру ўвайшлі два гестапаўцы.

— Здаецца, апрытомнела?— спытаўся адзін з іх.

— Апрытомнела, вядзі!— адказаў другі.

Сабраўшы апошнія сілы, Галя ўстала, горда падняла галаву і паглядзела на гестапаўцаў. У гэтым позірку было столькі нянавісці і пагарды, што тыя міжволі пацягнуліся да кабуры.

— Ну, ну, ты не вельмі!— сярдзіта сказаў адзін.

Допыт вёў стары гестапавец Рыхтэр.

— Нам дакладна вядома пра ваш удзел ва ўзрыве самалётаў,— сказаў ён.— Але абяцаю вам волю, калі вы назавеце імёны саўдзельнікаў.

Галя маўчала. Рыхтэр нездаволена паморшчыўся і закурыў. Гэтыя рускія папсавалі яму нямала нерваў сваёй незразумелай упартасцю. Вось і гэтая... Нешта асаблівае, валявое і моцнае, было ва ўсім вобліку гэтай дзяўчыны. Ад яе затуманенага, поўнага нянавісці позірку яму стала не па сабе.

— Будзеш адказваць?— трацячы цярпенне, крыкнуў ён і моцна ўхапіў Галю за падбародак.

Не стараючыся вызваліцца, дзяўчына з усёй сілы ўдарыла яго па твары. Ад нечаканасці гестапавец адскочыў убок. Галя стаяла нерухома і з агідай глядзела на яго. Шалеючы ад злосці, Рыхтэр ударам кулака паваліў яе на падлогу. Сабраўшы апошнія сілы, Галя ўскочыла на ногі і двума рукамі ўчапілася ў жылістае горла гестапаўца. Ён захроп і разам з дзяўчынай паваліўся на падлогу. У пакоі прагучэў стрэл, і Рыхтэр устаў, хаваючы ў кабуру пісталет.

Галя ляжала тварам уверх, стройная, гордая, з акрываўленымі грудзьмі. Губы яе былі стулены не шчыльна, як у глыбокім сне, а ў расплюшчаных вачах застыла нянавісць і агіда да забойцы. Рыхтэр паглядзеў на яе і адчуў, як неадступны страх зноў авалодаў ім.

— Вынесіце,— загадаў ён салдатам, што прыбеглі сюды, пачуўшы стрэл.

16 ліпеня 1944 года ў вызваленай сталіцы Беларусі адбыўся парад партызан. Стройныя калоны павольна праходзілі каля ўпрыгожанай трыбуны. Ішлі пераможцы. Сярод іх не было Галі Сасінай, Андрэя Мірошкіна і многіх іншых герояў-падпольшчыкаў, якія загінулі ў няроўнай барацьбе з ворагам. Але яны нябачна прысутнічалі на гэтым парадзе. Яны жывуць і вечна будуць жыць у памяці свайго народа.



## Скарбніца твораў мастацтва

**Сёлета ў маі споўнілася 100 год з дня заснавання ў Маскве Дзяржаўнай Трэцякоўскай галерэі — найвялікшай скарбніцы перадавога рускага мастацтва.**

**У шматлікіх залах галерэі прадстаўлены выдатныя творы рускіх мастакоў, такіх, як І. Рэпін, І. Левітан, А. Сурыкаў, В. Васняцоў і другія. Тут штогод арганізоўцца выстаўкі твораў савецкіх мастакоў. Яны даюць магчымасць грамадскасці сачыць за ходам развіцця савецкага мастацтва.**

**Трэцякоўская галерэя праводзіць вялікую асветную работу ў масах. Тут праводзяцца экскурсіі, работнікі галерэі выязджаюць на фабрыкі, заводы, у навучальныя ўстановы, дзе чытаюць лекцыі з дэманстрацыяй кінофільмаў і дыяпазітываў.**

**Трэцякоўская галерэя мае агульнадзяржаўнае і агульнанароднае значэнне, як скарбніца рускага мастацтва. Мільёны людзей з пачуццём гордасці за свой народ наведваюць Трэцякоўскую галерэю, знаёмяцца з узорамі рускага і савецкага жывапісу.**

На здымку: **у адной з залаў галерэі.**

Фото Э. Еўзерыхіна.



# ЧУЖОГА ПОЛЯ ЯГАДА

**Алесь АСІПЕНКА**

**Апавяданне**

Мал. Г. Паплаўскага.

Футбольны матч даўно скончыўся, чай прастыў, за сцяной кінулі дрынчаць на балалайцы, а Петруся ўсё не было.

— Заўсёды ён бавіцца...

— Усыпаць трэба, каб ведаў...

Раззлаваныя доўгай адсутнасцю сябра, мы ўзбуджана хадзілі па пакоі. (Мы — гэта жыхары трынаццатага і апошняга ў інтэрнаце пакоя: Юрка Еспянок, Ігар Скалка і я.) Ды і як было не хвалявацца. Мы жылі разам, і ў нас была арцель: усе грошы складалі ў агульную касу, кожнаму па чарзе куплялі вопратку і абутак, а ежу рыхтаваў на ўсіх дзяжурны па пакоі. Адным словам, хлеб і соль дзялілі напалам. Хіба-ж мы маглі сесці без Петруся за стол? І мы чакалі, злаваліся і лаялі сябра, каб хоць крыху прыглушыць голад. Больш за ўсіх кіпяціўся Юрка.

— К чорту такую работу, — крычаў ён. — Заўсёды з-за гэтага футбола я павінен галадаць! Альбо дысцыпліна, альбо дружба дружбай, а махра паасобку...

— Абодва дужа харошыя: ты па канцэртах валочышся, а ён па футбольных сустрэчах. А вось мы з Васілём заўсёды дома.

Юрка аж падскочыў ад такога ігаравага напамінку.

— Параўнаў таксама!.. Канцэрты — мастацтва, а футбол... гэта-ж касталомства. Бегаюць голыя дылды па полі, ламаюць адзін другому ногі, а людзі крычаць, апладыруюць... Параўнаў... Канцэрты... Эх, ты!

Тут ужо не ўтрымаўся і я. Хоць ахвотнік да футбола я не вельмі вялікі, але гэтак абражаць спартсменаў!..

Мы пачалі абвінавачваць адзін другога ў розных грахах, нават забыліся, з-за чаго пачалася спрэчка. Спыніў яе прыход Петруся і незнаёмага хлопца ў крэмавай тэнісцы з пінжаком унакідку.

— О-о-о, у вяс зусім прыстойня-а, — замест прывітання сказаў незнаёмец. — Будзем знакомі. Бёркя.

Гаворка незнаёмца была незвычайнай і смешнай. Словы ён вымаўляў мякка, быццам у алфавіце толькі і існавалі галосныя ё, я, і.

Мы нічога не разумелі, стаялі ашаломленыя прыходам новага чалавека, маўчалі. Гэта і выратавала Петруся ад вымовы за спазненне. А Бёркя — Барыс, як-быццам усё так і належала быць, скамандаваў:

— Хто дзяжурны? Чаму стол не накрыты? Заядлыя балельшчыкі есці хочуць.

Першым прышоў у сябе Юрка.

— А ты хто такі? У нас арцель.

— Мальцы, свой да пазногця на левым пальцы левай нагі. Жыць у вас буду. — Гэтае слова «мальцы» выдавала ў ім віцебляніна.

— Спытайся спачатку, ці прымем мы цябе, — не суніматся Юрка. — Праўда, хлопцы? На які ляд нам чужыя патрэбны.

Мы з Ігарам падыйшлі да Юркі.

— Правільна! Не прымем!

— Наляцелі, аж спалохаўся, — зарагатаў Барыс. — Паладзім, калі поплеч сядзем. Свае людзі, чаго хапацца за грудкі. Была-б гарэлка — чарка знойдзецца, былі-б людзі — і дружба будзе. — Барыс вымавіў усе прымаўкі адным дыхам, жартаўліва садануў вялікім адтапыраным пальцам Ігара ў бок. Яго весялосць перадалася і нам. Я, як дзяжурны, кінуўся даставаць астыўшую вячэру. Мне раптам стала сорамна за сябе, за Юрку: пакой у нас вялікі, а жывем мы ўчатырох. Хлопцу, можа, пераначаваць недзе, а мы нават не запыталіся, хто ён, адкуль. Можа, якая петрусёва радня... А ўсё Юрка: заўсёды ён незадаволены, заўсёды бурчыць, фыркае.

— Дзяжурны, стань перада мной, як ліст перад травой, — весела гукаў Барыс. — Дзе мая вялікая лыжка?..

Ён, відаць, дураслівы, гэты Барыс. Вось толькі гаворыць смешна. Што-ж, гэта яго справа.

Я падаў Барысу лыжку. Ён паднёс яе да рота, зморшчыўся.

— Сухая лыжка, можа, выпіць па поўкілішка, — падміргнуў ён мне. — Як у вас, хлопцы, наконт... — Барыс многазначна пстрыкнуў сябе па шыі.

— Па поўкілішка можна,—усміхнуўся Ігар.— Больш нельга. У нас прыбіральшчыца такая язва — ледзь выпіў, адразу данясе.

Мы зарагаталі. Ігару сапраўды аднойчы ўлягцела ад каменданта. Ён прышоў у інтэрнат п'яным, а прыбіральшчыца Сцепаніда паскардзілася начальству.

— Я зяряз. Дзі ў вяс тут мягезінь? За вюглом? Адня нягя тут, другяя тям, — і ён куляй вылецеў з пакоя.

Тады да Петруся падыйшоў Юрка, насуплены, злосны.

— Хто ён такі? — працадзіў Юрка скрозь зубы.

— Манцёр ці вадаправодчык, чэснае слова, добра не ведаю.

— Нашто прывёў?

— Дзівак, ён у нас жыць будзе.

— Жы-ыць!

Гэта ўжо не ўваходзіла ні ў чые разлікі. Пераначаваць, калі ласка — начуй, а жыць! Што ў нас, прыстанішча? У нас арцель. Пятрусь, маўклівы і дабрадушны, пачуўшы наш дружны адпор, залемантаваў.

— Чаго вы прычапіліся? Не я-ж яго прыслаў сюды. Я з ім толькі на футболе быў.

— Не віляй, ведаю. Сам згадзіўся, на ўгаворы паддаўся. Слова нам давалі? Давалі? Няхай трымаюць. Заўтра-ж пойдзем да начальніка ЖКА. Каб яшчэ каго, а то нейкага хлюста — «Бёркя, горкя», — перадражніў ён Барыса.

— Ты яго гаворку не чапай, — акрысіўся Пятрусь. — Паслухай лепш, як сам гаворыш.

— Пакіньце вы, хлопцы, спрачацца. — Ігар быў у нас самы разважлівы. — Ён не такі ўжо і благі. Свой хлопец. А пакой у нас і сапраўды вялікі.

Але Юрку што-небудзь даказаць было надта цяжка.

— Выходзіць, я з ім і потым у новым доме павінен разам жыць. Тут і так дысцыпліны няма. Дзе ты прападаў дасюль? — накінуўся Юрка на Петруся.

Юрка схапіў лыжку, пачаў есці тушаную бульбу з мясам.

— Пачакай, Юрка. Нялоўка. Хлопец па гарэлку пабег. Чорт ведае, што можа падумаць.
— А мне напляваць.
Юрка разыйшоўся. Упершыню ён быў такі. Чаго ён? Месца яму шкада? Агульных прадуктаў? Аднаасобнік...
Дасюль мы Юрку слухалі, а яшчэ раней нават паважалі. Юрка зберагаў кожную капейку. Склаўшы нашы палучкі, ён садзіўся за стол і з алоўкам у руках вылічваў, колькі нам патрэбна грошай на харчаванне, на курыва, на кіно, футбол і канцэрты, колькі мы можам адкласці, каб купіць абноўкі. Яго настойлівасцю мы зберагалі грошы і купілі ўжо ў агульнае карыстанне радыёпрыёмнік, электрычны прас і чайнік, электрабрытву і невялікую бібліятэку. Цяпер Юрка падбіваў нас купіць тэлевізар. Ён галасаваў супраць усіх нашых непрадбачаных выдаткаў і да гэтага часу парадкам надакучыў кожнаму. Таму мы так дружна выступілі супраць Юркі. Няма чаго яму прыдзірацца да Барыса, па ўсяму відаць хлопца дружнага і вясёлага.
Барыс вярнуўся хутка.
— Мальцы, не крыўдуйце, я толькі аднае поўлітру прыхваціў.
— Хопіць, што ты...
Мы выпілі усе, нават і Юрка. Ігар падміргнуў мне: сквапны Юрка да чужога, казаў, не будзе піць, а выпіў.
— Як у вас, ці весела? — запытаўся Барыс, калі трохі быў замораны голад.
Дасюль мы і не задумваліся: весела ў нас ці не. Здаецца, весела. Сумаваць не было часу.
— Дзе ў вас танцы бываюць? — дапытваўся Барыс.
— У клубе.
— Пад радыёлу ці аркестр.
Мы не ведалі. Нам было сорамна, але мы не хадзілі на танцы. Па-першае, на танцы трэба было купляць білеты, а гэта азначала кожны раз вытрымліваць сапраўдны бой з Юркам з-за грошай. Па-другое, мы не ўмелі танцаваць. Дзе мы маглі навучыцца? У каго? Праўда, пры клубе існаваў танцавальны гурток, але ў ім вучылі танцаваць палавецкія пляскі, танцы розных лебедзяў і іншыя мудроныя выкрунтасы. Самі разумееце, з нас, чатырох рабочых хлопцаў, наўрад ці атрымаліся-б лебедзі.
Мы, зразумела, змаўчалі-б пра такую непрыемную акалічнасць, каб не Юрка. Не зважаючы на тое, прыемна нам ці непрыемна, ён секануў з пляча:
— Мы танцуем толькі балет: «Баран на лёдзе».
Барыс усхапіўся.
— Вы не ўмееце танцаваць? Мальцы, гэта жахліва! Вы нават не ўяўляеце. Культурны чалавек павінен умець танцаваць. Зноў-жа, дзяўчаты. Пазнаёмішся з дзеўчынай, дык яе ўраз адаб'юць, вокам не міргнеш.
— А я не дазволю ёй танцаваць, — панура заўважыў Пятрусь. — Калі кахае, няхай побач сядзіць.
— Божа мой! Што я чую. Уласнік з першай паловы дзевятнаццатага стагоддзя. Мальцы, вы адсталі! Гэта-ж працей простага. Глядзіце, — Барыс схапіў крэсла сядзеннем ад сябе і, трымаючы яго перад сабой, зрабіў некалькі кругоў.
— Здорава танцуе. — Ігар аж захліпнуўся ад зайздрасці. — А ну, пакажы яшчэ!
Барыс яшчэ раз вінтом прайшоўся перад намі.
— Хочаце, навучу.
Канешне, мы прагнулі авалодаць такім мастацтвам. Мы гатовы былі распачаць вучобу хоць сёння.
— Не, мальцы, пад язык якая вучоба. Заўтра мы што-небудзь прыдумаем. Э-э-э, у нас весялей жылі. Танцы былі, маскярады.
— Дзе гэта ў вас? — Юрку не змякчылі і сто грамаў, ён быў злосны, насуплены. Барыс адказаў. Юрка прысвіснуў.
— Зразумела. Пра вас на ўсіх скрыжаваннях у лапаць звоняць.
Юрка сёння быў проста не падобны сам на сябе. Мала таго, што ён увесь час лез у спрэчку, дык яшчэ самым бесцырымонным чынам абарваў нашы танцавальныя практыкаванні.
— Давайце спаць. Заўтра на работу, — і ён пачаў сцягваць з сябе кашулю. Нічога іншага не заставалася рабіць і нам: прывыклі мы ў арцелі слухаць адзін другога.
— Хто ў вас загадчык гэтага прыстанішча? Трэба-ж нейкі ложак. Дзе-ж я спаць буду?
Сапраўды, заняўшыся вячэрай і размовамі, мы зусім забыліся, што ў пакоі ўсяго чатыры вельмі вузкіх ложкі.
— Трэба да Сцепаніды схадзіць.
— Так яна цябе і чакала. Паспрабуй, сунься, горш будзе, чым за тую выпіўку, — усміхнуўся Юрка.
— Вядома, будзіць не варта.
— Давайце ложкі ссунем. На двух — тром месца хопіць.
Барыс схапіў мой ложак, прысунуў да петрусёвага.
— А калі тры ложкі ссунуць, можна ўпяцёх спаць. Трэба толькі ўпоперак класціся. Мы так у вучылішчы рабілі, — азваўся маўклівы Пятрусь, кідаючы абы-як вопратку на табурэтку.
— Ахайнасць — галоўная рыса чалавека, запомні, Пятрусь. Дзяўчаты любяць хлопцаў акуратных.
Барыс склаў штаны, паклаў іх пад матрац на дошкі: «Вось як трэба».
Мы ацанілі гэты старадаўні метад Барыса: назаўтра на нашых штанах завостраным нажом глядзела ўперад стрэлка.
Раніцай Барыс наляцеў на прыбіральшчыцу Сцепаніду. Ён пайшоў мыцца і, як ён казаў, выпадкова заглянуў у мыцельнікі. У іх ляжалі кавалкі мыла, нейкія анучы. Барыс паклікаў Сцепаніду, запытаўся:
— Гэта што?
— Вас многа, а я адна.
— Каб да вечара мыцельнікі былі чыстымі, чуеш, дарагуша? Я двойчы не паўтараю.
— Сам не вялікі пан, мог вычысціць, — ускіпеў Юрка, калі Барыс расказаў пра сваю размову са Сцепанідай.
— Я табе не перашкаджаю, можаш хоць з лужыны мыцца. Гэта-ж не інтэрнат, а памыйніца.
Сапраўды, інтэрнат меў не вельмі прыстойны выгляд. З лёгкай рукі Сцепаніды яго ахрысцілі «Выселкамі». Стаяў ён на водшыбе, быў нізкі, прысадзісты, з выпучанымі прасценкамі і падслепаватымі вокнамі. Усім сваім нязграбным выглядам ён нагадваў старога дзеда, пра якога ўсе на свеце забыліся, нават смерць.
«Выселкі» пабудавалі яшчэ ў тыя гады, калі ўсё навокал ляжала ў руінах. Тады барак быў сапраўднай раскошай, і ў ім, кажуць, аднойчы нават жыла сям'я галоўнага інжынера. Цяпер поруч з новымі шматпавярховымі дамамі, старая, прыбуцвелая будыніна выглядала проста бездапаможна.
Барак быў часовым прытулкам бескватэрных. Жыхары тут мяняліся часцей, чым прадаўцы ў тым магазіне, што насупраць. Кожны лічыў, што ён тут доўга не затрымаецца, і пляваць яму было на чысціню і парадак. І прыбіральшчыцу сюды далі адпаведную: яна заганяла венікам смецце ў закуткі і знікала некуды на ўвесь дзень.
Разыйшліся мы на работу з крыўдай на Юрку. Прычапіўся да чалавека, які жадае нам-жа дабра.
Пасля гудка я сустрэўся з Барысам ля прахадной. Барыс з двума дзяўчатамі лускаў сланечнік і сплёўваў шалупінне на клумбу, спрабуючы дастаць ім да самай верхавіны, дзе стракацелі рознакаляровыя браткі. Заўважыўшы мяне, ён кінуў дзяўчат, падляцеў пеўнем.
— Не перадумаў?
— Што?
Барыс распасцёр рукі, элегантна павярнуўся перада мной.
— Вучыцца танцаваць?
— Канешне, не.
— Пад язык не станцуеш. Інструменціна адпаведная патрэбна: лепш, вядома, патэфон. Шык, га?..
Я быў захоплены знянацку? Грошы агульныя, і яны ў Ігара. А потым як быць з тэлевізарам? На маё шчасце, нібы з-пад зямлі, з'явіўся побач Ігар.
— Пра што вы?
— Ды вось, Ігарэшці, трэба патэфон купіць. Танцаваць хочаш?
— Каб што таннае, балалайку, напрыклад... Барыс узяўся за бакі, зарагатаў.
— Балалайка! Рассмяшыў ты мяне, малец. Танго пад балалайку... Ну і дзівак! Ну вас, крахаборы вы...
— Ты пачакай, разыйшоўся. Грошы ў нас агульныя, мы за іх рэчы спраўляем, а ты...
— А я што? Мальцы, мне смешна: патэфон— не рэч. Што такое тэлевізар? Глупства. Можна ў клуб хадзіць глядзець.
— Ну, ладна, колькі грошай трэба? — згадзіўся Ігар.
Я тузануў яго за крысо пінжака.
— Нашто згадзіўся? Юрка будзе злавацца.
— Прыстаў, Юрка, Юрка!
У магазіне Барыс адчуваў сябе, як дома. Мы з Ігарам зайздросцілі яму: што значыць, бывалы чалавек. Ён расштурхаў людзей ля прылаўка, махнуў рукой прадаўшчыцы.
— Эй, мілаша, ходзь сюды на два словы. Што ты ля гэтай драбязы круцішся, усёроўна яны табе не дапамогуць плана выканаць. Трэба салідных пакупнікоў паважаць. Патэфончык нам.
Маленькая, ружовашчокая дзяўчына замітусілася. Падала адзін, другі патэфон. Барыс слухаў, бракаваў тавар.
— Хрыпіць, як п'яны. Ну, мілаша, і машына, як трактар.
Прадаўшчыца паклікала загадчыка магазіна. Той загадаў адчыніць склад. Нам вынеслі яшчэ пяць патэфонаў. Нарэшце, Барыс паказаў на адзін:
— Вось гэты, загарніце.
Мы маўчалі, ураджаныя барысавым уменнем выбіраць рэчы.
Раптам Барыса ахінула яшчэ адна ідэя.
— Мальцы, прыхопім для прапорцыі яшчэ і гітарэнцыю. Цыганскія рамансы, песні. А ну, мілаша, выберы нам на свой густ.
Чырвонашчокая дзяўчына старалася дагадзіць Барысу. Іграла яна ніштавата, звінелі струны, ракаталі басы.
А мы маўчалі. Мы былі скораны Барысам, прадаўшчыцай, гітарай і той увагай, якую нам аказвалі ўсе прысутныя ў магазіне. Не, мы не хацелі купляць гітару. Навошта яна нам? Але мы не маглі і не купляць. Мы затрымалі на цэлую поўгадзіну людзей і раптам не купім! Дык-жа потым трэба будзе заўсёды абмінаць гэты магазін. А як будучы не праводзіць вачыма ўсе, хто тут прысутнічае. Лепш хай прападзе лішняя сотня, чым выносіць такую ганьбу. Таму, калі Барыс скамандаваў: «Выкладайце, мальцы, грошы», — мы выклалі на прылавак чатырыста рублёў, адкладзеных беражлівым Юркам на тэлевізар.
А Барыс схапіў гітару, спрытна прыцісніў яе правым локцем да грудзей, кратануў струны і, гледзячы на маладзенькую прадаўшчыцу, даволі прыстойным голасам запеў:

Когда б имел златые горы
И реки полные вина,
Всё отдал бы за ласки, взоры,
И ты владела б мной одна.

Словы «ты» і «мной» Барыс асабліва выдзеліў. Навокал усміхаліся: агонь хлопец... малайчына... Прадаўшчыца так заірдзелася, быццам яе твар абпаліў жар плавільнай печы. Потым яна ашчаслівіла Барыса ўдзячна-пяшчотным позіркам, аж нам з Ігарам стала зайздросна. Не задаволіўшыся і гэтым, яна прынесла з суседняга аддзела кавалак чырвонай істужкі, бантам завязала на грыфе гітары.
З магазіна мы выходзілі гордыя, а калі падыходзілі к «Выселкам», адразу спахмурнелі: мы баяліся Юркі.
Юрка змераў нас знішчальным позіркам, але стрымаў злосць. Ён толькі сказаў:
— Гэта свінства. І наогул... давайце палічымся. Хопіць з мяне гэтай арцелі. Я хрыбет гну не для таго, каб фраерам забаўкі купляць.
— Ты асцярожна словамі кідайся, — абарваў яго Барыс. — Наогул, мальцы, хто ён у вас? Няхай выматваецца, я на яго месцы буду ў арцелі. Мальцы, у мяне ўсё ёсць. Яно, праўда, у знаёмых. Часу ўсё няма схадзіць. А то я прынёс-бы шынкі вендажанай, шпротаў і розных там прысмакаў.
Юрка, бразнуўшы дзвярыма, выбег. Яго не было да позняга вечара. Затое мы адчувалі сябе вольна.
Пасля вячэры мы завялі патэфон, пачалі трэніравацца ў танцах. Барыс сварыўся, кружыўся па пакоі: яму, відаць, падабалася роля нашага настаўніка.

— Мальцы, гэта працей простага. Глядзіце: я заношу левую нагу вось так, раблю поўабарота, потым адрываю правую нагу, дакранаюся на палове дарогі наском да падлогі вось так і раблю абарот вось так. Працей нічога не бывае.

Але ў нас нічога не атрымлівалася. Ігар, які замяняў даму, увесь час наступаў на ногі кавалеру Петрусю, а петрусёвы ногі нязграбна рухаліся, як дзве хадулі. Гэта была не вучоба, а сапраўднае няшчасце. Толькі, што зробіш, калі траім хлопцам раптам да смерці захацелася скараць дзявочыя сэрцы.

На музыку прышлі хлопцы з суседняга пакоя. Аказалася, што не адны мы не ўмеем танцаваць. Нашы суседзі ў гэтым мастацтве таксама не дужа падкаваныя.

Прышла і Сцепаніда. Уціснулася сваім магутным целам у пакой, шырокі акруглены твар расплыўся ва ўсмешцы: такое ў інтэрнаце было ўпершыню. Барыс падляцеў да Сцепаніды, падхапіў, закружыў вакол сябе.



Пасля той спрэчкі мы думалі, што Сцепаніда адштурхне Барыса, не будзе з ім танцаваць, але яна, наадварот, вельмі прыхільна сустрэла яго запрашэнне. Танцавала яна нішто і ўвесь час дагодліва зазірала Барысу ў вочы. А ён ёй нешта нашэптваў, смешнае і, відаць, не дужа прыстойнае, бо Сцепаніда смяялася і знарок канфузліва хавала вочы.

— Чорт, а не Барыс! Толькі што пасварыліся, а глядзі, уламаў Сцепаніду. Другому яна ўсё жыццё помсціла-б,— сказаў мне Ігар. Я, згаджаючыся, кіўнуў галавой.

Вечары за чатыры мы даволі ніштавата навучыліся кружыцца і рабіць розныя павароты. У аднаго Петруся пакуль нічога не атрымлівалася.

А тут зусім нечакана аднойчы сустрэлі мы начальніка жыллёва-комунальнага аддзела.

— Ну, хлопцы, вы некалі мяне выручылі, цяпер трэба мне слова стрымаць. Пайшлі.

Выручка гэтая заключаецца вось у чым. Летась нам быў выдзелены пакой у новым доме. Мы ўжо атрымалі ордэр, як на завод прыехалі чацвёра дзяўчат, выпускніцы тэхнікума. Ім трэба было даць пакой, а яго не было. Вось тады Пятрусь угаварыў нас адмовіцца ад пакоя ў карысць маладых тэхнікаў. За гэта начальнік ЖКА і абяцаў нам у новым доме такі пакой, які нам спадабаецца, а да гэтага ў стары нікога не пасяляць.

Начальнік прывёў нас да новага чатырохпавярховага дома. Дом нібы вылупліваўся з рыштаванняў: два верхнія паверхі ўжо зіхацелі свежай афарбоўкай, ніжнія яшчэ хаваліся за рыштоўкай. На рыштаваннях бегалі дзяўчаты, перагукваліся звонка, весела. Адна, у сінім камбінезоне, з пукам рыжаватых у завіточкі валасоў, які выбіваўся з-пад хусткі, заўважыўшы нас, крыкнула:

— Клаўка, Клаўка, да цябе сваты!

— Ну цябе, Ніна, якія там сваты.

Мы ўвайшлі ўнутр дома. Ніколі ніхто з нас не быў у доме, які пакуль што насяляюць адны будаўнікі. Ад нашых крокаў разносілася па дому гулкае водгулле. Час-ад-часу міма нас прабягалі з выпэцканымі фарбай вёдрамі маладыя дзяўчаты. Яны настырліва стралялі па нашых тварах вачыма, стараліся, даючы дарогу, каб не забрудзіць нашу хоць і не святочную, але чыстую вопратку.

Шырокая пакатая лесвіца яшчэ была загрувашчана цэментам, нейкімі ламанымі скрынкамі, трэскамі, драўлянымі чурбакамі, бітай цэглай. На поручнях, гладкіх, але яшчэ не пафарбаваных,— сляды крэйды і масла. Але праз адчыненыя дзверы ў пакоях відаць быў свежы накат на сценах, барвавела пад сонцам падлога.

Юрка першым узбег на трэці паверх, гукнуў нас.

— Хлопцы, сюды!

Гэта быў сапраўды цудоўны пакой, невялікі, з балконам, з шафай у сцяне. Пакой быў у самы раз, нібы зроблены спецыяльна для нашай арцелі. А які цудоўны краявід адкрываўся з балкона: невялікі заводскі сквер, збоч зіхацеў шкляным дахам завод, за ім між крутых берагоў звівалася рэчка, а далей, зусім на даляглядзе, сінеў лес. Нават не трэба было і пытацца ў нас, каб зразумець: нам пакой спадабаўся.

— Так і запішам, хлопцы,— пакой вам спадабаўся. Праз месяц клічце на новаселле.

Сышоўшы ўніз, мы раптам спахапіліся: а дзе Пятрусь? Паклікалі раз, другі — не чуваць. Выйшлі на вуліцу.

— Ды вунь ён,— паказаў рукой начальнік ЖКА некуды ўверх.

Сапраўды, ля дзеўчыны з рыжым чубам стаяў наш маўклівы, ціхі Пятрусь, і, відаць, дужа уважліва слухаў тлумачэнне, як трэба аздабляць карнізы.

— Эге-гей, злазь!.. — закрычалі мы хорам.

— А мы яго не пусцім. У нас у брыгадзе ніводнага хлопца няма.

— Не аддамо. Самім патрэбен,— запярэчылі мы.

Пятрусь, развітаўшыся, збег уніз.

Неяк пасярод тыдня мы з Петрусём ішлі з работы. Лёгкі ветрык яшчэ абпальваў твары марозам, але ўжо нават у яго подыху адчувалася вясна. Яна наступала імкліва не толькі гэтым сваволнікам-ветрам, высокім гарачым сонцам, але і сінім празрыстым небам і лёгкімі, неважкімі воблакамі. І можа ад гэтага подыху вясны, а можа яшчэ ад чаго другога Пятрусь раптам прызнаўся мне, што кахае тую рыжаватую дзяўчыну — Ніну.

— Ведаеш, у нас ужо ўсё дамоўлена. Вось толькі маці чакаю. Яна павінна прыехаць. Яна-ж адна,— ён, памаўчаўшы, дадаў:— Слухай,— прапанаваў ён,— яны запрашалі нас у госці ў суботу. Сходзім?

— Чаму-ж, калі хлопцы згодны, сходзім.

У суботу пасля работы мы выпрасавалі касцюмы, пагаліліся, так надраілі чаравікі, што яны аж зіхацелі. Барыс, які ўсё яшчэ не змог з'ездзіць па свае рэчы, апрануў петрусёў касцюм.

Але наш паход быў азмрочаны адным выпадкам. Мы зноў пасварыліся з Юркам. У Барыса ўзнікла ідэя купіць віна і закусі. Юрка запратэставаў.

— Калі-б я быў касірам, нізавошта грошай не даў-бы. А ў Ігара мяккі характар.

Юрка яшчэ тады выйшаў з нашай арцелі, але яго ўплыў усё яшчэ адчуваўся. Праўда, Юрка цяпер не мог накласці на выдаткі сваё вета, ён дзейнічаў спадцішка. І цяпер ён намацаў слабае месца Ігара.

— Гэта ў мяне мяккі характар?— Ігар пачынаў гарачыцца, і мы ведалі: гэта да дабра не даводзіць.

— У цябе.

— Ну, то і сапраўды няма чаго грошы дарэмна траціць. Абыйдземся без віна. Лепш патэфончык прыхвацім.

— Не твае грошы, давай!— прыставаў Пятрусь. Яму, напэўна, хацелася паказаць сябе дзяўчатам у найбольш выгадным святле.

— І не твае, нашы. Таму і не даю. А каб не прыставалі — на, Юрка, трымай,— і ён перадаў грошы ў цэпкія юркавы рукі.

— Вось так і выяўляюцца сапраўдныя таварышы,— гарачыўся Пятрусь.— Хоць-бы на цукеркі даў.

Аднак-жа і без цукерак нас сустрэлі вельмі гасцінна. Пятрусь адчуваў сябе, як дома, відаць, ён і сапраўды бачыўся з дзяўчатамі не раз. Але хутка ён быў адціснуты на другі план — увагай дзяўчат авалодаў Барыс.

— Ніначка, на тур вальса,— згінаўся ён у паклоне, і Ніна ішла танцаваць. — Ніначка, прашу на танго.

Вадзіў Барыс з асаблівым шыкам: трымаўся, як палка, прама, правая рука з адтапыраным мізінцам рубам датыкалася да таліі, левая на

адмаху беражліва падтрымлівала нініну руку, ногі пераступалі ляніва, але спрытна. Барыс увесь час нешта гаварыў Ніне, і дзяўчына разпо-разу залівалася звонкім смехам. Затое Пятрусь адразу спахмурнеў. Ён нібы прырос да крэсла і ўвесь час зацята круціў ручку патэфона ды злосна зыраў на Ніну. Што зробіш, калі так і не адолеў мудронай навукі танца!

Я таксама быў абураны паводзінамі Ніны: запрасіць хлопца, каб уволю паздзекавацца з яго. Вось яно, жаночае пастаянства! Ды і Пятрусь вельмі харошы, сядзіць, насупіўшы бровы. Мне хацелася падыйсці да Барыса, расказаць яму ўсё, што стала вядома мне, але стрымлівала недарэчная сарамлівасць. Нарэшце, наогул, ці маю я права ўмешвацца ў чужыя справы.

Потым Барыс і Ніна пайшлі танцаваць лезгінку, мы хлопалі ў далоні, абступіўшы танцораў поўкругам. А калі танец скончыўся, выявілася, што Пятрусь збег.

— Чаго ён, дзівак?— пацiснуў плячыма Ігар.

Я заўважыў, што дзяўчаты, пераглянуліся і Клава нешта сярдзіта шапнула Ніне. Ніна спачатку разгублена азірнулася, потым ненатуральна зарагатала.

— Сапраўды, дзівак. Давайце танцаваць.

Я пакратаў Барыса за локаць.

— Пойдзем дамоў.

— Чаго вы?

— Па дарозе скажу.

Дзяўчаты спрабавалі нас адгаварваць, але мы апрануліся і пайшлі.

Я толькі ўжо збіраўся ўвесці хлопцаў у тайны пятрусёвых сардэчных спраў, як Барыс, пахлопаўшы сябе па кішэнях, аб'явіў:

— Пальчаткі забыў. Вы памалу ідзіце, я зараз,— і пабег назад.

Мы ішлі, заплятаючы нага за нагу, але Барыс нас не нагнаў. Пастаялі ля інтэрната, я расказаў Ігару пра петрусёва каханне, а Барыса ўсё не было. Ігар кінуў папяросу ў лужыну, і чырвоны аганёк, зашыпеўшы, патух.



— А мы з табой таксама добрыя: кінулі яго там.

— Што-ж мы рабіць павінны былі?

— Каб ён з ёю дрэнна абыйшоўся.

Я адказаў недзе даўно чутай фразай: «Насільна мілы не будзеш».

— Усе яны такія. Верціхвосткі. Мусіць, клялася, казала, што кахае, а першаму сустрэчнаму на шыю кінулася. Ат, пра такіх і гаварыць няма чаго. Пайшлі дамоў.

Юрка ўжо ляжаў у пасцелі, закінуўшы за галаву рукі. Пятрусь сядзеў на табурэтцы — адна нага разутая, другая — у чаравіку. І Юрка, і Пятрусь — абодва былі чырвоныя, злосныя, відаць, перад намі яны здорава паспрачаліся. На нас Пятрусь паглядзеў з надзеяй і пераможна зірнуў на Юрку: ага, праваліўся са сваімі здагадкамі, але, як толькі даведаўся, што мы прыйшлі без Барыса, спахмурнеў, пачаў хутка разувацца.

— Вось вам і Бёркя. Зразумелі? Ваш хлеб есць, на вашым ложку спіць, вашы гарнітуры носіць, ды яшчэ пры дапамозе вашых-жа патэфонаў дзяўчат адбівае.

— Ну, ты, памалу,— закрычаў Пятрусь на Юрку:— Я яму заўтра морду наб'ю.

— Сам вінаваты — пабег. І яна добрая краля,— не вытрываў Ігар. Пятрусь падбег да яго, схапіў за грудзі.

— Яе не чапай, чуеш, а то вось! — ён паднёс да ігаравага носа здаравенны кулак.

— Ты кулакі для справы паберажы, яны спатрэбяцца для таго, каб уласную дурасць выбіваць,— зноў азваўся са свайго кутка Юрка.— Знайшоў-жа сябра, мяне з арцелі выжыў, з Ігарам пасварыўся. Вось і мілуйся з ім.

Мы выключылі святло, але ніхто не спаў. Маўчалі, варочаліся з боку на бок, чакалі Барыса. Прыйшоў ён гадзіны праз паўтары. Не запальваючы святла, распрануўся, кінуў петрусёў касцюм на табурэт, потым вобмацкам знайшоў на стале ігаравы папяросы, закурыў. Я чуў, як злосна соп Пятрусь, але ён так і не азваўся.

Цяпер наша арцель канчаткова распадалася. Пятрусь, паддаўшыся юркавым угаворам, назаўтра-ж выйшаў з арцелі. Грошай у ігаравай касе заставалася рублёў з сотню, а да палучкі было яшчэ далёка. Мы параіліся з Ігарам і вырашылі пагаварыць з Барысам: альбо няхай уносіць грошы, альбо канец супольшчыне.

— Мальцы, ды я з дарагой душой. Колькі з мяне?

Мы збянтэжыліся, бо кожны ўносіў у арцельную касу ўсе свае зберажэнні.

— Твая справа, колькі ў цябе ёсць.

— А мы, мальцы, вось як зробім: не будзе ў вас грошай, тады я вас карміць буду.

На тым і пагадзіліся. Дзён пяць мы харчаваліся нішто: быў яшчэ сякі-такі запас прадуктаў. А потым Ігар аддаў апошні рубель на хлеб, і мы перайшлі на барысава ўтрыманне. Перш-на-перш ён перасадзіў нас на чай.

— Мальцы, нанач есці вельмі шкодна. У мяне дзядзька артыст— ён увечары толькі чай п'е.

Неўзабаве Барыс яшчэ больш паклапаціўся аб нашым здароўі, і мы пачалі піць чай два разы на дзень — увечары і раніцай.

— Мальцы, на Захадзе людзі абедаюць без хлеба, — дні праз два зноў паведаміў Барыс, і мы пачалі есці без хлеба рэдкі, посны суп.

Ці доўга так прадаўжалася-б, не ведаю, каб не два выпадкі, якія ўсё змянілі.

— Эх, вы, ёлупні, абармоты, — накінуўся на нас аднойчы Юрка, калі мы з Ігарам, паабедаўшы, туга зацягнулі рамяні і закурылі па таннай папяросе. — Ён вас хутка ў туберкулёз угоніць, гэты ваш Бёркя.

— А табе якая справа?— агрызнуўся Ігар.

— Такая, што ён вунь зараз сядзіць у Сцепаніды і частуецца. Яму двух дурняў мала, трэцяга знайшоў.

— Хлусіш!

— Можаце праверыць. У яе і сундук яго стаіць. Прывезці ён яго прывёз, а ў пакой не нясе.

— Гнаць яго трэба, я даўно вам казаў,—Пятрусь моцна сціснуў кулакі.

— Цяпер яго выганіш. Сам-жа згадзіўся яго прыняць,— папікнуў Петруся Юрка.

Ігар выбег з пакоя, а калі неўзабаве вярнуўся, я зразумеў: так яно і ёсць, як казаў Юрка. Мы моўчкі чакалі Барыса. Кожны гатовы быў наляцець на яго. Ён увайшоў, быццам нічога не здарылася.

— Мальцы, што насы павесілі? Сёння мне фарт выпаў. Частую. Ідзе?

Не чакаючы нашай згоды, ён накінуў пінжак, кулем вылецеў з пакоя.

Як і ў той раз, ён прынёс поўлітра, ладны кавалак каўбасы, кансервы, і мы здаліся. «Не такі ўжо ён і дрэнны гэты Барыс»,— супакойвалі мы сваё сумленне.

Не паспелі мы вылезці з-за стала, як у пакой зайшоў камендант.

— А-а-а, ён ужо вам сказаў. Што-ж, Барыс, не даў мне самому хлопцаў парадаваць.— Мы нічога не разумелі. У чым справа? Якая радасць?— Ардэрок я ўжо на вас выпісаў, праз тры дні машыну падам.

Толькі цяпер мы пачыналі ўсё разумець: камендант настойліва ўладжваў на новую кватэру Барыса. Пяць хвілін назад мы яшчэ пратэставалі-б, а цяпер нашы языкі былі звязаны чаркай гарэлкі і кавалкам каўбасы. Затое Барыс адчуваў сябе пераможцам.

— Мальцы, раз такая радасць — яшчэ адну поўлітру?— і ён зноў пабег.

— Ну што, рады?— запытаўся ў нас камендант.

— Я— ніколькі,— адказаў Пятрусь,— бо я не паеду. Я на прыватную кватэру іду.

— Чаму? Што здарылася?— здзіўлена перапыталі мы.

— Вось глядзіце,— Пятрусь паказаў тэлеграфны бланк,— маці прыязджае.

Мы пераглянуліся: маці едзе, а тут такое здарылася.

— Ну, нічога,— Ігар паклаў на петрусёва плячо руку.— Будзе і на нашай вуліцы свята. І дзяўчаты будуць. А на такую і ўвагі звяртаць не трэба.

— Я на іх усіх зараз глядзець не хачу, а вось што,— паморшчыўся Пятрусь.

— Хлопцы, выйдзем на хвіліну,— падміргнуў нам Юрка. Мы з Ігарам выйшлі.— Вось што, хлопцы, усёроўна я з гэтым Бёркам жыць разам не хачу. Аддадзім пакой у інтэрнаце Петрусю, а самі тут, у Выселках, застанемся. Толькі пакуль нікому ні слова.

— І правільна,— Ігар пацёр далонь аб далонь.— Сходзім да начальніка ЖКА.

Назаўтра пасля работы мы з Юркам забеглі ў жыллёва-комунальны аддзел, выпісалі на петрусёва прозвішча ордэр. Нам не цярпелася хутчэй уручыць яго Петрусю. Але ён, відаць, з работы пайшоў шукаць кватэру. У пакоі быў адзін Барыс. Ён абедаў. Убачыўшы нас, Барыс разгубіўся, згарнуў кавалкі вяндліны ў паперу і паклаў у чамадан.

— Што-ж ты ўсіх не дачакаўся? Цябе-ж арцель карміла.

Я штурхануў Юрку: навошта гаварыць пра такія дробязі і, каб перавесці размову, расказаў, які мы думаем зрабіць Петрусю падарунак.

— Вы сабе як хочаце,— пабарваеў Барыс,— а я не жадаю тут надалей заставацца. Хай ён тут застаецца, вось што.

— Ну, ты не вельмі, гэта наша справа.

— Я скардзіцца буду. Вы яшчэ мяне не ведаеце.

І ён сапраўды скардзіўся; ён пісаў заявы, скаргі і пісьмы аж датуль, пакуль не далі месца ў новым пакоі.

Выязджалі з «Выселкаў» адразу абодва: Барыс і Пятрусь. Петруся і яго маці мы праводзілі ўтраіх, а Барыса адна толькі Сцепаніда. Яна ўзваліла на свае магутныя плечы жоўты чамадан і важна крочыла па талым снезе, а Барыс нёс ззаду невялікі кошык.

— Ён і тут чужымі рукамі жар заграбае,— пакрывіўся Юрка.— Чужога поля ягада — на выгляд прыгожая, а на смак агідная.

Сяргей ГРАХОЎСКІ

## Добры дзень

Я ўсё спазнаў: і радасці, і гора,
я з сотні рэк пакаштаваў вады,
ды ноч у ноч адзін мне сніўся горад,
не даючы спакою ўсе гады.

Ён клікаў, уставаў цудоўнай явай,
паранены, ды блізкі нам такі.
На ўсіх шляхах, за кожнай пераправай
яго успаміналі землякі.

У гэтую сустрэчу кожны верыў.
...І вось іду між пасталелых дрэў
і нечакана у асеннім скверы
найлепшага знаёмага сустрэў.

Успомніў тое восеньскае ранне,
калі яго чароўная рука
вяла мяне, малога хлапчука,
па ўздзіраванелым дзедаўскім кургане
на неабсяжны сонечны прасцяг,

А праз гады па бальшаках Палесся
за ім вялі мяне шляхі жыцця
да першых комунараў на Арэсе.
.. Вось ён стаіць, над ім звісае сучча,
а ён задумаўся, глядзіць у далячынь,
жывы, знаёмы, блізкі, неўміручы.
Аб чым ён марыць, думае аб чым?

Над ім яшчэ і лісце не апала,
а твар асмужыў сонечны прамень.
Здавалася, вітаў мяне Купала.
Я шапку зняў, сказаўшы: «Добры дзень!»

## Песня

Яна зусім з другімі не такая —
знаёмага ніколі не міне,
ды раптам чырванее і змаўкае,
угледзеўшы на вуліцы мяне.

І у мяне губляецца усмешка,
І смеласці, прызнацца, не стае.
Разыйдземся. Але прыводзіць сцежка
да хаты невялічкае яе.

Зачыненыя шчыльна акяніцы,
павоі расцвітаюць на сцяне.
Яна заснула, ёй, напэўна, сніцца...
ёй, мабыць, сніцца тое, што і мне.

Лугі у квецені і росная дарога,
і неба сіняе, і сінія ільны.
На нашай сцежцы не відаць нікога,
Здаецца, ў цэлым свеце мы адны.

Ды не адны. Выходзяць на змярканні
у поле пары, ходзяць і маўчаць:
адвагі не хапае закаханым
аб самым запаветным расказаць.

Разыйдземся, і песня узаўецца,
Што нам здаўна спакою не дае.
Аб тым, што не ўмяшчаецца у сэрцы,
пра што маўчым, аб тым яна пяе.

## Ноч над Мінскам

Ясныя, зорныя ночы над Мінскам.
Што-ж ты блукаеш адзін уначы?
Недзе спявае каханая блізка,
Мабыць, насустрач табе ідучы.

Бэз закіпае ружоваю пенай,
Зоры плывуць у вясенняй вадзе.
Вось і начная закончана змена —
Недзе каханая побач ідзе.

Побач ідзе і кагосьці шукае,
Кліча і, мабыць, яму аднаму
Песню ад шчырага сэрца спявае,
Толькі не ведае, пэўна, каму.

Лёгкі туман праплывае над Мінскам,
Быццам пялёсткамі сыплюць сады.
Ты не турбуйся — каханая блізка,
Хутка яе напаткаеш і ты.

# Першыя крокі

Гомельскі абласны драматычны тэатр — самы малады ў рэспубліцы. Ён існуе ўсяго толькі другі сезон, аднак мае ўжо даволі цікавую біяграфію і трывалыя сувязі з гледачамі. І хоць яшчэ не ўсе спектаклі калектыву вызначаюцца рэжысёрскім і акцёрскім майстэрствам, але ёсць у яго плённае імкненне да адлюстравання ў сцэнічных вобразах нашай сучаснасці.

У гамельчан ужо ёсць спектаклі, для якіх характэрны свежасць думкі, характво ўнутранага свету герояў і іх вонкавая прывабнасць. І разам з тым не ўсе творчыя магчымасці і патэнцыяльныя сілы калектыву яшчэ раскрыты.

Вельмі прыемна і радасна, што ў некаторых спектаклях, прысвечаных нашай сучаснасці, гамельчане не выступаюць як механічныя перапраймальнікі ўжо вядомых сцэнічных вырашэнняў драматычных твораў, а імкнуцца ўнесці сваё, індывідуальнае, у раскрыцці зместу п'есы.

Удалай трэба лічыць пастаноўку тэатрам п'есы В. Розава «У добры час». Малады артыст В. Стрыжоў— выхаванец Маскоўскага тэатральнага інстытута — выбраў правільны шлях да вырашэння вобраза галоўнага героя. Дапытлівa і ўдумліва аналізуючы тэкст і «падтэкст» ролі Андрэя, артыст за вонкавай рухавасцю і вясёлосцю яго ўбачыў складаны характар юнака. Андрэй — Стрыжоў пазбаўлены лёгкадумнасці. З першых крокаў Андрэя на сцэне адчуваецца неўкае, хоць яшчэ і не зусім усвядомленае, нездавальненне юнака ўтрыманскім жыццём, марнатраўствам, няўдалай сістэмай выхавання дзяцей у сям'і. Надакучлівы дробязны клопат маці не загартоўвае волю, а, наадварот, расслабляе сілы, пазбаўляе энергіі і напорыстасці.

І таму прыезд у Маскву з Сібіры працавітага, жыццелюбівага юнака Аляксея, гарачыя спрэчкі і сустрэчы з ім, нібы сонечным святлом, асвятлілі і раскрылі перад Андрэем новыя, невядомыя раней далягляды, ідэалы, за якія хочацца горача змагацца.

І хоць юнак па-ранейшаму яшчэ бясконца рассыпае дасціпныя слоўцы і кпіны, маскіруе свой душэўны неспакой вонкавай бравадай, В. Стрыжоў падкрэслівае нараджэнне ў героя дзейсных адносін да жыцця, веры ў будучыню. Яна ўжо не ўяўляецца яму без хмарынкі, ці як бесклапотнае нуднае існаванне пад мамчынай апекай. Артыст лагічна і эмацыянальна даводзіць абгрунтаванасць прыходу Андрэя да думкі аб тым, што толькі ў пачэснай высокароднай працы ён знойдзе сваё сапраўднае месца ў соцыялістычным грамадстве і асабістае шчасце.

У ролі Андрэя і ў вобразе Вані Рыбакова («Іван Рыбакоў» В. Гусева) праявілася добрая школа Стрыжова, яго здольнасць глыбока аналізаваць п'есу, ролю, асобныя сцэны і эпізоды драматычнага твора, умельства выконваць складаныя задачы, якія пастаўлены рэжысурай.

Хочацца толькі пажадаць таленавітаму акцёру празмерна не захапляцца першымі ўдачамі, ніколі не траціць свежасці пачуцця і аналітычнай думкі ў вялікіх і малых вобразах сучаснай і класічнай драматургіі.

Жывы, сапраўдны творчы запал адчуваецца ў вобразах, якія стварыла Р. Барзава.

Надзвычай складаную псіхалагічную задачу паставіў аўтар п'есы «Крыштальная крыніца» Е. Бондарава і рэжысёр І. Дуброўскі перад выканаўцай ролі Алы — жонкі лейтэнанта-пагранічніка і сястры дыверсанта Кавальчука, які таемна прабраўся на заставу і прыладзіўся тут на пасадзе шафёра.

Артыстка з даволі багатай унутранай тэхнікай, Р. Барзава перадала ў вобразе душэўнае хваляванне гераіні, яе канфлікт паміж асабістым і высокім грамадзянскім абавязкам. Пераканальна даведзена перамога маральнага абавязку маладой жанчыны над пачуццём сваяцтва. Асаблівага ўздыму дасягае Р. Барзава ў найбольш трагічных заключных эпізодах спектакля, калі канфлікт сэрца і розуму Алы дасягае асаблівага напружання.

Адсутнасць абыякавасці, глыбокую зацікаўленасць да лёсу сваіх гераінь — савецкіх дзяўчат, маладая артыстка праявіла і ў іншых спектаклях, у прыватнасці, у ролях Насці («Іван Рыбакоў») і Машы («У добры час»).

У вобразе Насці — шчырай дачкі нядобрасумленнага бацькі Цітова, Р. Барзава падкрэслівае высокароднае аблічча маладой гераіні. Насця набывае маральны гарт і душэўнае харатво ў прынцыповым канфлікце з Цітовым, у дзейснай барацьбе супраць дробнабуржуазных нораваў, якімі ён кіраваўся ў сваіх узаемаадносінах з людзьмі.

Вельмі важна, каб артыстка адчула кваліфікаваную рэжысёрскую дапамогу ў лепцы партрэта гераінь, ва ўдасканаленні пластычнага малюнку ролей. Па гэтай лініі яе майстэрства патрабуе яшчэ значнага ўдасканалення.

Гамельчане парадавалі таксама цікавым і свежым вырашэннем вобразаў воінаў—вартаўнікоў дзяржаўнай граніцы Савецкага Саюза. Вельмі прыемна, што ў гэтых ролях выступаюць выхаванцы Беларускага тэатральна-мастацкага інстытута. У выніку імкнення акцёраў да індывідуалізацыі вобразаў салдат, кожны з іх набыў на сцэне выразныя характэрныя рысы.

Так, напрыклад, салдат Захараў (артыст Ф. Іваноў) — мужны баец і вясёлы жартаўнік, «душа» заставы. Пагранічнік Улыбін (артыст В. Куляшоў) — строгі, дысцыплінаваны службіст, але няспрытны і нязграбны ў каханні. Кухар Барадзін (артыст В. Грэкаў) — шчыры, але крыху дзікаваты юнак. Кожны з выканаўцаў ролей, адыходзячы ад стандарту і вонкавага ўяўлення аб пагранічніках, надаў сваім героям і мяккія гумарыстычныя рысы.

Вельмі рэдка ў абласных тэатрах мастак праяўляе сябе роўнапраўным суаўтарам спектакля. Да гонару гамельчан можна адзначыць удачы і ў гэтай галіне. Надзвычай цікавыя дэкарацыі Д. Рачнога да «Крыштальнай крыніцы». Тут мастак выступае не толькі ў ролі каментатара асобных падзей п'есы, або як вынаходца якой-небудзь трапнай дэталі без уліку агульнай рэжысёрскай задумы. У спектаклі аб пагранічніках праца Д. Рачнога больш значная і самастойная. Ён галоўны стваральнік велічнай манументальна-суровай і поўнай светлай лірыкі пейзажнай карціны тайгі. Сапраўдная тэатральнасць адчуваецца і ў большасці касцюмаў дзеючых асоб, у многіх дэталях грыму і бутафорыі.

У Гомельскім тэатры, дзе пакуль што зроблены толькі першыя крокі да стварэння зладжанага мастацкага ансамбля, ёсць усе ўмовы для плённай творчай дзейнасці калектыву. Акцёрская моладзь пераймае вопыт і прафесійнае ўмельства старэйшых майстроў. У працэсе такога дзейснага кантакту моладзі са сталымі акцёрамі, у спектаклі паступова знікаюць рознастыльнасць, рамесніцкая безгустоўнасць і ўзбагачаецца творчая індывідуальнасць найбольш здольных акцёраў.

**М. МІХАЙЛАЎ.**



Артыстка М. Квашніна ў ролі Ані (спектакль «Каханне Ані Бярозка»).



Артыст Ф. Іваноў у ролі буфетчыка Нікалая (спектакль «Іван Рыбакоў»).



Артыстка І. Гулевіч у ролі афіцыянткі (спектакль «Іван Рыбакоў»).



Сцэна з спектакля «Іван Рыбакоў». Насця — арт. Р. Барзава, Іван Рыбакоў—арт. В. Стрыжоў.

# Ганьба „Святога“ Лукі

Яўхім ЦЫБУК



Мал. В. Грамыкі.

Сакратар райкома комсамола Марат Стальмашонак не ведаў, што рабіць. Сёння можа ў дзесяты раз да яго забягала Марыля Паліваная з Белай Крыніцы і, канешне, зноў патрабавала лектара. Тры месяцы за сакратара Марат Стальмашонак, і ўвесь гэты час Марыля не дае яму спакою. Па-першае, не вельмі ёй дагодзіш гэтымі лектарамі. Марыля патрабуе такога лектара, які-б ушчэнт разбіў «святога Луку», што ўжо трэці год жыве на лёгкім хлебе ў Белай Крыніцы. Гэты Лука, мабыць, дужа хітры чалавек, нездарма ён выславіўся за святога. Расказваюць, што калі Лука ідзе вуліцай, то ён увесь час пазірае на неба і нешта шэпча, а дома заўсёды чытае тоўстую кнігу ў чорнай вокладцы. Адным словам, у Белай Крыніцы ёсць людзі, якія вераць, што Лука сапраўды з'яўляецца святым, і ходзяць да яго лячыцца і варажыць. Лечыць Лука «святою» вадой, а варожыць на чорнай кнізе.

Марыля Паліваная, сакратар белакрыніцкіх комсамольцаў, патрабуе такога лектара, які-б разбіў усе хітрыкі «святога» Лукі. Пасылалі ў Белую Крыніцу і ўрача, і выкладчыка астраноміі з раёна, але Лука ўсёроўна трымаецца моцна. Марыля гаворыць, што трэба прыслаць лектара, які-б ведаў свяшчэннае пісанне і разбіраўся ў чорных кнігах, бо без гэтага ваяваць з Лукой цяжка. Але паспрабуй, дастань такога лектара! Яго, мабыць, і з Масквы не выпішаш...

Настрой у Марата быў не дужа важны. Ён, мусіць, разважаў над тым, што на чарговым пленуме Марыля зноў будзе яго распякаць.

Раптам Марат падхапіўся і выскачыў на вуліцу. У яго галаве нарадзілася шчаслівая ідэя. «Гешка, напэўна, ведае свяшчэннае пісанне, — разважаў Марат. — Ён-жа сам расказваў, як некалі поп паставіў яго ў вугал на грэчку за тое, што ён на ўроку закона божага гуляў у «цот і лішку». Як толькі знайсці гэтага Гешку?»

Але Гешку — такім было прозвішча адваката мясцовага нарсуда — доўга шукаць не давялося. З прычыны таго, што ў гэты гарачы час касавіцы спраў у судзе не было ніякіх, Гешка хадзіў па скверы і расказваў нешта вясёлае двум сваім знаёмым хлопцам. Тыя аж за жываты браліся з рогату. Чалавек Гешка быў вясёлы і дасціпны, — гэта ведалі ўсе.

Стальмашонак адвёў Гешку ўбок і, надаўшы твару сур'ёзнасці, запытаў:

— Вы свяшчэннае пісанне ведаеце?

— А як-жа, — ніколечкі не здзівіўся запытанню Гешка. — Я-ж яшчэ ў шаснаццатым годзе закончыў цэпэша.

— Якое цэпэша? — не зразумеў Стальмашонак.

— Ну, царкоўна-прыходскую школу, скарочана.

— А з лекцыямі вы калі-небудзь выступалі?

— Я, брат, яшчэ ў дваццатым годзе адменным лектарам быў, калі на рабфаку вучыўся, — ажывіўся Гешка. — Мая прафесія, можна сказаць...

Гэта было якраз тое, што і трэба. Стальмашонак расказаў усё, што ведаў пра «святога» Луку, і яны лёгка дамовіліся, што Гешка пойдзе чытаць лекцыю ў Белую Крыніцу.

Стальмашонак быў задаволены. Адно, што яго крыху засмучала, дык гэта гешкаў выгляд. Гешка быў маленькі, шчупленькі і знешне нагадваў старога, абскубанага вераб'я. Такога, бадай, яшчэ і слухаць не будуць. Але выбіраць не прыходзілася...

А далей падзеі развіваліся такім парадкам. На другі дзень пасля размовы Гешка паявіўся ў Белай Крыніцы. Надвор'е стаяла спякотнае, сонечнае, і вясковая вуліца была бязлюднай. Гешка паспрабаваў адшукаць Марылю Паліваную, каб дамовіцца наконт лекцыі, але яму сказалі, што яна на сенажаці. Тады лектар прайшоўся разы са два па вуліцы, спыняючыся каля бабулек, што сядзелі з малымі на прызбах. Пра што з імі гаварыў Гешка, гэта засталося невядомым. Але раптам твар у лектара прасвятлеў, і ён, борздзенька падхапіўшыся, пашыбаваў уздоўж вуліцы. Гешка ўжо ведаў, дзе жыве «святы» Лука, і адважна пераступіў парог яго хаты. «Святы» сядзеў за сталом і, плямкаючы губамі, чытаў чорную кнігу. У яго былі хітрыя шэрыя вочкі і калматая барада.

— Зубы баляць, — заенчыў Гешка, хапіўшыся за шчаку. — Дапамажы, святы чалавек. У дактароў веру страціў, дваццаць вёрст да цябе ішоў.

— Маё слова і за сто вёрст чутно, — задаволена прамовіў «святы». — А як тваё імя?

— Хвёдар, — прапішчэў жалобным голасам Гешка.

— Дык вось, раб божы Хвёдар, святое таінства на зубы нельга тварыць пад дахам. Пойдзем пад чыстае неба.

Святы адліў у медную конаўку вады з нейкай чорнай бутлі і разам з Гешкам выйшаў на двор. Ён пасадзіў лектара на лавачку і загугнявіў над яго галавой.

— Месяц на небі, мядзведзь у лесі, рыба на моры... Як ім у кучу не схадзіцца, за адным сталом не садзіцца, з аднае гары віна не піць, з адной чашы стравы не есць, так хведаравым зубам не балець...

«Святы» загадаў Гешку глынуць тры разы загаворанай вады, патрымаць яе ў зубах, а пасля гэтай вадой умыцца. Але Гешка сядзеў і ўсміхаўся.

— Цябе пакарае нячыстая сіла, — ускіпеў «святы». — Ты што, смяяцца з мяне прышоў?

— Слабы ты загавар ад зубоў ведаеш, — сумным голасам прамовіў Гешка. — Ён мала дапамагае. Як цябе тут і церпяць? Вось паслухай мой загавар, ён прыгодны і зімой і летам.

І Гешка, падняўшы вочы к небу, пачаў:

— Маладзік маладой, у цябе рог залатой, на моры купаўся, нам паказаўся. Табе на цёмныя ночы, а нам на светлыя вочы, вам на стаянне, а нам на здароўе, вам на вісату, а нам на красату. Первы цар — ясен месяц на небі, другі цар — зелен дуб у полі, трэці цар—белы камень у моры. Сколькі тром царом у кучы не схадзіцца, столькі раба Лукі зубкам не балець, і косці не шчамець, і крыві не псаваць...

«Святы» Лука стаяў, вырачыўшы вочы.

— Ты хто такі? — цяжка дыхаючы, спытаў «святы».

— Такі, як і ты,—адказаў Гешка. — Думаю пасяліцца ў тваёй вёсцы. Лячыць людзей буду і варажыць. Ты-ж загавараў усіх не ведаеш, лечыш дрэнна.

— А хто табе дазволіць тут жыць? — кіпяціўся Лука.

— А табе хто дазволіў?

— А ну, скажы загавар ад прыстрэка, — ухапіўся, нарэшце, за апошні паратунак Лука.

— Хадзілі-гулялі ўрокі-прарокі па чыстаму полю, па сіняму мору, — затараторыў Гешка.— На сінім моры белы камень, з-пад белага камня выйшлі тры дзявіцы, тры сястрыцы, яны разносілі ўрокі-прарокі — шэры глаз, зялёны глаз, чорны глаз...

— А які ад звіха загавар? — яшчэ спадзяваўся на гешкава няведанне «святы».

— На моры, на лукамор'і хадзілі тры дзявіцы і рвалі тры травіцы; первая — зелле жоўтае, другая — зелле краснае, трэцяя — зелле састаўляла і звіх замаўляла...

«Святы» Лука здаўся. Ён стаяў са збялелым тварам і цяжка дыхаў.

— Не жыві тут, — папрасіў ён Гешку слабым голасам. — Хіба мала табе месца...

— Тут прырода мне падабаецца, — з сур'ёзным выглядам заявіў Гешка. — І, кажуць, зарабляеш ты добра.

— Я табе адступнога дам, — запрапанаваў «святы». — Колькі ты просіш?

Гешка зрабіў выгляд, што задумаўся. Тады Лука пацягнуў яго ў хату і спрытна паставіў на стол гарлач з самагонкай. Гешка пацікавіўся яшчэ чорнай кнігай. «Рокамболь или роковая любовь», — стаяла на тытульным лісце.

— Цябе-ж засмяюць, калі ўбачаць, на якой кнізе ты варожыш, — сказаў ён «святому».

— А я нікому яе не паказваю. На ёй вокладка добрая, чорная. Цяпер такіх не робяць.

За сталом Гешка сам амаль не піў, паболей падліваў «святому» і абяцаў перабрацца з Белай Крыніцы ў другое месца. Лука ад радасці перакульваў карэц за карцом.

А надвячоркам бабулькі, што сядзелі з дзецьмі на прызбах, убачылі цікавы малюнак. Па вуліцы, граючы на балалайцы, крочыў Гешка, а перад ім скакаў упрысядкі Лука.

Гоп-чак! Каля броду  
Замуцілі качкі воду,  
Бо ўбачылі качура.  
Гоп-чак-чыра, гоп-чура! —

на ўсю вуліцу запяваў «святы», а Гешка ў такт яго песні дрынкаў на балалайцы. За «святым» цугам ішла дзетвара, а бабулькі адварочваліся ад Лукі.

Вечарам, калі п'яны, як цэп, Лука хроп каля сваіх-жа веснічак, Гешка чытаў у Белай Крыніцы лекцыю. Людзей сабралася столькі, што аж клуб трашчаў. Гешка ўмеў гаварыць! Ён расказваў пра сваю бабулю, якая ведала ўсе загавары, але калі звіхнула нагу, то яе прышлося везці ў бальніцу. Гэтым загаварам лектар і навучыўся, калі скакаў яшчэ верхам на бярозавым кійку. Але больш за ўсё пацяшаліся ў Белай Крыніцы з чорнай кнігі, якую Лука падараваў Гешку...

На гэты раз Марыля Паліваная была задаволена.



**Насустрач фестывалю!**

**Група членаў танцавальнага калектыву дома культуры будаўнічага трэста № 136 (г. Мінск) развучвае беларускія народныя танцы. У першай пары — матарыстка Надзежда Касцючэнка і тынкоўшчык Леанід Іваноў; у другой — матарыстка Ядвіга Туміловіч і маляр Іван Рымар.**

Фото А. Дзітлава.



**Перадавая ткачыха, дэпутат XX з'езда КПСС Лілія Макарэвіч** (злева) **і ткачыха — Валянціна Кастраміна на працы.**

Фото М. Ананьіна.

## На конкурс „Маладосці"







Часопіс «Маладосць» з гэтага нумара пачынае друкаваць фотаздымкі, дасланыя нам на конкурс. Партрэт юнай натуралісткі (здымак злева) паступіў ад Эдуарда Прысмакава, рабочага Мінскага вадаканалтрэста. Вялікую серыю фотаздымкаў прыслаў на конкурс выпускнік Чырвонабярэжскага тэхнікума механізацыі сельскай гаспадаркі Нікалай Шарай. Мы друкуем адзін з іх — «Вясна» (здымак у цэнтры). Фотааматар Уладзімір Барысенка з мястэчка Гарадзец, Гомельскай вобласці, прыслаў фотаэцюд якому не даў назвы, але тут і без назвы відаць, што гэта за дзяўчынкі (здымак справа).

# Што вы параіце?

## Час — лепшы лекар

Г. пакахаў сваю аднакурсніцу. Кажучы без пераўвялічання, ён проста жыць без яе не мог: пісаў ёй лісты, складаў вершы, шукаў сустрэч. Але дзяўчына не адказвала яму ўзаемнасцю і была згодна толькі на простае сяброўства Справа абарочвалася так, што яго няўдалае каханне пачало дрэнна адбівацца на вучобе і нават на здароўі.

Мы, сябры, прышлі да вываду, што адзіны сродак у гэтым выпадку — разрыў адносін паміж Г. і яго дзяўчынай.

Г. закончыў вучобу, паехаў працаваць у вёску. Зараз ён вучыцца завочна. — як бачыце, справы ідуць добра. З гутарак паміж намі мне вядома, што хутка ў яго будзе сям'я.

Я лічу, што Г. паступіў правільна. Ён не стаў патрабаваць немагчымага ад чалавека, які яго не кахаў, бо пры далейшым сумесным жыцці, безумоўна, яны маглі стаць перад фактам сямейнага разладу. З свайго боку правільна зрабіла і дзяўчына. Яна, не кахаючы яго, не дала згоды на сумеснае жыццё.

Мабыць, так трэба паступіць і Віктару (не кідаць, вядома, завода), а спыніць сустрэчы і дамаганні блізкіх адносін з Клавай. Яго воля, час і праца дапамогуць юнаку знайсці тое ўраўнаважанае становішча, якое ні ў якім разе нельга губляць у жыцці.

Здаецца, я не памылюся, калі выкажу пажаданне многіх чытачоў часопіса: пачуць парады і меркаванні нашых старэйшых чытачоў, якія маюць большы жыццёвы вопыт. Нядрэнна будзе, калі рэдакцыя змесціць думкі нашых старэйшых таварышаў, многія з якіх ужо адсвяткавалі «срэбныя», а то і «залатыя вяселлі».

А. МІКЛУШ.

## Важныя пытанні ў жыцці чалавека

Маладосць з'яўляецца самым светлым і жыццерадасным часам у жыцці чалавека. Ад нас залежыць выбраць правільны шлях у жыцці, быць карыснымі сваёй Радзіме.

Але, нажаль, многія з нас па той ці іншай прычыне ў жыцці сваім заходзяць у тупік. Часцей за ўсё гэта здараецца таму, што мы часам дрэнна разумеем, што такое дружба, сяброўства, каханне.

Якраз гэтае самае здарылася з Віктарам, які зайшоў у тупік у сваіх адносінах з Клавай. І толькі таму, што ён не ўяўляў сабе сапраўднай дружбы з дзяўчынай без кахання. Я лічу, што Віктар у гэтым памыліўся. Я лічу, што не абавязкова каханне для сапраўднай дружбы.

Мне здаецца, што ў Клавы прынцыповы характар, які можна паставіць у прыклад многім маладым людзям, якія, часта паддаючыся часоваму пачуццю кахання, стараюцца хутчэй жаніцца. А неўзабаве выяўляецца, што сапраўднага кахання не было, і маладажоны, вядома, разыходзяцца. Такіх з'яў шмат. У якасці прыкладу прывяду гісторыю адных маіх знаёмых — Колі М. і Каці В.

Дэмабілізаваўшыся з Арміі, Коля вярнуўся ў свой калгас. Неўзабаве на вечарынцы ён пазнаёміўся з Кацяй, якая жыла ў суседняй вёсцы. І яму здалося, што ён пакахаў яе. Не трацячы доўга часу, Коля сказаў аб гэтым сваёй каханай, а яна нібыта адказала яму ўзаемнасцю. Не прайшло нават месяца, як закаханыя, нягледзячы на забарону сваіх бацькоў, пажаніліся. Спачатку ўсё ішло добра. Але неўзабаве паміж маладажонамі адбылася спрэчка. Пачалося ўсё з таго, што Кацю пацягнула ў горад, як кажуць, «на паркетную падлогу». Коля-ж не пажадаў пакінуць свой родны калгас, якому так патрэбны былі працавітыя рукі. Тады Каця безапеляцыйна заявіла, што Коля яе не кахае і што так жыць яна больш не хоча. Пачаўся сямейны разлад. Не дапамаглі ні суседзі, ні родныя. На другім годзе пасля шлюбу, маладажоны разышліся.

У якасці вываду па пытаннях дружбы, таварыства і кахання трэба сказаць наступнае: сапраўдная дружба, заснаваная на павазе да чалавека — першае і самае неабходнае ў жыцці.

У заключэнне мне хочацца пажадаць ад усяго сэрца, каб Віктар і Клава, забыўшыся на ўсё былое, зноў моцна падружыліся і каб іх дружба, вытрымаўшы строгі экзамен, прывяла іх да ўзаемнага кахання.

М. ФЕЛІС,

калгас «Комсамолец», Івянецкага р-на, Маладзечанскай вобласці.

## Прыгажосць жыцця — у адзінстве інтарэсаў

У Віктара з Клавай не можа быць моцнага кахання, бо паміж імі не было сяброўства, павагі, давер'я, дружбы. Калі-б Віктар заўсёды быў уважлівым да Клавы, то, напэўна, яна стала-б іншым чалавекам.

Хачу расказаць пра Васіля С., маладога калгасніка. Працаваў ён добра. Хутка Васіля прызначылі брыгадзірам паляводчай брыгады, а потым у яго жыцці адбылася вялікая падзея — ён стаў комсамольцам. Брыгада яго заняла першае месца ў калгасе, і Васіль заваяваў аўтарытэт сярод калгаснікаў.

Аднойчы ў час уборкі ўраджаю Васіль цяжка захварэў. Яго палажылі ў раённую бальніцу. Малады ўрач комсамолка М. прыйшла на дапамогу хвораму: кожную ноч дзяжурыла каля пасцелі Васіля, падбадзёрвала яго. Паправіўшыся, Васіль пайшоў служыць у Совецкую Армію. У яго завязалася перапіска з М. Васіль пісаў аб сваёй глыбокай удзячнасці да дзяўчыны, якая выратавала яму жыццё. Пасля заканчэння службы хлопец вярнуўся ў родны калгас. Васіль моцна дружыў са сваёй дзяўчынай, яны паважалі адзін другога і хутка пажаніліся. Па закліку партыі Васіль з жонкай паехалі асвойваць цалінныя землі Казахстана. І я ўпэўнены, што ні гора, ні цяжкасці, нішто не перашкодзіць іх светламу каханню. Трэба, каб нашы людзі былі не толькі прыгожыя тварам, насілі прыгожае адзенне, галоўнае, каб у іх была прыгожая душа, каб яны ўмелі пабудаваць трывалую сям'ю, прыгожымі і сумленнымі выхоўвалі сваіх дзяцей.

Паважаны Віктар! Мы хочам бачыць у жыцці людзей разумных і прыгожых, чулых і добрых, праўдзівых і смелых, людзей, якія адказваюць каханнем на каханне, давер'ем на давер'е, людзей, для якіх праца — творчасць. Табе, Віктар, раяць адмовіцца ад Клавы. Не рабі гэтак, Клава, мне здаецца, паступае правільна.

Ты. Віктар, яшчэ малады, і я ўпэўнены, што ў цябе хопіць энергіі, комсамольскага запалу, каб перамагчы свае нягоды. Трэба зрабіць так, каб ты, Віктар, пры дапамозе калектыву пераканаўся ў сваіх памылках. Можна толькі пажадаць поспеху табе ў гэтым.

Мікалай УДОДАЎ,

вучань X класа Марозаўскай сярэдняй школы, Веткаўскага раёна, Гомельскай вобласці.

## Такое самалюбства тут не да месца

Да нас у пакой зайшоў Федзя, наш сусед па пакоі.

— Хлопцы, — сказаў ён, — вы чыталі вось гэта? — Федзя адкрыў старонку часопіса, паказаў на яе рукой і палажыў на стол.

— Чыталі, — сказаў я, паглядзеўшы на загаловак, — нават да трох гадзін ночы не спалі: усё вырашалі, ці правільна паступіў Віктар, калі адмовіўся ад сяброўства з Клаваю. Мы вырашылі, што ён памыляецца...

— Я таксама думаю, што Віктар паступіў не так, як трэба было, — сказаў Федзя. — Хлопцу чамусьці здалося, што яна пакрыўдзіла яго, адштурхнула назаўсёды ад сябе. Але Клава інакш і не магла паступіць: яна-ж не ведала добра Віктара, як чалавека. Ці магла дзяўчына адразу даверыцца яму? Вядома, што не.

Федзя гаварыў усё гэта з такім запалам, што нам здалося, нібы ён гаворыць гэта пра сябе. Жыхар нашага пакоя Толя нават не вытрымаў і спытаў:

— Федзя, а з табой нічога падобнага не здаралася?

Федзя нічога не адказаў, ён толькі пачырванеў і апусціў уніз галаву. Мы зразумелі: Толя ўгадаў.

Доўга Федзя не згаджаўся, але нарэшце пра ўсё расказаў нам.

Гэта было мінулай восенню. Федзя зайшоў да свайго сябра Андрэя, каб разам ісці з ім у кіно. У таварыша ён убачыў незнаёмую дзяўчыну, з якой і пазнаёміў яго сябра. Калі яны вярталіся дамоў, Валя запрасіла іх на інстытуцкі вечар. Прайшло некалькі дзён. Федзя пайшоў на вечар. З таго часу ён пачаў сустракацца з Валяю ўсё часцей. А праз некаторы час яны сталі сапраўднымі сябрамі. Спачатку яны былі, як і Віктар з Клаваю, толькі таварышамі. Яны хадзілі разам на каток, у кіно, тэатр. Былі выпадкі, калі паміж імі разгараліся спрэчкі наконт прагледжаных кінокарцін або наконт прачытаных кніг. Але спрэчкі ў іх не канчаліся сваркай, а, наадварот, яшчэ больш умацоўвалі іх таварыства. Так прайшло некалькі месяцаў. Магчыма, іх сяброўства магло перарасці ў каханне, але адзін выпадак не толькі сапсаваў будучае каханне, але палажыў канец і іх сяброўству. А было гэта так. Аднойчы вечарам Федзя выпадкова спаткаў на вуліцы Валю з нейкім белавалосым хлопцам. Яны ішлі павольна і аб нечым размаўлялі. «Вось чаму яе не было ў пакоі інтэрната», — падумаў Федзя. Валя ўбачыла яго толькі тады, калі Федзя павярнуў на другую вуліцу. Валя аклікнула яго. Федзя паскорыў хаду.

У наступны дзень ад Валі прышло пісьмо, дзе яна прасіла Федзю зайсці да яе. Але Федзя не пайшоў да яе. Праз некаторы час Федзя даведаўся: белавалосы хлопец — валін брат. Здавалася-б, што ўжо цяпер Федзя пойдзе да Валі і пагаворыць з ёю, папросіць прабачэння. Гэтага не атрымалася. Яму здалося, што калі ён пойдзе да яе, то паставіць сябе нізка.

На мой погляд, як у Віктара, так і ў Федзі ёсць адна адмоўная і даволі шкодная рыса характару: гэта іх самалюбства. Можа хто не згодзен? Тады чаму Віктар баяўся спаткацца з Клаваю, калі яна прыехала з санаторыя? Баяўся стаць у яе вачах наіўным хлопчыкам! Чаму ён не прыняў прапанову Клавы аб тым, што яны могуць быць сябрамі? Хіба ўсё гэта не гаворыць аб тым, што занадта вялікае самалюбства шкодзіць.

Н. ГАНЧАР, студэнт БДУ.

Юліан ТУВІМ

# *Пан Малюскевіч і кіт*

Жыў сабе пан Малюскевіч,
Маленькі такі небарачак,
Зведаў усё і агледзеў,
Кіта аднаго ён не бачыў.

Быў Малюскевіч драбнюткім,
Быццам-бы зернятка кавы,
І апрача — падарожнік,
Да справы турысцкай цікавы.

Толькі не трэба здзіўляцца —
Не быў ён малечаю хіба?
Адсюль і жаданне пабачыць
Кіта —
Найвялікшую рыбу.

Пан Малюскевіч вясёлы,
Яму падарожжа — пацеха.
Човен зрабіў ён спачатку
З лёгкай шкарлупкі арэха.
Выслаў у чоўне ён мякка
Донца бялюткаю воўнай,
Выстругаў з простай запалкі
Чатыры вяслы для чоўна.

Бочку віна і палатку,
Мех, што прыпасамі повен,
Веласіпед і начынне
Грузіць малеча на човен.



Радыё, компас, гармату,
Са стрэльбай набояў скрынку,
Футру, убранне, бялізну —
Усё на адну шкарлупінку!

Гэта было ўсё маленькім,
Маленечкім мак-малечкам,
Таму што і сам Малюскевіч
Маленечкім быў чалавечкам.

Човен прынёс ён пад пахай
У самалёт камарыны.
«— Да Гдыні!» —
Прамовіў ён важна.
І быў там праз поўгадзіны.

Порт ён наведаў адразу,
Пытаецца ён капітана:
«— Ці знойдзецца месца на моры?»
«— О, знойдзецца,
Проша пана!»

Не разважаючы доўга,
Човен пусціў ён на хвалі,
Плыве сабе ў моры, вяслуе,
З кожнай гадзінаю — далей.

Хвалі ўлягліся. Спакойна.
Гладкае мора, як шыба.
Толькі не бачыць малеча
Кіта —
Найвялікшае рыбы.
Вёсламі ўсімі вяслуе,
Сінія вокал прасторы.
Плыве ён удалеч два тыдні —
Кіта ўсё не бачыць на моры!

Кліча:
«—Цып-цып, мая рыбка!
Вынырні хоць на хвілінку,
Хоць пакажы, дарагая,
Хвосцік свой,
Носік
Ці спінку»...

Месяц, другі прамінулі.
Кіт з глыбіні не ўсплывае.
Дужа стаміўся малеча,
Сон яго вочы змыкае.

Добра на сушы паспаць-бы —
Справа найлепшая ў свеце!
Раптам на моры — о, дзіва! —
Нейкую выспу прыкмеціў.

Вынес ён човен на бераг,
Ходзіць па выспе бязлюднай:



«Вось адпачну і вярнуся,
Цяжка на моры і нудна».

Выспу разведаў старанна
На ровары лёгкім
Малеча.
Тры дні заняло падарожжа,
Вярнуўся да чоўна пад вечар.

Радыё трохі паслухаў,
Выпіў віна ды спявае.
Забіў камара ён з гарматы,
Хочацца спаць — пазяхае.

Трэба палатку расставіць.
Начынне дастаў ён з чоўна,
Цвік у зямлю забівае,
А выспа —
Апчхі! —
Раптоўна.

Чхнула, а потым рыкнула:
«— Хто тут? Чыя гэта справа?
І хто гэта ў нос кітовы
Цвікі забіваць мае права?»

«— Кіт?!» —
Закрычаў Малюскевіч,
Аж рэха пайшло на поўсвета.
«— Які табе кіт, недарэка!
Наздра яго левая гэта!

Я пад вадой, разумееш?
Рад будзь, што выжыў, дубіна».
«— А выспа?»
«— Якая тут выспа?
То носа майго палавіна».

Пан Малюскевіч затросся.
«— Хто мяне зноўку ласкоча?»
«— Не ласкачу я, трасуся,
Бачыць цябе не ахвочы».

Кінуў малеча свой човен
На хвалі,
Паплыў неўзабаве.
Гэтак дабраўся да Гдыні
І апынуўся ў Варшаве.

«— Бачыў, кіта, Малюскевіч?» —
Часта пытаюцца дома.
Нос угару задзярэ ён,
З гонарам кажа:
«— Вядома!»

Пераклалі з польскай мовы
А. ВЯЛЮГІН і С. ДЗЯРГАЙ.



*Зрабі сам*

## Як пераплесці кнігу

У кожнага знойдзецца некалькі кніг, якія патрэбна пераплесці. Гэта не вельмі цяжка зрабіць самому, і для гэтага не трэба мець складаных прыладаў.

Кожная кніга складаецца з пасобных сшыткаў. Перш за ўсё, яе акуратна разбіраюць, кожны сшытак ачышчаюць ад рэштак клею, падзёртыя лісты склейваюць палоскамі тонкай паперы. Падзёртыя па тэксту лісты склейваюцца палоскамі з папяроснай паперы.

Пасля гэтага неабходна ўзяць два падвойныя лісты пісчай або іншай нятоўстай паперы, па памеру разгорнутага сшытка кнігі. Гэта — форзацы. Кожны форзац — на 4—5 мм загінаецца. Акрамя таго, трэба ўзяць дзве палоскі паперы, даўжынёй роўнай вышыні кнігі, а шырынёй 5 см. Гэта — слізуры. Слізуры загінаюцца на 4—5 мм, згіб намазваецца клеем і прыклейваецца да згібу форзаца (гл. малюнак).




Затым бяруцца дзве палоскі баваўнянай тканіны шырынёй 2—2,5 см. Для большай пругкасці на тканіну наклейваецца тонкая папера. Гэтыя палоскі наклейваюцца да слізуры аднаго з форзацаў на адлегласці 4—5 см ад краёў яго.

Пасля ўсіх гэтых папярэдніх аперацый прыступаюць да сшывання кнігі.

Бяруць форзац з прыклеенымі палоскамі, кладуць яго слізурай уніз, затым у згіб укладаюць першы сшытак кнігі першай старонкай (тытулам) уніз, да форзаца. Сшываць трэба белымі ніткамі (20 або 10 нумарам). Робіцца гэта наступным чынам. Сшытак кнігі разгінаюць левай рукой у сярэдзіне, правай рукой праколваюць форзац і сшытак у месцы згібу на адлегласці 2 см. ад краю, працягваюць нітку, потым выводзяць нітку побач з палоскай і зноў уводзяць унутр сшытка ўжо з другога боку палоскі, зноў выводзяць побач з другой палоскай і з другога боку гэтай палоскі ўводзяць зноў у сярэдзіну сшытка, а затым на адлегласці 2 см ад краю выводзяць нітку.



ку. Потым бяруць другі сшытак кнігі, кладуць так, каб нумарацыя старонак сшыткаў не парушалася, і прышываюць яго ў такім самым парадку, як і першы. Канцы ніткі звязваюцца, накладваецца наступны сшытак і зноў прышываецца. У канцы прышывання кожнага сшытка нітка працягваецца ў пятлю, якая злучае папярэднія сшыткі. Такім чынам прышываюць усе наступныя сшыткі. Апошні сшытак трэба ўкласці ў згіб другога форзаца і прышыць яго таксама, як і папярэднія сшыткі, канец ніткі завязаць за сцяжок паміж папярэдніх сшыткаў. Пасля гэтага канцы палоскі тканіны трэба нацягнуць і прыклеіць да слізуры. Карашок кнігі прамазаць клеем і абклеіць палоскай газетнай паперы.



Сшытую кнігу, калі гэта патрэбна, абразаюць нажом па лінейцы. Калі кніга сшыта роўна, можна яе і не абразаць.

Пераплёт робіцца наступным чынам. Выразаюць з кардону дзве старонкі даўжынёй на 4—5 мм больш вышыні кнігі, а па шырыні роўныя з шырынёй кнігі. Чым таўсцейшая кніга, тым грубейшы бярэцца кардон. З якой-небудзь цёмнага колеру баваўнянай тканіны (калі няма калянкору) выразаюць палоску для карашка кнігі (даўжынёй на 4 см. даўжэй кнігі і на 5 см шырэй карашка). На тканіну для пругкасці наклейваецца тонкая папера. Затым з грубай паперы выразаюць отстаў, роўны даўжыні кнігі, шырынёю па таўшчыні кнігі.

Тканевая палоска намазваецца клеем, пасярэдзіне прыклейваецца отстаў і, адступіўшы на 4—5 мм ад яго, прыклейваюцца кардонныя старонкі, канцы тканіны загінаюцца і прыклейваюцца да оставу.









Застаецца абклеіць пераплёт каляровай пераплётнай паперай. Каб зрабіць гэта, бяруць два кавалкі паперы, даўжынёй на 4 см больш вышыні кнігі і на 2 см шырэй яе. Папера намазваецца клейстарам і наклейваецца на старонкі пераплёту, вуглы зразаюцца, а краі загінаюцца ў сярэдзіну (гл. малюнак).

Пасля гэтага сшытая кніга ўстаўляецца ў пераплёт: намазваецца клеем слізура (папярэдне вуглкі слізуры зразаюцца пад вуглом 30°) і да яе прыклейваецца пераплёт так, каб край кардону быў роўны з карашком кнігі; затым намазваюць другую слізуру і прыклейваюць другую старонку пераплёту; праз некалькі мінут намазваюць клейстарам форзацы і прыклейваюць іх да пераплёту.

На гатовую кнігу кладуць цяжар і даюць ёй добра прасохнуць.

Клеіць кнігу трэба наступнымі клеямі: для прыклейвання тканіны ўжываюць пераплётны клей, які прыгатаўляецца з звычайнага коснага сталярнага клею з дабаўкай 1/20 часткі гліцарыны; папера прыклейваецца звычайным крухмальным клейстарам.

І. ШАРШУЛЬСКІ.



Польскі завод машынабудаўніцтва ў Дамброве — Гурнічах выпускае станкі, частка якіх экспартуецца за мяжу, у тым ліку ў Індыю і Амерыку.

Фото Дамбравецкага.



У Гуцяне (Кітайская Народная Рэспубліка) уступіла ў строй новая гідраэлектрастанцыя.

Фото агенцтва Сіньхуа.



Народная Рэспубліка Балгарыя. Балет «Лебядзінае возера» П. І. Чайкоўскага на сцэне Народнай оперы ў Сафіі.

Фото «Балгарскай фатаграфіі».






Румынская Народная Рэспубліка. Летась у Ясах зданы ў эксплуатацыю адзін з буйнейшых у Еўропе заводаў антыбіётыкаў. Большая частка абсталявання завода зроблена ў СССР. На здымку: у адным з цэхаў завода.

Фото Румынскага тэлеграфнага агенцтва.

На гэтым фото — домна Сталінаварошскага камбіната імя І. В. Сталіна ў Венгерскай Народнай Рэспубліцы.





На цэнтральным стадыёне «Моранбон» у гор. Пхен'яне прайшла рэспубліканская спартакіяда студэнтаў. На здымку: спаборніцтвы па нацыянальнай карэйскай барацьбе.

Фотахроніка ТАСС.

На Міланскай выстаўцы, у якой будзе прымаць удзел Савецкі Саюз. На здымку: афармленне памяшкання, дзе будуць экспаніравацца савецкія тавары.

Фото агенства Публіфото.




Дэманстрацыя пратэсту ў горадзе Залінгене супраць увядзення воінскай павіннасці ў Федэральнай Рэспубліцы Германіі.

Фото Цэнтралабільд.



# Для адпачынку

## ШАХМАТЫ

пад рэдакцыяй майстра спорту **А. СУЭЦІНА**

### ШАХМАТНЫЯ КУР'ЁЗЫ

✦

**Пагроза мацнейшая за выкананне.**

Гросмайстар Німцовіч не пераносіў курэння і ўсяго, што з ім звязана. У час Н'ю-йоркскага турніра 1927 года ў адным з тураў ён сустрэўся з гросмайстрам Відмарам. Відмар паклаў на стол перад сабою пачак папірос, аднак з-за павагі да свайго партнёра, ведаючы аб яго нервовасці, пачак не распячатваў. Прайшоў нейкі час, і раптам Німцовіч стаў размахваць рукамі, дзьмуць з усяе сілы, як-бы адганяючы ад сябе ўяўны дым.

— Што Вы робіце? — здзівіўся Відмар. — Я-ж не куру.

— Так, я бачу. Але Вы пагражаеце закурыць!

✦

У 1911 годзе Шпільман іграў з Алапіным матч з 10 партый са своеасаблівымі ўмовамі, прапанаванымі Алапіным: ігракам было дазволена ў час ігры аналізаваць пазіцыю на асобнай дошцы. Хоць Шпільман не выкарыстаў ні разу гэты дазвол, аднак ён выйграў матч з вынікам + 5, — 2, = 3.

✦

Вядомы амерыканскі шахматыст Шыплей у адной з партый, іграна па перапісцы, якая прывяла да пешачнага эндшпіля, аб'явіў мат у 22 ходы.

✦

У партыі паміж Хайесам і Грунфельдам з Карлсбадскага турніра 1923 года пасля 94 хода была знята з дошкі адна-адзіная пешка, якая засталася на ёй!

✦

У вядомым дапаможніку Дзюфрэня, які перапрацаваны Мізесам, ёсць наступны варыянт: 1. d4 d5, 2. c4 e6, 3. Kc3 c5, 4. Kf3 cd, 5. K:d4 e5, 6. Kdb5 d4, 7. Kd5 Ka6, 8. Фa4 Cd7, 9. e3 Ke7, які канчаецца словамі: «І пазіцыя чорных лепш». Як відаць, аўтары прагледзелі, што белыя даюць мат у адзін ход! (10. Kd6X).

✦

Рубінштэйн у партыі з Эйве з Кісінгенскага турніра 1928 года трапіў у наступную пастку: 1. Kf3 d5, 2. C4 c6, 3. d4 Kf6, 4. Cg5 Kbd7, 5. e3 Ce7, 6. Kc3 0 — 0. 7. Лc1 c6, 8. Cd3 a6, 9. cd ed, 10 0 — 0 Лe8, 11. Фb3 h6, 12. Cf4 Kh5?, 13. K:d5!, і белыя выйгралі пешку.

Праз два гады пасля гэтага Рубінштэйн, іграючы з Алёхіным на турніры ў Сан-Рэмо ў 1930 годзе, трапіў у тую-ж самую пастку!

✦

Амерыканскі майстар Фокс атрымаў за сваю партыю супраць Лоурэнса ў матчы, іграным па кабелю з Англіяй у 1911 годзе, залаты медаль «за выключна бліскучую камбінацыю ў 28 ходаў». Эмануіл Ласкер, каментыруючы гэтую партыю, указаў, што Фокс меў магчымасць фарсіраваць выйгрыш адным ходам!

## ШАШКІ

**КОНКУРС «МАЛАДОСЦІ»**



Задача № 1.



Задача № 2.



Задача № 3.



Задача № 4

Белыя пачынаюць і выйгрываюць.

За правільнае рашэнне задач №№ 1, 2 і 3 залічваецца па 1 ачку; за задачу № 4 — 2 ачкі.

## МОДЫ

**1. Плацце са штучнага крэпжаржэту для школьніцы, выпускніцы сярэдняй школы. Спадніца шырокая, раскляшоная, аздобленая аборачкамі і сінім кантам.**

**2. Плацце з каляровага штучнага крэпжаржэту для школьніцы-выпускніцы. Ліф і спадніца аздоблены рушамі. На спадніцы сіметрычнае размяшчэнне рушаў, прастрочаных пасярэдзіне.**

**Аўтар мадэлей М. Мікульчык.**

**3. Плацце камбінаванае з блакітнага і белага крэпжаржэту для маладой дзяўчыны. Спадніца чатырохшоўная, густа сабраная па таліі, аздобленая аплікацыяй. Блузка з кароткім цэльнакроеным рукавом і вялікім каўнерам.**

**4. Вясновае плацце-касцюм. Блуза з тканіны ў клетку, прамая, свабодная, тыпу джэмпера, каўнерык адкладны, засцёжка-маланка, кішэні накладныя, шарфік аздоблены аплікацыяй. Спадніца прамая, вузкая, са складкай на спіне.**

**Аўтар мадэлей А. Гадзіцкая.**

## КРАСВОРД

**Па гарызанталі:** 5. Мужчынскае адзенне. 8. Група вайсковых часцей. 9. Мясны прадукт. 11. Аднадумнасць. 13. Прафесія ў жывёлагадоўлі. 14. Возера на Далёкім Усходзе СССР. 18. Штучны камень, які мае выгляд цэглы. 21. Багіня сляпога выпадку ў рымлян. 22. Групавы танец са спевамі. 23. Уступ у літаратурны твор. 24. Вядомы рускі фізіёлаг. 28. Дарожна-будаўнічы матэрыял. 29. Самалюбства. 30. Сталіца саюзнай рэспублікі. 33. Вядомы беларускі партызан. 34. Марскі праліў. 35. Музычны інструмент. 38. Адмова парадку і дысцыпліны. 39. Абласны горад Украіны. 40. Жыхар дэмакратычнай дзяржавы.

**Па вертыкалі:** 1. Легендарны дар чалавецтву ад Праметэя. 2. Кустарнік. 3. Крыніца водазабеспячэння. 4. Горад на Урале, вядомы вытворчасцю мастацкага чыгуннага ліцця. 6. Вядомая карэйская грамадская дзеячка. 7. Поўвостраў у Азіі. 10. Начальнік войска ў старыя часы. 12. Цяжкая задача. 15. Стваральнік машын. 16. Саюз рэспублік. 17. Горад на Ладажскім возеры. 19. Горад Мінскай вобласці. 20. Метал. 25. Пачатак дня. 26. Форма грамадскай гаспадаркі. 27. Карэнны жыхар мясцовасці. 31. Мінерал — сал. кіслот. крэмнія. 32. Сталіца саюзнай рэспублікі. 36. Французскі матэматык-вучоны. 37. Жывёла, якую разводзяць у тундры.




Рэдактар Аляксей КУЛАКОЎСКІ

Рэдакцыйная калегія: Алесь АСІПЕНКА, Дзмітры БАЛЬШОЎ, Янка БРЫЛЬ, Юры ВАСІЛЬЕЎ, Іван ГРАМОВІЧ, Міхась ЛЫНЬКОЎ, Сяргей СЕЛІХАНАЎ, Максім ТАНК, Георгі ШЧАРБАТАЎ (намеснік рэдактара).

«Молодость».
Ежемесячный литературно-художественный и общественно-политический журнал ЦК ЛКСМБ.

Афармленне В. Грамыкі. Тэхрэдактар І. Шаршульскі. Карэктар Л. Таўлай.

Адрас рэдакцыі: Мінск, вуліца Карла Маркса, д. 66. Тэлефон 93-854.

Фармат паперы 70 × 108¹/₈. Друк. арк. 4. Вуч-выд. арк. 7. Здадзена ў набор 13.V.56 г. Падпісана да друку 1.VI. 56 г.

АТ 01089. Тыраж 20 000 экз. Цана 2 руб. Заказ 391.

Газетна-часопіснае выдавецтва Галоўвыдата Міністэрства культуры БССР. Мінск, праспект імя Сталіна, 105.

Друкарня імя Сталіна, Мінск, праспект імя Сталіна, 105.

